

**У летні дзень.**
Фото С. Чырэшкіна.

На першай старонцы вокладкі: **Рэспубліканская выстаўка дзеючых мадэляў, зробленых рамесніцкімі тэхнічнымі вучылішчамі.** На чацвёртай старонцы вокладкі: **Мінскі завод жалезабетонных канструкцый.**
Фото А. Дзітлава.



Матацыклісты на трэніроўцы.

# МЫ — МІРНЫЯ ЛЮДЗІ...

С. КУХАРАЎ, С. ЧЫРЭШКІН

Рэпартаж

Яшчэ зімой у рэспубліканскіх газетах прамільгнула заметка, у якой паведамлялася, што члены пярвічнай арганізацыі ДТСААФ калгаса імя Сталіна Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці звярнуліся з заклікам да ўсіх дэтэсафаўцаў краіны разгарнуць спаборніцтва за новы ўздым абаронна-масавай і спартыўнай работы ў вёсцы, за дастойную сустрэчу ўсенароднага свята — 40-й гадавіны Вялікага Кастрычніка.

У сваім пісьме-звароце дэтэсафаўцы з калгаса на Брэсчыне пісалі:

«Наша вобласць з'яўляецца пагранічнай вобласцю. У 1941 годзе мы першымі прынялі ўдар гітлераўскай Германіі, нашы людзі адчулі на сабе ўсе жахі фашысцкай акупацыі. Таму мы з асаблівай увагай сочым за каварнымі прошукамі імперыялістычных агрэсараў і ў меру сваіх сіл умацоўваем абаронную магутнасць любімай Радзімы».

Нас зацікавіла гэтая каштоўная думка-ініцыятыва, якую праявілі актывісты з далёкага палескага калгаса.

...Лёгка, менш як за адну гадзіну, мы дабраліся самалётам да Пінска. А адтуль да Іванаўскага калгаса недалёка — кіламетраў шэсцьдзесят пяць. Мы ўжо надвячоркам былі ў Моладаве — цэнтры калгаса.

Вялікая зялёная вёска Моладава сустрэла нас звонкім гоманам басаногай дзетвары, якая дружным гуртам выбегла з-за паваротки насустрач нашай грукатлівай пасажырцы, і густым, ап'яняючым пахам расцвіўшай чаромхі. Мілыя, цікаўныя дзеці! Яны як абляпілі з усіх бакоў машыну, дык не разыйшліся, пакуль не праводзілі вачыма кожнага прыезджага чалавека. А потым нас правялі аж да клуба, дзе, па іх словах, і старшыня калгаса, і ўсё, што нам трэба...

У клубе адразу нам трапіўся і той чалавек, пра якога нам расказвалі яшчэ ў райцэнтры,— Марыя Мікалаеўна Чваркова, вельмі рухавая, энергічная жанчына з гарэзлівымі шэрымі вачыма на маладым загарэлым твары, з гладкімі, сабранымі ў тугі вузел бялявыміваласамі. Жанчына гартала нейкія паперкі і як-бы з неахвотай адказала на наша прывітанне. Потым, калі дазналася аб мэце нашага візіту, раптам ажывілася, адразу прапанавала нам агледзець сваю гаспадарку — пакой для абаронных і спартыўных гурткоў, бібліятэку, наглядныя дапаможнікі.

Марыя Мікалаеўна — жанчына

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V.

Чэрвень.

№ 6 (51).

1957.

Радыёаматары на чале з кіраўніком Васілём Ігнатавічам Навумчыкам (крайні злева) на практычных занятках.



з аганьком, з запалам сапраўднага масавіка-арганізатара. Выхаванка камсамола, яна ў час вайны была ў партызанах падрыўніком. У першыя пасляваенныя гады вучылася, а потым працавала ў палітаддзеле. Цяпер працуе бібліятэкарам, кіруе калгаснай мастацкай самадзейнасцю. Некаторыя жанчыны яе ўзросту ўжо скардзяцца, што ім некалі займацца грамадскай работай, бо ўвесь час забіраюць сям'я і хатнія клопаты. А вось Марыя Чваркова лічыць, што грамадскія даручэнні ніколькі не шкодзяць ёй быць спраўнай гаспадыняй.

Прыехаўшы ў вёску разам са сваім мужам Пятром Васільевічам Чварковым, якому партыя даручыла вывесці з прарыву адстаючы калгас, Марыя з уласцівай камуністцы энергіяй уключылася ў грамадскае жыццё. Жонку старшыні можна было бачыць і на полі за працай разам з вясковымі жанчынамі, і на сцэне — з песняй, у танцы. Згуртаваны ёю самадзейны калектыў з'яўляецца лепшым у раёне.

Калі год таму назад у Моладаве праходзіў справаздачна-выбарчы сход пярвічнай арганізацыі ДТСААФ, нехта з калгаснікаў прапанаваў выбраць старшынёй камітэта Марыю Чваркову. Усе ахвотна згадзіліся з гэтай прапановай. І не памыліліся.

Мы разглядалі граматы і дыпломы ў зашклёных рамках на сценах у клубе, якімі ўзнагароджана калгасная арганізацыя ДТСААФ за поспехі ў абароннамасавай і спартыўнай рабоце, слухалі скупы, без пахвальбы расказ Марыі Мікалаеўны аб справах дэтэсафаўцаў, захапляліся добра абсталяваным пакоем, дзе ёсць усё неабходнае для вучобы і трэніроўкі, і ўсё больш пераконваліся, што гэта жанчына — сапраўдны масавік-арганізатар. Гэта яна здолела з той іскры, што кінулі крыху раней камсамольцы-актывісты, распаліць яркае вогнішча.

Такія на першы погляд празаічныя рэчы, як гурткі, паходы, стрэльбішчы,—змаглі ўскалыхнуць усе вясковыя закуткі, згуртаваць моладзь, разбудзіць у вёсцы нават самых пасіўных. У члены ДТСААФ уступіла 1 500 чалавек, створана велізарная масавая арганізацыя. Гэта ў калгасе, дзе яшчэ тры гады назад людзі неахвотна ішлі нават на сходы, не кажучы ўжо аб актыўным удзеле ў якіх-небудзь іншых грамадскіх мерапрыемствах.

У Моладаве знайшліся і свае тэлефаністы, і радыётэхнікі, і інструктары па стральбе, і трэнеры па плаванню. Перад тым, як мы прыехалі ў калгас, старшыня раённага камітэта ДТСААФ Віктар Глухоўскі ўручыў 27 калгаснікам, якія закончылі курсы, пасведчанні на права ваджэння матацыклаў усіх марак. Зімой адбыліся стралковыя спаборніцтвы, прысвечаныя гадавіне Совецкай Арміі; падрыхтавана 18 інструктараў па супроцьпаветранай абароне і 20 спартсменаў-разраднікаў.

Заняткі спортам, на якія яшчэ нядаўна глядзелі, як на непатрэбную, дзіцячую забаву, захапілі і моладзь і пажылых вяскоўцаў. Побач з новым, выдатным клубам — спартыўны гарадок. Тут кожны вечар трэніруюцца калгасныя валейбалісты, гімнасты, бегуны... У выхадныя і святочныя дні спаборнічаюць веласіпедысты, матацыклісты. На рэчцы Ясельда, што працякае непадалёку ад вёскі, часта наладжваюцца прагулкі на лодках, спаборніцтвы плыўцоў. Неўзабаве «калгасны флот» папоўніцца двума чатырохвёсլавымі ялікамі, і тады аматары пойдуць у паход на шэсцьдзесят кіламетраў.

А хіба не прынясуць карысці і задавальнення моладзі такія мерапрыемствы, як экскурсія ў Брэсцкую крэпасць ці сустрэчы з фізкультурнікамі суседніх калгасаў «Чырвоная звязда» і «Бальшэвік». Усё гэта запланавана і будзе зроблена. Актывісты з калгаса імя Сталіна не кідаюць слоў на вецер. Нездарма яны заклікалі ўсіх членаў ДТСААФ краіны: «За работу, таварышы!»

У тыя дні, калі мы гасцявалі ў Моладаве, заканчвалася веснавая сяўба. Перадавая брыгада маладога камуніста Яўстрата Каліноўскага, які, між іншым, з'яўляецца адным з актыўных і баявых членаў камітэта ДТСААФ, завяршала пасадку бульбы. Вядома, што ўвесь клопат вясной у вёсцы пра тое, каб у час пасеяць, закласці аснову багатага ўраджаю.

— Крыху ранавата вы прыехалі,— паспачуваў нам старшыня калгаса Пётр Васільевіч Чваркоў, даведаўшыся пра нашу задуму.— Няма ў нас цяпер часу: самі разумееце — вясна...

Памаўчаўшы, як-бы ацэньваючы, якое ўражанне зробяць на нас яго слова, старшыня неяк загадкава ўсміхнуўся, і па гэтай усмешцы мы зразумелі: ганарыц-



Хвёдар Каліноўскі дэманструе сваё спартыўнае майстэрства.

Фехтавальшчыкі Міхаіл Мельнік і Васіль Алейнік.



ца чалавек калгаснымі дэтэсафаўцамі.

— Заўтра сёе-тое ўбачыце,— пасля некаторага маўчання зноў таямніча ўсміхнуўся старшыня і прапанаваў нам далучыцца да хлопцаў, што ў суседнім пакоі заўзята гулялі ў більярд.

Мы ўжо ведалі, што тут і вясной праводзіліся трэніроўкі, спаборніцтвы, не спыняліся заняткі абаронных і тэхнічных гурткоў. Моладаўскія валейбалісты гралі ў зборнай камандзе, якая не так даўно сустракалася ў Іванаве з пінскімі фізкультурнікамі, а каманда матацыклістаў адкрыла ўрачыстае шэсце на раённым фестывалі моладзі.

Марыя Чваркова.

Тое, што мы ўбачылі ў Моладаве назаўтра, было сапраўды вартым, каб пахваліць не толькі Марыю Чваркову і яе баявых памочнікаў, членаў камітэта — Яўстрата Каліноўскага, Васіля Навумчыка, Браніслава Ярашэвіча, Алеся Шыкелю, але і ўсіх хлопцаў і дзяўчат, што так шчыра і заўзята паказвалі свае дасягненні.


Калгасныя стралкі ля мішэняў. Злева направа: **Васіль Каліноўскі, Георгі Барысевіч і Анна Кузюр.**

У тую сонечную майскую нядзелю было вельмі людна ля клуба, на загуменнях, на ўзлессі. Праводзіліся спаборніцтвы, гульні, заняткі, — своеасаблівы агляд працы калгасных дазорцаў.

Яшчэ раніцой на зялёнай пляцоўцы непадалёк ад клуба сышліся хлопцы-фехтавальшчыкі. Змаганне на рапірах — любімы занятак камсамольцаў Міхаіла Мельніка і Васіля Алейніка. Яны вось так часта сустракаюцца, каб паказаць свой спрыт і ўмельства. Сёння фехтавальшчыкі асабліва ўпарта змагаліся, бо кожны хацеў дамагчыся першынства.

Радыёгурткоўцы са сваім кіраўніком сяржантам запаса Васілём Ігнатавічам Навумчыкам праводзілі заняткі ў так званых палявых умовах — пад разгалістай сасной. У радыёгуртку 17 чалавек. Яны не толькі добра вывучылі матэрыяльную частку радыёапаратуры, але і зрабілі карысную практычную работу — тэлефанізавалі жывёлагадоўчыя фермы, злучылі іх з канторай калгаса. Неўзабаве мяркуецца тэлефанізаваць усе восем калгасных брыгад.

Цяжкаатлеты таксама паказалі сваё майстэрства. Асабліва ўдала выступіў Хвёдар Каліноўскі, які рабіў адмысловыя практыкаванні з двухпудовай гірай. Хвёдар — хлопец з выгляду шчуплаваты, а сілу мае багатырскую. Ён не толькі добра выжымае двухпудовую гіру, робіць «сонца» на турніку, але і больш за іншых можа ўзараць і скасіць...

Трэніраваліся і матацыклісты, і санітары, і тэлефаністы. Група дэтэсафаўцаў зрабіла невялікі паход у процівагазах. Вопытныя стралкі паказвалі навічкам, як карыстацца вінтоўкай, навучалі правілам стральбы.


Нядзельнік закончан. Моладзь накіроўваецца на прагулку.

Але гэта яшчэ не ўсё. Дэтэсафаўцы вырашылі сваімі сіламі зрабіць поўзакрыты цір. Таму, нягледзячы на святочны настрой, амаль усе прыйшлі з рыдлёўкамі і некалькі гадзін капалі катлаван для яго.

Сярод гэтых маладых, бязвусых хлопцаў, сярод ружовашчокіх шчабятух-дзяўчат мы бачылі камлюкаватага, з пасівелымі скронямі чалавека — калгаснага садоўніка Васіля Мацвеевіча Вакульчыка.

Гэты чалавек перажыў усе жахі мінулай вайны, прайшоў цяжкія салдацкія дарогі. Мы бачылі як Васіль Мацвеевіч зухавата скінуў верхнюю клятчатую кашулю, узяў у рукі рыдлёўку, заўзята папляваў на далоні і весела крыкнуў да моладзі:

— Дружней, хлопцы!

Нам падумалася: гэты пажылы садоўнік выйшаў разам з моладдзю, па сваёй ахвоце ўзяўся за рыдлёўку, бо ён бачыў сваімі вачыма вайну; ён прыспешвае маладых прыхільнікаў ДТСААФа таму, што моцна любіць сваіх дзяцей, свой палескі край і не хоча, каб роднае, чыстае неба заслаў горкі, злавесны дым.

Нібы адгадаўшы нашу думку, Марыя Чваркова, што падыйшла да нас на той час, натхнёна сказала:

— Мы ведаем, што такое вайна, а таму будзем пільна стаяць на варце міру, на варце нашага мірнага шчаслівага жыцця.

**Калгас імя Сталіна Іванаўскага раёна.**


Трэніровачны паход з процівагазамі.

# Украіна, цвеце любы,

## Украінскія вершы

Наталля КАШЧУК

### Беларусі

Мільгне то сасна, то бярозка.
Ды зноўку палетак рунее.
У саюзе рэспублік сяброўскіх
Твой край, Беларусь, маладзее.

Ты водарам жытняга хлеба
Насустрач дыхнула гасцінна.
Вітаеш нас з яснага неба
Узмахамі крыл жураўліных.

Цвет вішань і яблынь знаёмы,
І высяў блакітных глыбіні,
Нібыта мы ў Кіеве дома,
На роднай сваёй Украіне.

І дышацца лёгка тут гэтак
І гэткія чуюцца песні,
Як-быццам іх нашых палеткаў
Вятры веснавыя прынеслі.

Бярозы ды сосны, рабіны.
Вяртаюцца з выраю гусі.
Сардэчны прывет з Украіны
Прыміце, браты-беларусы.

Пераклаў з украінскай мовы
П. Макаль.

Мікола ГІРНЫК

### Сыну

Ведай, чаму ноччу, сыне,
Свецяцца ясныя зоркі.
Плод пакаштуй арабіны —
Ці ён салодкі, ці горкі.

Будзеш улетку ля хаты
Бегаць іржэўнікам босы,—
Свісні, калі куранятак
Коршун заўважыць з нябёсаў.

Выраж дубец, каб уранні
Выгнаць карову да гаю.
І на кані на драўляным
Імчыся ў атаку Чапаем.

Трапіш, сынок, на калючкі,
Вырві дзядоўнік адважна.
Слёз-жа не лі, як на ручках
Раны ёдам памажуць.

Пойдзеш жыццёвай дарогай,—
Не адступай пры няўдачы.
Слёзы ў бядзе — не падмога,
Хай лепей вораг паплача.

* * *

Над стэпам плача летні вечар
Слязамі зор, што ў небе ззяюць.
З табой чакаючы сустрэчы,
Я іх, як пацеркі, збіраю.

Нанітаваць хачу на промень,
Што лёг на сцежцы у пшаніцы.
Ды воддаль, у ледзь чутным громе,
Над стэпам бліснула зарніца.

І ты прыбегла у трывозе,
Што навальніца б'е ў прасторы,
Што перад шчасцем на дарозе
Маланка нам заслоніць зоры,

Што можа зноў на наша поле
Дыхнуць спякота ў родным краі...
Я-ж без цябе жыцця ніколі,
Як зор без неба, не ўяўляю.

Параклаў з украінскай мовы
П. Прыходзька.

Олекса ЮШЧАНКА

### Школьнікі садзілі бульбу...

Скрозь палеткі ды лагчыны,
З маладых бяроз гайкі.
Дождж вясенні раптам хлынуў,
Зашумелі раўчукі.

Хмару абыйшлі мы збоку —
Суха, тут дажджу няма.
... Колькі тут дзяцей навокал!
Школа ў полі нездарма.

Захацелася нам з імі
Пабываць у гэты час.
Галасамі маладымі
Вучні прывіталі нас.

— А мы бульбу, бульбу садзім!
.. І пра бульбу песню ўлад
Падхапілі дружна, гучна, —
Не патрэбен ім загад!

«Бульбу хваляць усе людзі,
Што смачней за бульбу будзе,
Ці ў мундзіры, ці таўчона,
Ці варона, ці пячона?
Трам-там-там, тара-рам!»

З дзецьмі той часінай весняй
Бульбу ў полі я садзіў,
І яе нядарма ў песні
Называюць дзівам дзіў!

Поціск рук на развітанне,
Пажаданні з добрых слоў:
Калі будзе выбіранне,
Прыязджайце к нам ізноў.

Будзем мы тады на полі
Бульбу ў вогнішчы пячы,
Лепшай, чым у нашай школе,
Не знайсці нідзе ніколі,
Хоць поўсвета абскачы.

«Мы з яе наварым кашы
І раднёю ўсю склічам нашу.
Каму каша не пад смак
Таму юшкі мы — чарпак!

Трам-там-там, та-ра-рам,
Хай ён бульбу з юшкі есць».

— Што-ж, на ваш прыеду кліч я,—
Бо садзіў-жа нездарма!

... Дым пяшчотны нос казыча,
Той, якога шчэ' няма.
...Вогнішча цвіце, не гасне
Паміж поля на лужку...
Ах, ды то-ж маленства ўласнае
Праплывае ў тым дымку.

Пастушкі, сябры малыя,
Вогнішча ў асенні час...
Прыгадаў я дні былыя...
Так. Прыеду я да вас!

«Ой, ды туры, растатуры,
Мы не панскае натуры! —
Ведаем усё як след,
Што без бульбы — не абед!
Трам-там-там, та-ра-рам,
Ой, без бульбы кепска нам».

Пераклаў з украінскай мовы
А. Астрэйка.

Сяргей ВАСКРЭКАСЕНКА

### Узгаднякльнік на паляванні

Выехаў Ступак Ахрым
У нядзелю з рання
Удвух з начальнікам сваім
З мэтай палявання.

Не начальнік быў ён — нам,
Нават і не першы,
Дый Ступак начальнік сам,
Праўда, значна меншы,

Нама-ж гэтага Ахрым
Паважаў, як бога, —
Не узгодненага з ім
Не рабіў нічога.

Вось і выехаў Ахрым
У нядзелю з рання
Удвух з начальнікам сваім
З мэтай палявання.

А у лесе немата,
Толькі вецер вее,
Скрозь такая пекната —
Ажно сэрца млее!

Ціха падае сняжок,
Пахне скрозь азонам...

Паляўнічыя лужок
Абыйшлі загонам.

Вось Ахрым на след напаў,
(Зайцу не да жарту!),
Ажно дыхаць перастаў,
Пэўна ад азарту.

Сэрца б'ецца так-так-так,
Не хапае духу,
Шэпча сам сабе Ступак:
— Ні пяра ні пуху...

Заяц сеў за метраў пяць...
Але знік начальнік!
— Не ўзгаднішы, ды страляць!?—
Думае ўзгаднякльнік.

Плюнуў заяц і сказаў:
— А ідзі ты к бесу!
Хвост Ахрыму паказаў
І памчаў да лесу.

Пераклаў з украінскай мовы
Ул. Корбан.

Дзмітро БІЛОУС

### Што за птушкі

Што за птушкі, падзівіцца,
Вольныя ў рабочы час,
Нават у самой сталіцы
Казыраюць паміж нас?

Што ідзе там за персона
Па Хрышчаціку—ай-ай!
Ані пава, ні варона,
Ну, сапраўдны папугай!

Па файэ кіно ён шпарыць...
Плашч зялёны — памяло,
Хлясцік доўгі—усё да твару...
Быццам той свінні сядло.

Нібы блазан той у цырку, —
Мае дудачкі-парткі,

А ў партках тых ён, як цыркуль—
Зірк ды зірк ва ўсе бакі.

То Раман, сыночак мамін,
Як-ні-як, а ў ВНУ
Ён трымаў штогод экзамен,
Ды канфуз з ім быў, ну-ну...

Спадзяваўся на падмогу
Ён дзядзькоў высокіх, ды
Праваліўся... б'юць трывогу;
Як пазбавіцца бяды?

У вачах яго знявага,
Ён бубніць: «Бадзяга я...»
Не, бадзяга не бадзяга,—
Труцень ён каля рая.

«Хай сядзіць наш Рома дома,
Трэба ўважыць — маладосць!
Можна жыць і без дыплома,
Пакуль тата й мама ёсць...»

І навошта парту ў школе
Дзесяць год займаў блазён?

Ні на фабрыцы, ні ў полі —
Пустацвет ён, вось хто ён.

А адзенне-ж у латругі!..
Папугай — на ўсе бакі...
Вось з такіх растуць хапугі,
Сорам глянуць на такіх.

Сэнс зусім не ў тым, што ў лотры
Плашч крыклівы, а ўсяго
Справа ў тым, што ў макотры
Свішча вецер у яго.

Пераклаў з украінскай мовы
С. Дзяргай.

# сонцам гадаваны!




Мал. Л. Дубара.

**Міхайла РУБАШОЎ**

**Эцюд**

За агародамі, паміж парканам і возерам, у засені дуплістых вербаў і маладых бярозак, на пакатым лужку пераліваюцца фарбы траў і кветак.

Гэтак-жа ўсё мяняецца і на душы ў Савы Гетманца. То лёгенькім ветрам павее, то ціха стане, як на лужку, калі і травы, і густыя прыбярэжныя кусты, і дрэвы, здаецца, затояць дыханне, то зноў нібы зашумяць сакавітай зелянінай...

Чакае Сава Настачку не дачакаецца.

Чаго-ж яна забавілася? Ужо вось закракала, загелгетала яе птушынае царства на азярцы — выпусціла пасля абеду, пара-б і самой прыйсці. Дык не — трэба-ж гэтак затрымацца. Незразумелая яна часам бывае: не разбярэш, калі гаворыць сур'ёзна, а калі жартуе. Ёй — смешкі, а Саве...

... Малады мастак-аматар самотна пазірае на самаробную скрынку з фарбамі, пляшачкай алею, пэндзлямі, на старанна загрунтаванае, туга напнутае на падрамнік даматканае палатно. Павольна перагортвае старонкі альбома, нібы нехаця спыняе позірк на малюнках, эскізах, накідах, зробленых акварэллю і алоўкам, і на памяць пачынае накідваць вобраз Настачкі.

Гэта так сабе, пробны накід, папярэдні эскіз.

Вось ужо ляглі на паперы выразныя контуры такога знаёмага твару.. Вочы ніяк не ўдаюцца, нейкія невыразныя выходзяць. У Настачкі-ж вочы глыбокія, з жывымі агеньчыкамі, крыху ўсмешлівыя. Гляне — сэрца замірае.

А вось нядаўна, калі Сава быў заікнуўся, што хоча намаляваць яе партрэт, паглядзела на яго, нібы ледзяной вадой абдала.

— Яшчэ што выдумаў! І не збірайся!

А ці-ж ён дрэнна малюе? На ўвесь раён славіцца партрэтамі калгаснікаў і калгасніц. Спытайце, чыіх рук гэтая справа дэкарацыі ў клубах суседніх калгасаў? Кожны скажа — яго. А чыю карціну ўзялі ў абласны дом народнай творчасці? Вядома чыю,— Савы Гетманца. Пра насценную газету і пытаць няма чаго: Сава не толькі размалёўвае, але і рэдагуе яе. Ды яшчэ як размалёўвае! Як рэдагуе!

Зусім нядаўна быў допіс і пра Настачку. Грыцько Самацвет падаў.

— Распішы яе, Сава, — сказаў ён, — пад першы нумар распішы. Жыцця мне цераз яе няма...

— Так яе і распішаш,— падумаўшы, адказаў Сава. — Птушыная царэўна, можна сказаць, перадавая з перадавых... Трэба раней праверыць факты...

— Факты?.. Ды яны-ж, як на далоні!.. — не зусім упэўнена настойваў Грыцько. — Зазнаецца, губы тапырыць — раз! Яе птушкі шкодзяць маім агародам — два! На пазамінулы камсамольскі сход не з'явілася — тры! Сам падумай: качкі таўкуць мае агуркі? Таўкуць. А гусі?..

Усё гэта так, але-ж Саву вакол пальца не абвядзеш. Не выйшла! Допіса ён не прапусціў — да гэтага часу факты правярае. І Настачцы сказаў пра гэта.

— Цьфу! Вельмі спалохалася,— горда варухнула яна плячуком. — Трэба было змясціць... Вось-жа цыган! Такое прыдумаў: патрэбны маім качкам яго агуркі!... Або гусям капуста. Ды яны ў мяне — як налітыя!..

Цыганам у сяле жартам называлі Грыцька Самацвета таму, што ён сапраўды быў смуглявы і чуб на галаве, як смала. Дзяўчаты заглядаліся на яго — сапраўды прыгожы быў хлапец. Але Настачка звала Грыцька не інакш, як «цыган». Праўда, не з насмешкай, а так сабе, неяк па-сяброўску... На тым тыдні нават на камсамольскім сходзе назвала: маўляў, акрамя сваіх агародаў нічога і ніколі ведаць не хоча.

Сава з прыемнасцю ўспомніў, як хораша, як горача тады яна выступала. І зноў, у каторы ўжо раз, пашкадаваў, што яе партрэта да гэтага часу няма ні ў раённым доме культуры, ні ў іхнім беразнякоўскім клубе. А там можна ўбачыць і барадача Курылу — брыгадзіра трэцяй перадавой брыгады, і Ганну Забродзу — знатную даярку, і Гардзея Сініцу — пасечніка з пасечнікаў, і Наталлю Джур, якая гэтак заўзята працуе на бураках, і, што ўжо казаць, Грыцька Самацвета, які хоць і днюе і начуе на агародзе і будан там сабе зрабіў, а капусту ўсё-ж недагледзеў. А цяпер сваю нядбайнасць на Настачку звярнуць хоча... Сава ніколі не маляваў-бы яго. Няхай дзякуе старшыні — упрасіў. Але ўсёроўна, калі-б Сава раней заўважыў, як гэты «цыган» крадком пазірае на яе, як вачыма зіркае, сустрэўшыся з позіркам Настачкі — нізавошта не згадзіўся-б маляваць.

... І вось нарэшце Сава чуе за спіной пявучы настаччын голас. Яна падыходзіць, нібы на крылах апускаецца.

— Як быццам-бы я, — гледзячы ў альбом, пазнае сябе Настачка,— і не я...

— Гэта я, Настачка, на памяць, — апраўдваецца Сава, адчуваючы, як тахкае яго сэрца. — Ну, чарнавы накід... А на палатне... Ты будзеш стаяць пад гэтай вярбой, а зводдаля будзе відаць вадапой, з гэтага боку — паркан, а там далей твая птушкаферма, ваду крыху бліжэй намалюю, і тут будуць качкі з качанятамі, гусі...

— Сапраўды хораша,— радуецца Настачка,— сказаў-бы раней, што так хочаш намаляваць, я-б з

**У другой палавіне чэрвеня ў Беларусі будзе праведзен тыдзень украінскай савецкай літаратуры. Нашу рэспубліку наведае вялікая група ўкраінскіх пісьменнікаў, якія разам з беларускімі пісьменнікамі выступяць на літаратурных вечарах у Мінску, некаторых абласных, раённых цэнтрах і калгасах.**

**У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйдзе некалькі кніг украінскіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову.**

**Ніжэй мы змяшчаем творы ўкраінскіх пісьменнікаў.**

ахвотай... А то партрэт... Кожны на цябе пальцам будзе паказваць. Не люблю!.. Сава, ты-ж качанятак хорашанька намаляваў!.. Я паклічу, ты на іх паглядзі.

І кліча.

Спачатку недзе з таго берага адгукваецца гусак. Потым гелгечуць гусі, і неўзабаве з-за астраўка травы і чароту выплывае цэлая эскадра, выстраеная клюшом, — як старажытныя караблікі. Качкі плывуць каля берага, праплываюць паміж качанят, што жоўтымі кропелькамі пакалыхваюцца на хвалях.

У гэтыя хвіліны свет здаецца Саве такім цудоўным, такім пяшчотна-прывабным, як вада нагрэтага сонцам крыштальна чыстага азярца. Да гэтага часу ён толькі марыў пра Настачку. Што-б ён ні рабіў — упрыгожваў клуб, рыхтуючыся да новага вечара мастацкай самадзейнасці, выязджаў у поле з перасоўнай бібліятэкай, выпускаў чарговую насценгазету ці станавіўся за мальберт — думаў пра яе. Сустрэўшыся, бывала, хацеў шмат чаго добрага сказаць, але ніяк не выходзіла, не асмельваўся. А Настачка, нібы ўгадаўшы яго намеры, усё некуды спяшалася, пакідала яго.

А зараз вось яна нікуды не спяшае — такая-ж, як і заўсёды, ветлівая, лагодная. Дастае з газетнага мяшэчка, расціскае пальцамі і кідае качкам і гусям вараную бульбу (гэта яна так прывучае сваіх птушак, каб яны плылі на яе покліч), лічыць качанят, ці не згубілася якое, і ў захапленні выгуквае:

— Глянь, Сава, на тое, што ў раску паплыло. Або вунь на тое... Бачыш?

Бачыць ён, добра бачыць усё і цешыць сябе думкай, што нарэшце пашчасліціць яму здзейсніць сваю мару — намаляваць карціну, якая спадабалася-б Настачцы. Ёй, толькі ёй адной, найпрыгажэйшай дзяўчыне ў свеце.

Сава паспешліва выціскае фарбы на дошчачку, што служыць яму за палітру. Ён так спяшаецца, што адзін цюбік зусім расціскае, і Настачка, заўважыўшы гэта, падыходзіць да яго...

— Сава, — схіляецца яна над дошчачкай,—гэта-ж дорага каштуе... Ты не спяшайся... Можа дапамагчы? Я асцярожненька...

Сава сам не свой: яшчэ ніколі ён не адчуваў, як яе косы лёгкімі завіткамі прыемна казычуць шчаку...

Назаўсёды-б зберагчы вось гэтае цёплае адчуванне!

Можа-б ён і пра маляванне забыўся, каб толькі яна даўжэй пабыла з ім, вось так, блізкаблізка...

...Працуе Сава хутка. Пэндзлі ў яго руцэ — як цацачныя стрэлы з каляровымі наканечнікамі. Нібы забаўляючыся, ён лёгенька дакранаецца імі да палатна, пакідаючы на ім празрыстыя лініі.

— Настачка, — шчыра пазірае на дзяўчыну Сава, — ты кідай пакрысе бульбу качкам ды гусям, няхай каля берага круцяцца.

Некалькімі мазкамі ён накідвае іх на палатне, пэндзлямі падскоквае вышэй, каб ухапіць выраз твару Настачкі на фоне блакітнага неба, сіняга лесу на даляглядзе, наблізіць да сябе, і апускае рукі — нічога не выходзіць.



Тады ён пачынае маляваць птушкаферму, што бялее па той бок азярца, паркан скрозь прасветы ў кустах і паверх іх наводзіць бляск залітага сонцам вадапою. Мацней адцяняе неасветлены бок вярбы, якая аж да вады апусціла свае гнуткія галіны, пускае ў ход усе фарбы. Але, здаецца, у іх нехапае колераў, каб перадаць прыгажосць вачэй Настачкі. Як схапіць тыя агеньчыкі, што палымнеюць у зрэнках то ўсмешкай, то смуткам, то думкай!

Непрыемна Саве, горка, балюча. Шпурнуць-бы гэтыя пэндзлі пад ногі, закінуць фарбы—на ліха ўсё!

Ну, што рабіць? Няўжо на гэтым усё і скончыцца?

Пад вечар Саве ўсё-ж удаецца намаляваць твар Настачкі. Цяпер яе можна пазнаць на палатне. Кожны, хто пабачыць, скажа: «Ды гэта-ж яна, Настачка». Але Сава імкнуўся да большага. Ён хацеў перадаць толькі яму аднаму знаёмае адчуванне лёгкіх завіткоў яе валос, перадаць лагоднасць яе ўсмешкі, каб кожны, і Грыцько ў тым ліку, мог падумаць: «Глядзі, як яна ўсміхалася, калі Сава маляваў яе, якімі вачыма глядзела... Які шчаслівы той Гетманец. Вельмі шчаслівы!»

Душу атручвае горкая, як палын, думка: «Не тое, зусім не тое...»

Настачка ўгадвае яго думку, перамінаецца з нагі на нагу, мусіць, ужо і стамілася, столькі прастаяўшы каля вярбы. Вось і сонца садзіцца—ружовае, вялікае, праменістае, і месячык над палымяной хмарай павіснуў — яшчэ зусім бледны, тоненькі, ледзь прыкметны.

Нанава трэба пачынаць карціну.

Спяшаючыся, Сава рашуча замазвае фарбай малюнак, наводзіць новыя контуры, пачынае накідваць любімы вобраз і раптам замірае: ад будана, што каструбатаю шапкай ледзь бачны з глыбіні агародаў, далятае ціхі спеў.

— Грыцько, — нечакана вырываецца ў Савы.

«Цыган»—у думках дадае Настачка.

Прыслухоўваюцца.
Самацвет спявае:
«Выйдзі, дзяўчына, да мяне, міла,
Дай падзівіцца ў ясныя вочы...»

Спеў гучыць усё бліжэй. Ад агародаў да іх набліжаецца грывасты кары конь, які вязе бочку на двух колах; ззаду бразгоча і вызвоньвае вядро—усё мацней і мацней.

Яшчэ момант, і конь з разгону аж па грудзі забягае ў возера, спыняецца, як укапаны, пырхае, прыпадае да вады. П'е нядоўга— нецярплівы, затоены, капытом узбівае пену, коса зіркае на гаспадара.

— Не дурыся, Каршун. — Сава бачыць, як Грыцько саскоквае з козлаў, прымацаваных да бочкі, ляпае каня па шыі.—Ты ў мяне сёння папрацуеш!..

Бачыць Гетманец і другое: Настачка адразу нібы загараецца, паволі павяртае галаву і глядзіць у бок вадапою. Цяпер сонечныя промні лёгкай чырванню загараюцца ў ніжніх завітках настачкіных валасоў, асвятляюць шчаку, фарбуюць у ружовы колер яе блузку.

— Настачка! — просіць Сава. — Вось так пастой, не варушыся...

Новыя мазкі кладуцца жывым бляскам, і Настачка цяпер узнікае на палатне, нібы выхапленая з песні. І паркан, і вясковыя прыбярэжныя кусты, і маладыя бярозкі, і пышная вярба, і травы, і кветкі—усё, здаецца, ажыло ў празрыстых фіялетаваблакітных адценнях, нібы пераводзіць дыханне, млее, зрэдку перашэптваючыся: «шу-шу-шу, шу-шу-шу»...

Перад Настачкай, перад яе прыгажосцю ўсё схіляецца, а яна нейкая трывожная, дзіўна насцярожаная, здаецца, вось-вось раскіне крылы, шырока ўзмахне імі і паляціць...

Пэндзлі аж падскокваюць у руках у Савы, ён да болю напружвае зрок, сціскае тонкія вусны, і яго яшчэ зусім юны, хударлявы твар становіцца нібы вастрэйшы, упарта засяроджаны. Густыя валасы спадаюць на лоб, і час-ад-часу ён адкідае іх назад рэзкім рухам галавы.

Зачараваны позірк Савы перакідваецца ад Настачкі да палатна. Як намаляваць яе постаць, каб на палатне адчувалася ўся прывабнасць таго лёгкага ўзлёту? Але, захоплены працай, ён міжвольна сочыць і за Самацветам, бачыць, як той лёгка, з нейкай асаблівай асалодай зачэрпнуўшы вядром ваду, вылівае яе ў бочку, зрэдку пакрykваючы на каня, што ніяк не можа ўстаяць на месцы. Вада хвалюецца, пакалыхвае тонкія лозы і, здаецца, убірае ў сябе шчодрае цяпло гарачага сонечнага дня.

...І вось Грыцько вылівае апошняе вядро,—бочка поўная. Ён— плячысты, прыгожы, з моцнымі мускулістымі рукамі, у нязменнай, ужо зусім выцвілай вішнёвай майцы. Самацвет.... Падыходзіць-жа яму гэтае прозвішча, як падыходзіць! Ён тузае за лейцы, конь крута павяртае, грудзьмі гоніць ваду да берага. Грыцько лёгка ўскоквае на козлы, і на беразе застаецца толькі мокры след колаў.

Сава зноў пераводзіць позірк на Настачку, бачыць яе ўсё яшчэ ў поўпрофіль, але нейкай зусім іншай, ні то звялай, ні то разгубленай.

Яна паслухмяна стаіць, як прасіў Сава, але цяпер ужо зусім не тая. Абыякавая да ўсяго навакольнага, замкнулася ў свае дзявочыя думкі. І нібы паддаўшыся яе настрою, усё цішэй пахлюпвае аб бераг ускаламучаная вада. На азярцы— цішыня. Ужо ні качанят, ні качак, ні гусей не чуваць—паплылі сабе, пакінуўшы толькі скаламучаную ваду.

І Настачка, забыўшыся пра Саву, адыходзіць ад берага і садзіцца...

Як далей маляваць?

Сава сядзіць нерухома, утаропіўшы позірк на палатно. Ці-ж то яна адыйшла? Не, гэта толькі яе цень мільгануў і затрымаўся на траве. А Настачку ён бачыць каля вярбы такою-ж прыгожай і мілай, якою яна нядаўна была, слухаючы спеў Грыцька. Сава па памяці малюе далей той жывы вобраз.

Нейкая невядомая сіла водзіць яго рукою—водзіць паспешліва, але ўпэўнена, і мазкі кладуцца добра, паслухмяна.

Гэта будзе, напэўна, самы прыгожы з малюнкаў Савы Гетманца.

Пераклад з украінскай мовы
**Усевалада КРАЎЧАНКІ.**









# ВЫСТАЎКА МАЛАДЫХ УМЕЛЬЦАЎ

Нядаўна ў памяшканні Беларускага рэспубліканскага Дома культуры працоўных рэзерваў адкрылася выстаўка тэхнічнай творчасці і прыкладнога мастацтва навучэнцаў і работнікаў навучальных устаноў працоўных рэзерваў Беларусі.

На выстаўцы шырока экспануюцца дзеючыя мадэлі, макеты, схемы, мастацкія вышыўкі, разьба па дрэву і фестывальныя сувеніры. У 4-х аддзелах размешчана каля 300 экспанатаў, сярод якіх многа дзеючых мадэлей. Тут можна ўбачыць вагранку, такарна-вінтарэзны, стругальны, свідравальны, шліфавальны і многія іншыя станкі. Ёсць таксама дзеючыя мадэлі трактараў, камбайнаў, зернеачышчальных машын, гідраэлектрастанцыі, электравоза, які кіруецца па радыё, электрыфікаванага ўчастка чыгункі з аўтаблакіроўкай.

Сярод мастацкіх экспанатаў многа падарункаў і сувеніраў для замежных фестывальных дэлегацый.

Спыняе на сабе ўвагу ўсіх мадэль электравоза, які кіруецца па радыё. Яе сканструявалі навучэнцы тэхнічнага вучылішча № 6 г. Баранавічы. Гэты мініяцюрны электравоз са спецыяльнага пульта кіравання прымае 5 сігналаў: рухаецца наперад, назад, дае гудок, спыняецца, уключае святло.

З няменшай цікавасцю знаёмяцца наведвальнікі з дзеючай мадэллю электрыфікаванага ўчастка чыгункі, пабудаванай навучэнцамі чыгуначнага вучылішча г. Мінска, з мадэллю трактара «Беларусь», зробленаю гуртком тэхнічнай творчасці 2-га рамесніцкага вучылішча г. Мінска.

Выстаўку ўжо наведалі тысячы людзей. Яна будзе пастаяннай. Сюды прыбываюць усё новыя і новыя экспанаты. Складаныя мадэлі, якія дэманструюцца ў нас, наглядна сведчаць аб узросшай тэхнічнай самадзейнасці моладзі, аб тым, што яна паспяхова ўдасканальвае свае прафесіянальныя і рацыяналізатарскія навыкі.

**С. КАЛЕСКІН,**
дырэктар выстаўкі.





На здымках зверху ўніз: **На тэхнічнай выстаўцы працоўных рэзерваў. Экскурсанты аглядаюць мадэль электрыфікаванай чыгункі.**

**Дзеючая мадэль стругальнага станка. Зроблена вучнямі Гомельскага тэхнічнага вучылішча № 3.**

**Мадэль самаходнага камбайна. Рамесніцкае вучылішча № 3 г. Добруш.**

**Мадэль такарна-вінтарэзнага станка. Рамесніцкае вучылішча № 6 г. Магілёва.**

**Мадэль перасоўнага зернеачышчальнага станка.**

**Бясцэнтравы шліфавальны станок. Рамесніцкае вучылішча № 7 г. Віцебска.**

Фото ўдзельнікаў гуртка пры Доме культуры працоўных рэзерваў Антона Косака і Міхаіла Кавалёва.

# Якое ваша рашэнне?

Пад такой назвай у красавіцкім нумары «Маладосці» быў надрукаван артыкул, у якім коратка выкладалася сутнасць адной судовай справы. Нікалай Васільевіч Златкевіч, мастак па прафесіі, падаў іск на спагнанне аліментаў са сваёй дачкі Ніны, ад якой ён уцёк і якой амаль не дапамагаў. Ніна (маці яе загінула ў час Айчыннай вайны) выхоўвалася ў дзіцячым доме, а пасля вайны яе ўзяла да сябе на выхаванне сумленная савецкая жанчына Марыя Рыгораўна Ларыёнава. Яна замяніла Ніне бацьку і маці. Златкевіч-жа, які ведаў пра ўсё гэта, не пажадаў нават сустрэцца са сваёй дачкой, якую прывезла да яго ў г. Горкі Марыя Рыгораўна. З такімі абставінамі сутыкнуўся суд, які разбіраў гэтую справу.

### ЗЛАТКЕВІЧ — НЕ БАЦЬКА

У рэдакцыю прышло вельмі многа лістоў. І сярод іх няма ніводнага, які-б дыхаў роўнадушшам і абыякавасцю. Жыццё дагэтуль невядомай дзяўчыны Ніны Златкевіч усхвалявала многіх. І не толькі ўсхвалявала, а выклікала жаданне выказаць свае думкі і пачуцці.

Можам наперад сказаць—сярод дзесяткаў лістоў, у якіх нашы чытачы пішуць аб сваіх адносінах да судовай справы Ніны Златкевіч і яе бацькі, няма ніводнага, дзе-б была хоць кропля сімпатыі і спачування да Нікалая Васільевіча Златкевіча. «Каб я быў на месцы суддзі,—гаворыць у сваім лісце Іван Васілевіч са Слуцка,—я без хістанняў апраўдаў-бы Ніну Златкевіч. Калі ён бацька, калі ён нарадзіў яе на свет, у яго павінна быць адказнасць перад дачкой і грамадскасцю».

«Златкевіч—не бацька Ніне,—піша настаўнік Дранежскай сямігадовай школы Старадарожскага р-на В. Багдановіч. Сваім бацькам можна назваць толькі такога чалавека, які саграває цябе цяплом сваёй бацькоўскай ласкі, падтрымлівае цябе, калі ты толькі становішся на ногі, які лепшы друг дае параду, калі ты пераступаеш парог самастойнага жыцця».

Аўтары амаль усіх лістоў выказваюць думку, што Златкевіча нельга назваць бацькам Ніны. Бацька—гэта ганаровае званне. Ён павінен выхаваць сваіх дзяцей сумленнымі грамадзянамі сваёй краіны, карыснымі членамі грамадства. Спачатку гутарка можа ісці аб вялікіх бацькоўскіх абавязках, а потым ужо аб правах. Гэтай думкай прасякнуты лісты калектыву настаўнікаў Барсукоўскай сямігадовай школы Докшыцкага р-на, вучаніцы 10 кл. Бягомльскай СШ Клавы Радкевіч, работнікаў Талкачоўскага сельсовета Цыганковай, Сафонава, Шарыкавай, Емельянава, чытачоў А. Армонік, Е. Пілюшанка, Астапенка і Герашчанка з вёскі Карасіна Браслаўскага раёна, студэнтаў Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага Д. Кушаля і Д. Стасевіч, настаўнікаў з гарадскога пасёлка Бялынічы О. Пліндава і А. Усава, супрацоўніка Дзяржынскай раённай газеты У. Куксы, рабочых соўгаса «Рагоўскі» Заслаўскага раёна І. Шляхцёнак, В. Карачун, упраўляючай Асавецкай аптэкі Драгічынскага раёна Т. Мільто і многія іншыя.

Работнікі шклозавода «Гута» Дунілавіцкага раёна Е. Пятроўская, А. Мішута і М. Анцыпкіна, настаўнік Смалявіцкай сямігадовай школы Пружанскага раёна П. Барсук патрабуюць, каб Златкевіч Н. В. быў пазбаўлен бацькоўскіх праваў. Да гэтай думкі далучаецца і чытач А. Рыдзеўскі з Мінска. «Нават цяжка ўявіць, што Златкевіч так няўдала пражыў свой век,—піша ён.—Ён жыў толькі для сябе аднаго, і жыццё жорстка адпомсціла яму. Няпраўда, што Златкевіч любіў працу. Той, хто любіць працу, любіць і сваіх дзяцей, і ніколі ад іх не ўцячэ. Златкевіч больш за ўсё любіў лёгкае, бестурботнае жыццё. Цяпер Нікалая Васільевіча напаткала адзінокая старасць. Ён шукае месцейка, дзе-б можна было прыгрэцца, шукае спачування. Але яго не шкада. Гакім людзям не месца ў нашым грамадстве».

Вельмі многа цёплых слоў выказалі нашы чытачы ў адрас Марыі Рыгораўны Ларыёнавай, якая замяніла Ніне бацьку і маці. Гэта чалавек сапраўды вялікай душы і вялікага сэрца, — сцвярджаюць чытачы. І такіх людзей у нас значна больш, чым Златкевічаў. «Ніна павінна быць удзячна нашай дзяржаве і Марыі Рыгораўне Ларыёнавай, якая замяніла ёй бацьку і маці,—пішуць выхавацелі трэста № 1 В. Бакуновіч і М. Французава.— Вось каму трэба дапамагаць дзяўчыне».

Авіяпоштай рэдакцыя атрымала водгук з далёкай цаліны ад нашага чытача Уладзіміра Сідарава, які працуе ў зернесоўгасе «Кастрычніцкі» ў Казахстане. Ён выказвае думку комсамольцаў-беларусаў свайго соўгаса: Златкевіч — не бацька Ніне, суд павінен пазбавіць яго бацькоўскіх праваў.

### ЁСЦЬ ЯШЧЭ ТАКІЯ БАЦЬКІ

У многіх лістах, атрыманых рэдакцыяй, асуджаецца не толькі Златкевіч. Чытачы паведамляюць, што сям-там яшчэ і сёння можна сустрэць «бацькоў», падобных сваімі паводзінамі на Златкевіча.

«Бацькі свайго я не памятаю,—піша Н. Каржакоў з вёскі Грабаўкі Церахоўскага раёна. — Ён пакінуў маці, калі я толькі нарадзіўся. Маці памёрла таксама. Але родная дзяржава не пакінула мяне. З яе дапамогай я закончыў сярэднюю школу, працую і вучуся завочна. Каб пасля ўсяго гэтага да мяне з'явіўся «бацька», я-б яму адказаў, як і Ніна Златкевіч».

«У мяне дзве дачкі, бацька якіх яшчэ ў 1950 годзе ўцёк ад іх, калі адной быў год, а другой паўтара, — з крыўдай паведамляе А. Жандарава з вёскі Гоцк Ленінскага раёна Брэсцкай вобласці. — Гэты чалавек памёр ужо. Але калі-б ён быў жывы, я не хацела-б, каб мае дзеці называлі яго бацькам».

«У мяне таксама такі «бацька», як і ў Ніны Златкевіч, — піша навучэнка Віцебскага тэхнічнага вучылішча Галіна Саўчанка. — Я думаю, што ён некалі таксама звернецца да мяне. Я скажу яму тое самае, што і Ніна Златкевіч».

Аб «бацьках», што пакінулі сваіх дзяцей, пішуць загадчык Пятрэвіцкай хаты-чытальні Ружанскага раёна Кіслы, чытач Вячаслаў Лазоўскі з вёскі Малая Вобрына Карэліцкага раёна. Ёсць і ананімныя горкія лісты аб гэтым. Іх аўтары, мабыць, тыя самыя пакінутыя дзеці, проста саромеюцца называць прозвішчы, якія толькі і дасталіся ім у спадчыну ад такіх «бацькоў».

Але пошта даставіла ў рэдакцыю і лісты зусім іншага зместу. Чытачы паведамляюць аб высокародных, чулых людзях, што замянілі бацькоў круглым сіротам. Гарачую ўдзячнасць сваёй мачысе выказвае настаўнік Маркаўскай пачатковай школы Сапоцкінскага раёна Мікалай Стома. Яна не пакінула хлопчыка ў самыя цяжкія гады, калі фашысты расстралялі яго бацьку. Не пакінула сваёй падчарыцы і Г. Ф. Арлоўская з г. п Бялынічы. Яна дала ёй магчымасць закончыць дзесяцігодку, не атрымліваючы дапамогі ад свайго мужа, роднага бацькі падчарыцы Н. Н. Арлоўскага, работніка арцелі «Чырвоны сцяг». Гэты так званы бацька выгнаў жонку і дачку з дому.

Родная совецкая дзяржава не пакідае ў бядзе ніводнага са сваіх сыноў і дачок. Яна іх выхоўвае, вучыць, дае пуцёўку ў жыццё. Удзячнасцю роднай дзяржаве прасякнуты многія і многія лісты, якія прыйшлі ў рэдакцыю.

## Такі мой „бацька"

Я пішу гэты ліст з моцным болем на сэрцы і ва ўсім спачуваю Ніне Златкевіч. Хоць мне ўсяго восемнаццаць год, але ад свайго бацькі я не бачыла нічога добрага. Роднай маці я не памятаю, толькі чула ад суседзяў, калі падрасла, што бацька яе вельмі часта біў. Ад гэтага яна і памёрла ў 1940 годзе.

Калі мне споўнілася сем год, бацька ажаніўся другі раз. Страшнае слова «мачыха» стала для мяне самым цёплым, радасным словам. Мачыха стала для мяне роднай маці. Яна глядзела мяне, здаецца, лепш, чым сваіх родных дзяцей. Але бацька сваіх паводзін не перамяніў. Кожны дзень ён напіваўся, заходзіў дамоў толькі есці, зарплату прыносіў раз у 3—4 месяцы.

Цяжка нават уявіць, колькі прышлося перанесці маёй мачысе ад яго. Ён біў яе, зневажаў амаль штодня. Ён нават папракаў яе за тое, што яна мяне добра глядзіць. Усё гэта я чула, бачыла, і пастулова ў мяне знікалі ўсякія пачуцці да бацькі.

Не вытрымала і мая мачыха. Бацька так брыдка пачаў сябе весці, прыходзіў дадому сапраўдным зверам, што прышлося прыняць меры перасцярогі. Перад заканчэннем 10 класа (мачыха мяне вучыла) я папрасіла ў бацькі грошай на плацце для выпускнога вечара. Ён адказаў, што грошай рабіць не ўмее. А ў гэты час у яго былі грошы, але ён купіў за іх падарунак для сваёй каханкі.

Мне яшчэ не было 18 год, і мне паралі атрымаць ад яго праз суд аліменты. Суд стаў на мой бок, але нам з мамай — так з поўным правам я называю сваю мачыху — гэта абышлося вельмі дорага. Ён збіў мяне, выгнаў з дому на мароз і замкнуў дзверы. Я некалькі разоў спрабавала зайсці ў хату, але ён мяне не пусціў. На маё месца ён узяў кватарантаў. Так і цяпер я жыву ў чужых людзей, якія замянілі мне бацьку. А бацька і сёння лічыцца сумленным работнікам арцелі «Чырвоны сцяг», п'е і вядзе разбэшчанае жыццё. І ніхто яго не прыцягвае да адказнасці. Я ўпэўнена, што пад старасць ён пачне спаганяць з мяне аліменты, як сёння спрабуе спагнаць Златкевіч са сваёй дачкі Ніны.

Прашу рэдакцыю азнаёміць чытачоў з маім пісьмом.

**Тамара АРЛОЎСКАЯ,**
**г. п. Бялынічы Магілёўскай вобласці.**

### ЯКОЕ РАШЭННЕ ВЫНЕС СУД

Справа, аб якой расказвалася ў артыкуле «Якое ваша рашэнне?», не выдуманая. Яна разглядалася ў Кагановіцкім народным судзе г. Мінска. Суд адмовіў Н. В. Златкевічу ў яго іску да дачкі Ніны. Златкевіч фактычна пазбаўлены бацькоўскіх праваў, хоць у сувязі з тым, што яго дачка дасягнула поўналецця, гэтае пытанне і не разбіралася.

Рэдакцыя толькі змяніла прозвішчы людзей, судовая справа якіх слухалася.



**Дваццаць пяць год таму назад з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта быў вылучаны шэраг факультэтаў, якія паклалі пачатак існаванню новых вышэйшых навучальных устаноў. Так з факультэта права і гаспадаркі вырас Планавы інстытут, пазней перайменаваны ў Інстытут народнай гаспадаркі імя В. Куйбышэва. Гэтая буйнейшая ВНУ рэспублікі рыхтуе спецыялістаў для работы ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, у фінансавай сістэме і гандлі.** На здымку: **група выпускнікоў інстытута на практычных занятках у кабінеце прамысловага таваразнаўства.** Злева направа: **Н. Ціманоўская, З. Сташэнка і С. Бібіна.**

Фото А. Дзітлава.



На практычных занятках у Рэспубліканскай школе падрыхтоўкі брыгадзіраў-садоўнікаў і агароднікаў. Група вучняў пад кіраўніцтвам выкладчыка Т. А. Радомскага робіць палявыя аналізы глебы на кіслотнасць.

Фото А. Дзітлава.



# Прыкры вузел

Якуб ЕРМАЛОВІЧ

Апавяданне

Мал. Г. Паплаўскага.

Загадчык жывёлагадоўчай фермы Мікола Буракоў паставіў пытанне перад старшынёй калгаса рашуча: альбо ён, альбо Валянціна Цэдрык.

— Яна падрывае мой аўтарытэт,—гаварыў ён старшыні калгаса, і яго параненая ў вайну рука сударгава ўздрыгвала. —Яна падбухторыла супроць мяне ўсіх цялятніц. Ды не адных цялятніц... Баюся, каб тут не крылася чаго большага.

— Большага?.. — лагодна перапытаў старшыня калгаса пісклявым голасам, крануўшы разам з сваім лёгкім целам і крэсла за сталом.— Чаго большага?.. Можа, паўстанне падыме? Заб'юць цябе, як таго Давыдава хацелі забіць?—з усмешкаю зірнуў ён на Буракова.

— Вы не кпіце, Іван Барысавіч, я, можна сказаць, здароўе сваё палажыў... Я тры гады прасядзеў у зямлі ў акружаным Ленінградзе. Як мне павінны плаціць за маю кроў? Гэтак?—У Буракова дрыжала ўжо не толькі параненая левая рука, але і губы, у якіх не было, здавалася, ні крывінкі. Ён пачаў папраўляць на сабе рамень і абцягваць гімнасцёрку. Потым схамянуўся, дастаў з нагруднай кішэні маленькую чорную кніжачку, узяў адтуль нейкую паперку і, асцярожна хаваючы сударгі ў руцэ, палажыў яе на стол перад старшынёй.

Старшыня прачытаў. Гэта быў дакумент ад камандавання на права атрымання ў любы час жыллёвай плошчы ў горадзе Ленінградзе, як удзельніку яго гераічнай абароны ў час вайны з фашыстамі.

— Ты гэтага мне не паказвай. Ведаю. Усе мы ваявалі. А Міхей, валін бацька, не разам са мной блакаду перажыў? На, схавай,—сказаў старшыня ўжо зусім сур'ёзна.

У Буракова пакаціліся слёзы, і ён зусім не хаваў іх.

У праўленні народу было многа, бо было гэта ў канцы дня, і нехта з жанчын загаварыў:

— Да чаго дапусціліся: чалавека да слёз давялі!

Пра сварку загадчыка фермы Буракова з цялятніцай Валяй старшыня калгаса чуў і сачыў за імі, але выгляду не паказваў, што сочыць. Мала за што людзі могуць пасварыцца. Украдкам-жа кідаў вокам, ці не выткнецца дзе карэньчык, які жывіць гэтую сварку.

— Гэтак мы з табой, Мікола, ні да чога не дойдзем, — гаварыў старшыня, вылезшы з-за стала і стоячы каля яго твар у твар: — Не дойдзем, кажу. Валя тут нядаўна кулаком аб стол стукала, а зараз ты вось працэсію ўчыніў. А што з гэтага? Збярэм сход, усіх з тваёй фермы, і там — калі ласка, выкладай, каму што баліць. Усё на чыстую ваду вывядзем.

Іван Барысавіч выняў руку з кішэні і палажыў на востры плячук Буракова, як-бы абяцаючы яму сваю падтрымку.

— Даўно трэба было, Іван Барысавіч, — павесялеў Буракоў.

— Я думаў толькі болька ўскочыла, ажно тут хвароба, — жартаваў старшыня.

— І баліць, Іван Барысавіч, — зразумеў яго Буракоў.

— А якая скулячка не баліць? Ты гавары, брат, таму, хто іх не ведае. — Далей Іван Барысавіч гаварыў ужо не Буракову, а людзям, якія былі ў канцылярыі: — Як быў у партызанах, дык нічога не было. Ні кашлю, ні ліха. Прамокнеш, бывала, зуб на зуб не пападае. Прапаў, думаеш. Аж не, жывы...

Дні праз два быў сход. Назвалі яго вытворчай нарадай, бо рашылі абмеркаваць на ім работу жывёлагадоўчай фермы.

Хоць летняя ноч малая: вячэрняя зара праходзіла невялікі абход над лесам і хутка на ўсходзе ўскоквала сонца, але сход праводзілі ўвечары, не забываючы, што летні дзень — год корміць.

Як толькі запалілі ў прасторным пакоі канцылярыі дваццацілінейную пукатую лямпу, да ганку амаль нячутна, без запаленых фар, пад'ехала легкавушка. З яе выйшлі сакратар райкома партыі Богуш і сакратар райкома комсамола Хвошчанка.

Вёў сход сам Іван Барысавіч. Абодва сакратары райкомаў селі недзе ззаду, каб не дэманстраваць сваёй начальніцкай важнасці.

Першым выступаў Буракоў, загадчык фермы. Гаварыў ён разважліва, павольна, з адцягам прыемнага голасу пасля кожнага слова. Часам зазіраў у сшытак, які трымаў у левай, параненай руцэ. Яна была трошкі карацейшая, і гэта было нават зручней: бліжэй да вачэй. У правай руцэ ён трымаў аловак і часад-часу ўзмахваў ім у паветры, робячы падмацавальныя жэсты. Калі гаварыў аб нейкай круглай рэчы, дык алоўкам і абкругляваў у паветры. Калі забываўся, які ідзе наступны пункт, глядзеў у сшытак, водзячы па ім алоўкам, і ў гэты час чутно было, як сіпела лямпа.

— Многа яшчэ там у цябе? — спытаў Іван Барысавіч.

— Ферма вялікая, Іван Барысавіч, — глянуў Буракоў на старшыню, зрабіўшы зусім шчырую ўсмешку, нібы ён гэтую ферму нажыў і цяпер з задавальненнем расказвае аб ёй.

— І калектыў немалы, — заўважыў старшыня, быццам намякнуўшы, што радасць гэтую трэба падзяліць на ўсіх калгаснікаў.

Буракоў, не выпускаючы сшытка, залажыў вялікі палец левай рукі за скрыпучы рамень на падхлябістым жываце і зусім бойка пасніў:

— Зараз я і хачу расказаць аб нашым калектыве, аб людзях нашай фермы. Калектыў наш нядрэнны. Дружны быў, — неяк залпам выгаварыў Буракоў, шукаючы прыжмуранымі вачамі сакратара райкома.

Але замест сакратара, ён знячэўку позіркам наткнуўся на кучаравую галаву Валянціны Цэдрык, на яе дробны тварык і потым на яе вельмі пранізлівыя вочы. Яна, як маланка ў адказ другой маланцы, секанула яму:

— Дружна кралі!

Буракоў адразу змоўк, згубіў думку, як баднутая карова губляе жваку. Ён пачаў дрыжачым алоўкам вадзіць па сшытку, утупіўшы ў яго вочы, нібы шукаючы патрэбны пункт. У вушах у яго зашумела, потым тонка зазвінела. Ён адчуў, што гіне. І невядома што-б было з ім, каб не выратаваў Міхей.

— Валя-а-а! — закрычаў ён, уклаўшы ў гэтае працяглае «а-а» ўвесь свой гнеў.

Сакратар райкома хуценька перасеў да Міхея, абедзвюма рукамі абхапіў яго руку і нешта загаварыў.

Буракоў пачуў, як моцна забілася яго сэрца. Ён сеў. Зараз яму было ўсёроўна, чым усё скончыцца. Ён не ўбярогся бяды, і ніякай абыходлівасці не патрэбна.

— Брашы, брашы, сучка, — гаварыў ён у адрас Валянціны, седзячы на гнутым скрыпучым крэсле.

Валя ішла да стала. На ёй было карычневае плацце з поясам у тонкай таліі, з ружовабелым каўнерыкам, з бліскучымі гузікамі на рукавах і на грудзях. Яна ёмка, не спяшаючыся, у чымсьці мяккім на нагах, прайшла да стала, злёгку матнула галавой, каб не перашкаджалі валасы, і з момант памаўчала. А потым з добрай маладой усмешкай глянула на людзей і на Буракова.

Сакратар райкома комсамола Хвошчанка выцягнуўся на сваім месцы ўперад і — не верыў сваім вачам. Ён пазнаў тую самую дзяўчыну, якая зімой выступала на аглядзе мастацкай самадзейнасці ў раённым цэнтры Высокае. Яна спявала тады арыю з оперы «Снягурачка». Спявала так, што ўсім, хто яе слухаў, рабілася хораша, прыемна і радасна ад усведамлення, што ёсць на свеце сапраўднае каханне, шчырая праўда і крыштальнае сумленне.

Сакратар райкома комсамола памацаў сябе за адно, потым за другое вуха, якія, прынамсі, былі ў яго велікаватыя і чамусьці на гэты раз гарачыя. Ён успомніў, як пасля выступлення да Валі падыйшоў прадстаўнік журы з вобласці, узбуджана паціскаў ёй руку і абяцаў поспех на абласной сцэне. Але Валя вельмі хутка знікла за кулісамі. Адтуль яна выскачыла ў жоўтым кажушку, у валёнках і

ў кубанцы з шкураным верхам, з-пад якой ва ўсе бакі выбіваліся непакорныя кучаравыя валасы. Падобная ўжо зусім не на актрысу, а на рухавага хлапчука, яна на хаду кінула, што раён падтрымліваць няхай едуць з раённага цэнтра, артысткай быць яна не збіраецца, бо ў мяне няма на гэта ніякіх задаткаў. Дома яе чакае работа, і цяляты напэўна ўжо даюць дзе-небудзь там канцэрты.

І вось у другі раз ён слухае гэтую дзяўчыну. Яна не спявала, але неяк адразу прыкавала да сябе ўвагу: чуць і бачыць яе было проста прыемна.

— Не краў? — прыпірала яна, як кажуць, да сцяны Буракова, стараючыся пранікнуць сваімі шэрымі вачамі ў яго душу.

— Дык хто я, па-твойму: злодзей ці камуніст? — ускочыў з крэсла Буракоў, пазіраючы на сакратара райкома партыі і моцна стукаючы сябе левай рукой у грудзі.

— Хто ты? — зусім разважліва перапытала Валянціна, як-бы не да канца яшчэ ўцяміўшы, што ён ад яе хоча.

— Хто я? — паўтарыў Буракоў, рашуча крычучы ў твар свайму супрацоўніку, і яшчэ раз стукнуў сябе ў грудзі, на гэты раз правай рукой.

— Я-б сказала, хто ты, але не хачу, раз ты такія пытанні задаеш,— адказала, зусім не злуючыся, Валянціна.

— З кім тыкаешся, кажу табе, Валя! — не вытрымаў Міхей, неяк прарваўшы абарону з боку сакратара райкома партыі.

— Ты, тата, не сварыся, я не маленькая. Я выступаю на сходзе. А што ён сердзіцца, дык я не вінавата, хай сердзіцца.

Валя расказала, як Буракоў недадаваў на цялят муку, ашукваючы даглядчыц, што быццам молатай няма або недавыпісалі. А сам украдкай разносіў яе па вёсцы, мяняў на самагонку. Валя моцна сціснутым кулаком дакраналася да стала і расказвала, як яна пайшла ў калгасную канцылярыю і як бухгалтар, нібыта за недахопам часу, не жадаў паказаць ёй накладныя, і як яна, цераз старшыню калгаса, пранікла ўсё-ж у таямніцы бухгалтэрыі. Яна дакументальна ўстанавіла, што Буракоў муку крадзе. Так і сказала: крадзе.

— Няпраўда! Не краў я, таварыш сакратар райкома, — крыкнуў Буракоў і замахаў правай рукою знізу ўгору. — Мая жонка настаўніца, і ў мяне хапае, калі-б я захацеў выпіць. Хай людзі скажуць,— Буракоў паказаў на калгаснікаў, што сядзелі на сходзе.

— Вось іменна. Ніна Сцяпанаўна не дае табе піць, дык ты наўкрадкі і туляешся па хатах. Дзе я цябе злавіла з той мукой? — Валя зрабіла вытрымку, пазіраючы на Буракова, што ён будзе рабіць, і адказала: — У Крутовіхі ў хаце. Як лісу ў куратніку.

Крутовіхай звалі Матруну Шарупку, удаву, заўсёды з чырвонымі вачамі, нібы яны былі ў яе трахомныя. Адно імя яе выклікала ў аднавяскоўцаў зусім зразумелую насцярожанасць.

— Што цяпер ты мне скажаш? Не адводзь вачэй! Пазірай на мяне,— з патрабавальным абурэннем гаварыла Валя.

Буракоў не пазіраў на Валю, а цераз усіх людзей на супроцьлеглую сцяну, нібы там быў далягляд, і ён штосьці заўважыў на ім.

— Ты камсамолка? — запытаў ён у Валі.

— Камсамолка, — адказала Валя.

— Што ты казала на мяне, калі я быў аднойчы з медалямі?

— Што я казала? Я казала, каб ты яшчэ на лоб сабе іх начапіў.

Буракоў ускочыў з крэсла, абапёрся рукамі аб стол і абрадавана загаварыў у бок сакратара райкома камсамола:

— Вось якія, таварыш Хвошчанка, вашы камсамольцы! Вы іх вучыце гэтаму?

— Ты не хапайся, як тапелец за саломінку,— стаяла на сваім Валя.— Ты скажы: калі ты чапляў медалі? Чаму сягоння без медалёў?

— Тут мяне і без медалёў ведаюць.

— А каровы што: не ведаюць? Перад жывёлай свае заслугі дэманструеш? Ты іх чапляў тады, як быў п'яны. І не заўсёды, а як на ферму я прыйшла. Як я скажу што, дык ён мне шась уперад левую грудзіну. Пужаў мяне ўсё імі. Бабы пачалі смяяцца: «Валя, бач, з медалямі ўжо ідзе». Гэта ведай, што ўжо ідзе пад мухай...

Буракоў перастаў перабіваць Валю, зрабіўся зусім ціхі. Вусны яго адразу засмяглі, на шчоках большымі зрабіліся ямкі, і стала відаць шмат маршчын каля вачэй. Ясна было, што ён быў глыбока ўражаны валіным выступленнем. Ён не чакаў такога моцнага ўдару, які стукнуў яму ў самае сэрца, і па ўсім целе прайшла млявая знямога. Ён не пазіраў ужо ні на старшыню калгаса, ні на сакратара райкома, які сядзеў недзе ззаду.

Пад канец сходу старшыня Іван Барысавіч ля сакратара райкома, які нешта гаварыў з Міхеем Цэдрыкам. Ды так узбуджана, што толькі і відаць былі на яго твары чорныя вусікі пад носам, нібы хто двума пальцамі з сажай пэцнуў.

Буракоў сумысля ішоў ціха, затрымліваўся, але яго не заўважалі і не бачылі, бо цалкам былі захоплены сваёй размовай.

Буракоў адыйшоўся крыху ад канцылярыі і стаў. На ганку загаманілі і потым стукнулі чымсьці глуха па машыне, як у бочку. Загуў матор, загарэлася святло, і машына кранулася. Буракоў крута ступіў убок і ў гэты-ж момант заўважыў, як аб фару стукнулася нейкая казяўка велічынёю з жука і нямаведама дзе дзелася. І яшчэ ён заўважыў, што ў машыне паехаў з квадратнай голенай галавой Міхей, валін бацька.

Калі машына паехала, Буракоў пачуў бойкую песню жаночых галасоў. Ён адразу ўгадаў завадатарскі голас Валі, які выскокваў высока ўгору, забягаў наперад і вяртаўся, быццам жартуючы з другіх галасоў, што не ім быць яго супернікамі.

Буракоў павярнуў у сваю вуліцу (вёска мела гарадскую сістэму вуліц) і выйшаў к лужку, каля якога стаяла яго хата, якую ён паставіў адразу пасля вайны, але яшчэ не забіў сапраўдны шчыт і нават не дакрыў адзін канец даху. Хата неяк адразу глянула на Міколу скалечанай, чаго ён ніколі не заўважаў раней. Хіба яму не было часу дакрыць, шчыт забіць? Нават зрабіць налічнікі і пафар-



таропка падняўся, быццам успомніў, што ён забыўся кіраваць сходам, і сказаў:

— Хай Ганна яшчэ што-небудзь скажа.

Сярэдніх год жанчына, якая была ўхутана белай хусткай пад бараду, пакруціла галавой, зрабіла ледзь прыкметную ўсмешку на поўным твары і адказала:

— Нічога я не ведаю.

— Скажы, скажы. Ты даўно працуеш на цялятніку.

Тады яна паднялася.

— Тут буду, — сказала яна, каб не ісці да стала.

— Добра. Гавары!

— Што я скажу? Валя мне падабаецца. Дужа яна справядлівая. Вясёлая. Спрытная: усё ў яе руках гарыць. А што здохла цялё, дык яна тут ні пры чым. Нашто маніць. Пуп яго прымарозіла, як яшчэ пад каровай было, і стаў гнісці жывот. Гэта ўсе скажуць.

Яна паглядзела назад на сваё месца і села.

Сход разыйшоўся хутка. Неяк вельмі хутка і ціха выцеклі людзі з памяшкання.

Буракову было крыўдна, што да яго ніхто не падыходзіў, не загаварыў, не запрасіў разам дамоў ісці. Нават Іван Барысавіч, старшыня, як на спружынах, адразу апынуўся кабаваць? Буракоў стаў каля варот, таксама часова зробленых з аполкаў.

От і тады, мінулай восенню, Буракоў ішоў са сходу з няважным настроем. Хаця яго тады ніхто і не чапаў. Яго работы не краналіся, але нейкая незадаволенасць ціснула сэрца, усё неяк было, як за мутным шклом.

І невядома дакуль-бы яшчэ Буракоў разважаў, якія думкі не з'явіліся-б у яго галаве, калі-б не пачула яго тупанні і шкрабанні жонка і не адчыніла акно.

— Гэта ты, Мікола? — запытала яна прыцішаным голасам.

— Іду. Во цёпла, дык я стаў ды стаю. Толькі камары кусаюцца.

Ён ведаў, ідучы ў хату, што заўтра жонка пачуе пра сход.

Жонка... Яна-ж амаль зусім нічога не робіць па гаспадарцы, а толькі карпее над кнігамі ды сшыткамі, а цябе пячэ і пячэ. Як ты і не чалавек, няма ў цябе ўласнага розуму і не маеш ты права кроку ступіць самастойна, не то што каб калі-небудзь, не баючыся, чарку выпіць, ці яно з непаладкаў па рабоце, ці можа нават для справы.

Нейкі прыкры вузел завязаўся для Міколы, і вось цяпер марней і думай: як яго разблытаць?





Малады паэт **Юрась Свірко** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіцы Бягомльскага раёна Мінскай вобласці.

Цяпер ён займаецца на трэцім курсе філалагічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.

Вершы Ю. Свірко друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах.

Мы змяшчаем новыя вершы маладога паэта.

### Маё мястэчка

За ўсіх на свеце, можа, шчаслівейшы,
Калі дадому я імчу бягом.
Здаецца, стала многа прыгажэйшым
Мястэчка маё роднае Бягомль.

Тут у маленстве, у сасновай хаце,
Каля старых пабеленых бяроз
Я засынаў пад шолах сенажацяў,
Пад ціхі шум задумлівых бароў.

Але часамі зноў мяне трывожыць
Страшэнны гул замоўкнуўшых баёў.
Я не забыў, што бомбаю варожай
Дзяцінства пераломлена маё.

Мне тут пацвердзяць чараты і лозы,
І ў багне адгукнецца гільзаў медзь,
Што вечна будзе над ракой Бярозай
Слава партызанская грымець.

### На практыцы

Веласіпед, як птушка, лёгка
Шуршыць абочынай шашы.
Хоць да рэдакцыі далёка,
Але прыемна на душы.

Усмешка свеціцца на твары,
І сэрца ў радасці расце.
Дарма, што не вязу я нарыс —
Блакнот ад фактаў патаўсцеў.

Як сабіраў жывыя факты,
Я толькі аднаго жадаў,
Каб сам народ, а не рэдактар,
Мне пахвалу скупую даў.

### Ноч у гарах

Туман праваліўся у пушчу далін,
Вяршыням прыкрыўшы галовы.
Месяц шчаку да скалы прытуліў.
Гукі няясныя ловіць.

Прыглушана нешта грыміць угары,
З шумам ляціць у бяздонне.
То коціцца камень з высокай гары,
То птушка крычыць спрасоння.

То піхта старая падчас зарыпіць,
І больш аніякіх гукаў.
Здаецца, каб крок нерашуча ступіў—
І ён перарос-бы у грукат.

* * *

І зноў дарога, цяжкая, даўгая,
Якіх нямала пройдзена ў жыцці.
А спадарожнікаў не ўсіх я знаю,
Ды з імі многа прыдзецца прайсці.

Ідзем, ідзем...
Змяняе ранак вечар:
Далёка дабірацца да гары.
Рукзак рамнямі рэжа мае плечы,
Ды я маўчу, маўчаць мае сябры.

Усё бліжэй к вяршыням падыходзім,
Адкуль далёкі краявід відзён.
Сваіх сяброў пазнаю я ў паходзе,
Няхай пакуль не знаю іх імён.

# КІНО НА СЛУЖБЕ НАВУКІ

На экране — маленькі бутон ружы. Вось бутон паволічваецца ў памерах, расчыняецца і паказваюцца пялёсткі кветкі. Адбываецца гэта на працягу 30 секунд. А ў прыродзе такі перыяд працягваецца некалькі сутак. І, вядома, ён зусім непрыкметны для вока чалавека. Каб адлюстраваць на плёнцы такі працэс, на полі перад кветкай быў пастаўлены аўтаматычны кіноздымачны апарат. Праз пэўныя прамежкі часу (5—10 хвілін) апарат з аднаго і таго-ж пункта рабіў па адным здымку расліны. Такім чынам, калі адзнятая плёнка была паказана на экране, вучоныя-батанікі змаглі ўбачыць тое, што не маглі ўгледзець у прыродзе — увесь працэс росквіту і пасьпявання расліны.

Гэтым, так званым цэйтраферным метадам кіноздымак карыстаюцца не толькі батанікі, але і астраномы. Крымская абсерваторыя ўжо доўгі час вядзе своеасаблівы «кінолетапіс» Сонца. Кожны вечар астраномы могуць за 10—15 хвілін прагледзець фільм аб «паводзінах» Сонца за ўвесь дзень. Гэта не толькі ашчаджае час у астраномаў, але і дазваляе выяўляць такія надзвычай павольныя перамены на Сонцы, якія не можа прыкмеціць чалавечае вока. Кіно знаходзіць усе больш шырокае і рознастайнае прымяненне ў навуковых даследаваннях. З дапамогай кіноздымкаў узніклі зусім новыя метады даследавання ў біялогіі, фізіцы, геаграфіі...

Вялікую дапамогу кіно робіць медыцыне. Цяпер створана нямала фільмаў, якія з'яўляюцца каштоўным навуковым матэрыялам і дапаможнікам у падрыхтоўцы будучых медыкаў.

На кінаплёнцы зафіксаваны рэдкія аперацыі галаўнога мозга, сэрца і лёгкіх.

Урачы паспяхова прымяняюць спецыяльныя віды мікракіноздымкаў. З іх дапамогай можна атрымаць зусім дакладную мікраскапічную карціну крыві і даследаваць працэсы яе змянення.

Шырока прымяняецца метад кіноздымкаў унутраных органаў чалавека. Напрыклад, аперацыю плеўральных зросткаў у глыбіні груднай поласці раней мог убачыць толькі адзін чалавек, і то праз спецыяльны прыбор. Цяпер-жа гэту аперацыю могуць наглядаць і вывучаць на экране тысячы хірургаў.

Цікава выкарыстоўваюцца ў навуковых даследаваннях паскораныя здымкі. Звычайна кінолента як пры здымцы, так і пры паказе фільма рухаецца ў апараце са скорасцю 24 кадры ў секунду. Але калі пры здымках лента будзе рухацца ўдвая шпарчэй, а зняты фільм паказваць са звычайнай хуткасцю, на экране ўсе рухі будуць замаруджаны ўдвая. Такім шляхам на экране можна ўбачыць самыя хуткія, імгненныя працэсы.

...Пры выпрабаванні новай швальнай машыны ніяк не маглі знайсці прычыну разрыву ніткі. Гэта-ж яе іголка робіць, працуючы каля 50 рухаў уверх і ўніз. Прасачыць за ёю простым вокам, вядома, немагчыма. Таму работа іголкі была знята з хуткасцю, якая ў 300 разоў больш звычайнай. І вось на экране павольна рухалася іголка, і адразу-ж была знойдзена прычына разрыву — нітка чаплялася за дзве выступаючыя дэталі. Метад паскораных здымкаў дапамагае даследавальнікам пры вырашэнні самых нечаканых пытанняў.

У чым сакрэт таго ці іншага спартсмена? Зноў-жа тут на дапамогу прыходзяць паскораныя здымкі. Пры такіх здымках на экранах ствараецца ўражанне, што спартсмен не рухаецца, а нібы плыве. Глядач можа выразна прасачыць за кожнай фазай яго руху. Пры гэтым выпадку кіно дапамагае спецыялістам у распрацоўцы строга навуковых метадаў трэніроўкі спартсменаў. Кіно выкарыстоўваюць вучоныя-фізікі, астраномы, металургі, хімікі. У лабараторыях ажыццяўляюцца рознастайныя кіноздымкі. Калі з дапамогай кінаапарата трэба было вывучыць рэзанне металу, то здымкі вяліся праз мікраскоп. З'явы, якія адбываліся ля кромкі разца (яны ахопліваюць вобласць у чатыры квадратных міліметры), разгарнуліся на ўвесь экран. Стала выразна відаць рэзанне металу, знос разца.

Апаратары і вучоныя ўзлазяць на горы, каб наглядаць сонечнае зацямненне. І кінокамера, злучаная з тэлескопам, адлюстроўвае ўсплёскі пратуберанцаў. Такія здымкі пашыраюць магчымасці даследавання скрытых ад чалавечага вока з'яў прыроды. Для гэтай мэты ўвесь час удасканальваецца кіноапаратура.

У спецыяльных звышхуткасных камерах удалося прымусіць плёнку рухацца са скорасцю ў дзве тысячы кадраў у секунду. Але зараз і гэты рубеж пераёдзены. Прымяненне новага, растравага прынцыпу здымак, дзе адлюстраванне не здымаецца, а зашыфроўваецца на плёнку, якая плыве без перастанку, дазволіла дабіцца нябачных хуткасцей здымак — да пяці мільёнаў кадраў у секунду. У лабараторыі высокавольтных разрадаў такімі скарасными апаратамі здымаюць штучныя маланкі. Кіноздымкі прадаўжаюцца ўсяго адну стотысячную долю секунды!

Матэрыялы многіх навуковых кіноздымкаў, якія вырабляюцца ў лабараторыях вучоных, на заводах, у МТС і калгасах, у час экспедыцый, уваходзяць у навукова-папулярныя фільмы. У іх наглядна расказваецца пра «мечаныя» атамы, пра квадратна-гнездавы спосаб пасеву і пасадкі раслін, пра новыя ўнікальныя станкі і пра ўльтрагукі, аб метадах работы наватараў вытворчасці і перадавікоў калгасных палёў.

У стварэнні навукова-папулярных кінокарцін актыўны ўдзел прымаюць вядомыя дзеячы савецкай навукі і тэхнікі. Пры іх садзеянні былі створаны вялікія вучэбныя кінокурсы «трактар», «аўтамабіль», якія дапамагаюць масавай падрыхтоўцы кадраў трактарыстаў і шафёраў.

Цэлая серыя карцін папулярызуе перадавы вопыт будаўніцтва. Кіно дапамагае і ў выхаванні творчых кадраў для мастацтва. Пры дапамозе мастацтвазнаўчых фільмаў навучэнцы тэатральных школ і інстытутаў вывучаюць іграу вялікіх рускіх артыстаў. Кінофільмы дапамагаюць вывучаць таксама творчасць майстроў выяўленчага мастацтва.

Кінаапарат выкарыстоўваюць археолагі і географы. Так, напрыклад, з дапамогаю спецыяльных кінокамер, якія заключаны ў воданепранікальны кажух, на дне Чорнага мора быў вывучаны кратэр патухшага вулкана Кара-Даг.

Навуковае кіно, якое з'яўляецца маладой галіной савецкай культуры, з кожным днём знаходзіць усё большае прымяненне.

**В. ВАДЗІМАЎ.**

# СВОЙ ХЛЕБ

**Зінаіда БАНДАРЫНА**

**Нарыс**

Ліля разам з сяброўкамі вярнулася пасля заняткаў у студэнцкі інтэрнат. Прысела ля стала і ўсё яшчэ не магла супакоіцца:

— Паедзем, ці што?—разгублена спытала яна, а думкі панесліся кудысьці далёка, далёка. Невялічкае, худзенькае яе цела нібы зусім страціла сваю вагу.

— Вось, вось, толькі цябе там і нехапае!

— Ты што, у героі меціш?

— Дзяўчаткі! Дык я-ж у вас толькі пытаюся...—у ліліным голасе чулася крыўда, хмурачыся, яна абвяла вачыма сяброўак.

Ля шырока расчыненага акна моўчкі сядзела Людміла, рыхтавалася да заняткаў. Уздыхнуўшы, Ліля падумала: «Мінуты дарэмна не патраціць». Стала і самой ніякавата, выняла з партфеля падручнікі і таксама паспрабавала што-небудзь рабіць. Перапісала задачу, а далей справа не ішла. І аб чым толькі не перадумала! Чамусьці прыгадалася, як некалі ўступала ў піонеры. Маці купіла і адпрасавала піонерскі гальштук, павесіла яго на спінку ліліная ложка. Ліля распранулася, легла спаць і раптам ёй здалося, што яна не ўмее як след аддаваць салют. Засынала і ўсё яшчэ паўтарала: «Заўсёды гатоў! Заўсёды гатоў!»

Як гэта даўно было! А цяпер яе таварышкі на цаліну збіраюцца. Праўда, толькі на час канікулаў... Паехаць-бы з імі, ды вельмі-ж далёка... Але другія-ж едуць туды!

Ліля загарнула падручнік, падышла да акна, каб пагрэцца на сонцы, легла грудзьмі на падаконнік і без намеру зламіла ротам клейкі тапалевы лісток. Жывая спакуса—таполя распускалася пад самым акном. Жуючы лісток, дзяўчына думала: «Людзі багацеюць душою, калі многа бачаць. А тамжа—які прастор!..»

Назаўтра, як толькі скончыліся лекцыі, студэнты пайшлі ў актавую залу. Ліля прыхінулася галавой да белай мармуровай калоны, назірала, слухала.

Замест прамовы, комсорг зачытаў спіс комсамольцаў, якія добраахвотна хацелі ехаць на цалінныя землі. У ліку іх была і Людміла. Пачуўшы яе прозвішча, Ліля нават не зварухнулася, але ўсё яе нутро апякла гнеўная думка: «Вось табе і ціхоня! Ні з кім не параілася, словам ні з кім не перамовілася. Проста дзіўна!»

«Цаліннікі» затрымаліся ў залі. Ліля ўпершыню выйшла з інстытута адна, без Людмілы, з якой пасябравала яшчэ на прыёмных экзаменах. Не ведаючы, як пазбавіцца ад дрэннага настрою, яна блукала па пустых вулачках. Знянацку забрыла ў малады сквер, прысела на лаўку. Нават заход сонца не супакойваў яе, а раздражняў.

...«Хіба гэта сяброўка?—думала Ліля.—Усё цішком. Паедзе сабе... І няхай едзе... Наўздагон не палячу. Не ўбачу тых стэпаў, ну і бяда вялікая!»

Пуста і абыякава было ў Лілі на душы. Усё здавалася шэрым, штодзённым. Над дарожкай у паветры таўклі мак камары. Пасвятлела неба, дзе-ні-дзе на ім яшчэ прарэзваюцца промні, але хмара засланіла сонца. Вось зноў святлее, гэта хмара адплывае.

Бацькі свайго Ліля не ведала, ён памёр, не дачакаўшыся дачкі. Яна расла пры мацеры і рана адчула, што звязвае ёй рукі. Гэта было ў вайну, калі ліліна маці парывалася пайсці ў партызаны. З малым дзіцем яе не ўзялі. Як няласкавы сон, праляцела матчына жыццё, падкрадвалася старасць. І не было ў гэтым жыцці ні вялікіх навальніц, ні асаблівых радасцей. Няўжо паўторыцца ўсё матчынае і ў яе, у Лілі?

Знянацку ўзняўся вецер, кінуў на ліліны калені бэзавую квецень. У кожнай кветцы чатыры пялёсткі. Перабіраючы іх пальцамі, Ліля пералічвае і хмурыцца. Хочацца адшукаць незвычайны пяты пялёстак, які называюць «шчаслівы».

Тым часам на лаўку да Лілі падселі дзве жанчыны. Ліля, занятая сваімі думкамі, пазірала на іх без цікавасці. ! ўсё-такі бачыла: у першай з іх на дзіва прыгожы адкрыты твар, на шчоках, калі ўсміхаецца, ззяюць ямінкі, і цяжка паверыць, што яна хоць калі-небудзь бывае сярдзітай, без гэтай ўсмешкі. Нешта пяшчотна мяккае, сапраўды мацярынскае, заўважаецца ў яе абліччы. І Лілі прыемна, што яна сядзіць побач.

— Мы вас не патурбуем?—спытала жанчына Лілю.

Сама яна не магла перашкодзіць Лілі, бо моўчкі слухала сваю прыяцельку. А тая—поўная яе процілегласць: нафарбаваны рот крывіўся ад нейкай пагарды, старанна завітыя валасы і птушыны нос пагардліва ўзнімаліся ўгару.

— Паслухайце, я абурана! Што гэта такое? Ім пагражаюць, што не дадуць стыпендыі, выключаць з інстытута... Прымусам гоняць на гэтыя міфічныя землі. Я сваёй так і сказала: «Не пушчу, няхай выключаюць!» Няхай толькі паспрабуюць, я ім пакажу, з кім маюць справу. Паедзе дзяўчынай, а вернецца... д'ябал ведае кім! Не разумею матак, якія даюць згоду. Мне абсалютна незразумела, як вы можаце...

Ліля ўстала і пайшла. Калі яна мінула фасад політэхнічнага інстытута, які свяціўся безліччу агнёў, да яе жвава падбегла Людміла:

— Ты дзе прападала? Мама выклікае па тэлефону! Чуеш?!

Людміла схапіла трубку, трасанула яе і, заблытаўшыся ў провадзе, загадала Лілі:—Слухай!

Неразлучныя, яны зноў стаялі адна супраць другой. Ліля—сухенькая, кірпатая бландынка ў акулярах, з кароткімі туга заплеценымі косамі, якія тырчаць у розныя бакі над чырвонымі вушамі. Людміла — рослая, шырокаплечая, з пунсовымі шчокамі, з густымі кучаравымі валасамі і светлаблакітнымі, яснымі вачыма.

— Мама, мамачка! Гэта я... — крычала ў тэлефонную трубку Ліля. — Што здарылася?! Ты здарова? Як-жа, я пісала табе... Не атрымала? Напэўна, атрымаеш заўтра... Але-ж, так... Многія. Люда таксама... Мама, ты ўпэўнена?!.. — Адказу не было. Перабіў сігнал, што размова скончана. Трубка ў ліліных руках узмакрэла ад поту, а яна ўсё яшчэ прыціскала яе да вуха і маліла тэлефаністку: — «Будзьце ласкавы, яшчэ на мінуту, мы недагаварылі. Мама!.. Ало! Слуцк!..»

Ліля зняможана аддала трубку Людміле. Тая паклала яе на месца, падзякавала сівавусаму вахцёру. Пасля абняла Лілю і адвяла ўбок.

— Супакойся...

— Люда, ты не ведаеш? Мама ўпэўнена... Яна нават не сумняваецца, што я таксама з вамі еду...

— Лілечка! Ну, чаго табе на цаліну? — ласкава сказала сяброўка. — Там цяжка будзе табе.

— Скажы, не позна яшчэ падаць заяву, — рашуча спытала Ліля. — Ну, вось, зноў маўчыш? А яшчэ сяброўкай называецца... Чуеш, хадзем зараз-жа ў камітэт, бо інакш я ўсю ноч не засну і табе спаць не дам. Чэснае комсамольскае!..

... Урачыстым провадам пашкодзіў дождж. Пачаўся з вечара, ліў усю ноч, раніцой сярдзіта цярушыўся па лужынах. На першай платформе абмытыя дажджом вагоны таварняка былі расчынены. Руплівы машыніст паспеў прычапіць ужо свой паравоз, які пыхкаў дымам. Ліля бегла платформай да хваставога вагона. Яна ўзрадавалася, убачыўшы там Людмілу, намервалася з разбегу падскочыць да яе. І раптам разгубілася. Ні прыступкаў, ні лесвіцы. Што-ж рабіць? З ліліным ростам гэта сапраўды нялёгкая справа.

Праз мінуту поезд рушыў. Людміла высокім голасам заспявала: «Бывай, любімы горад»... Песню падхапілі. Спявалі, хто як мог, але на дзіва дружна. На нейкі момант на платформе над галовамі праводзячых праплыў чырвоны інсты-

## Да свята маладосці

Дружна рыхтуецца да фестывалю творчая моладзь сталіцы нашай рэспублікі. Новы спектакль «Юныя мсціўцы» вырашыў паказаць у дні фестывалю Тэатр юнага гледача. Гэта п'еса створана калектывам тэатра разам з маладымі аўтарамі Гудковічам і Хазанскім. Роўна год таму назад яны прынеслі ў тэатр свой твор. Аднак гэта была яшчэ не п'еса, а толькі матэрыял, хвалюючы матэрыял аб незабыўных гераічных старонках барацьбы комсамольцаў Обальскай падпольнай арганізацыі ў часы фашысцкай акупацыі.

Галоўныя героі спектакля — вучні сярэдняй школы, якія аддалі сваё юнае жыццё за свабоду Савецкай Радзімы. Гераічныя і незабыўныя справы Обальскіх комсамольцаў натхнілі калектыў тэатра. Аб гэтых справах павінна ведаць уся моладзь Беларусі.

Праведзена напружаная творчая праца рэжысёра тэатра і калектыву разам з маладымі аўтарамі. Дапісаны новыя сцэны, дыялагі. Гэта дружная праца дала свае плённыя вынікі. Сёння калектыў тэатра завяршае падрыхтоўку п'есы «Юныя мсціўцы».

Музыку да спектакля напісаў наш малады кампазітар — комсамолец Я. Глебаў.

Як жывыя, паўстаюць перад намі вобразы незабыўных герояў, юных комсамольцаў: Надзі Зінькевіч, Косці Акулевіча, Валі Жаўранкавай, Ніны Партновай. Яны атрымалі комсамольскія білеты, а потым на сваім школьным вечары весяліліся, спявалі любімыя песні, марылі аб шчаслівай працы. І раптам гэта радаснае жыццё абарвала жудасная і ненавісная вайна. Люты вораг спаліў родную школу і дом. Але юныя мсціўцы не скарыліся. У кожнага з іх білася гарачае, юнае сэрца, поўнае адвагі і помсты за смерць сваіх бацькоў, за спаленыя вёскі і гарады. І гэта моцна адчулі на сабе фашысты. Незабыўныя вобразы юных мсціўцаў адкрываюць перад намі высокародныя старонкі з слаўнай барацьбы Ленінскага Комсамола Беларусі ў часы Айчыннай вайны.

У спектаклі заняты ўвесь калектыў тэатра. Ставіць пастаноўку «Юныя мсціўцы» галоўны рэжысёр тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў Л. І. Мазалеўская. Мастацкае афармленне В. Д. Сычова.

Рашэнне рэспубліканскага аргкамітэта — паказаць наш спектакль да Усесаюзнага фестывалю моладзі і студэнтаў — натхняе наш калектыў. Кожны работнік нашага тэатра жыве адзіным жаданнем — стварыць спектакль, варты свята маладосці і юнацтва.

**В. М. СТЭЛЬМАХ,**
**дырэктар Тэатра юнага гледача.**

туцкі сцяг, нехта падняў на рукі маленькую дзяўчынку ў блакітным гноміку, і яна махала ўслед таварняку сваёй бязногай лялькай.

Сем дзён Ліля і яе таварышы былі ў дарозе. Па чарзе бегалі яны на станцыі па ваду. Апякаючыся, пілі з бляшаных кубкаў чай без заваркі, з'ядалі па поўбатона за адзін раз. У Пензе і Свярдлоўску яны агледзелі гістарычныя помнікі і нават сфатаграфаваліся. На фотакартцы касматая галава лілінага аднакурсніка Вані Кныша ледзь не засланіла ўсіх дзяўчат.

Дарога ўсіх здружыла, зблізіла, і, выказваючы агульную думку, Людміла сказала Лілі:

— Мы вырашылі прасіцца абавязкова ў адну брыгаду.

Быццам сон, прамільгнула перад Ліляй сустрэча ў Акцюбінску з мясцовай моладдзю і прадстаўнікамі кіруючых устаноў. Пасля прамоў і смачнага абеду студэнтаў пасадзілі на грузавыя машыны і павезлі ў стэп. На яркасінім небе насустрач ім каціўся агністы дыск сонца. Пахла палыном. Шаўковы кавыль шалясцеў ля барта машыны. Час-адчасу паміж зялёнымі ярамі, як снег сярод лесу, мільгалі белыя хацінкі казахскіх аулаў.

Назаўтра ў поўдзень Ліля ўжо не магла выпрастаць спіну. Бязлітасна паліла сонца, і вецер кідаў у твар, засыпаў рот, вушы едкім, горкім пылам, зацярушваў і сляпіў вочы. Здавалася, гэты пыл асядае на ўсім целе і паліць яго агнём. Ліля спрабавала скінуць куртку, але было яшчэ горш. У горле перасохла. Вады няма. Перад вачыма Лілі ўсплыла знаёмая, родная крынічка пад старой бярозай, адразу за матчыным агародам. Добра было там у цяньку. «Хачу дамоў»—выразна, да болю ў сэрцы акрэслілася думка. «Хораша ўсё тут толькі зводдаль, а зблізку— не вельмі».

Прайшло два месяцы. Лілі здавалася, што гэта не месяцы, а цэлыя гады. Не збярэш у адно новыя ўражанні, здарэнні, сустрэчы. Адзін дзень зусім не падобны на наступны. Усюды нечаканасці, і нярэдка яны прыносяць тугу, роспач. У той-жа час, пасля пераадоленых цяжкасцей, яшчэ ласкавей схіляецца да цябе бяздонная сінь неба, і здаецца, што ты купаешся ў ёй і выходзіш чыстым, дужым, поўны спагады і любасці да сваіх таварышаў і нават зусім незнаёмых людзей. Усёй сваёй душой Ліля бясконца палюбіла такія мінуты. Яна і сама вельмі змянілася. Палюбіла ісці насустрач рэзкаму ветру, часам прыхіляючыся да зямлі, каб выраўняцца і зноў рынуцца наперад. Яна больш ужо не гнулася, стала стройнейшай, быццам падрасла. Яе рэдка хто цяпер бачыў без прывабнай усмешкі, якая азарала незвычайнай мяккасцю загарэлы скуласты твар заблупленым кірпатым носікам. Валасы ад сонца сталі залатымі і пачалі кучаравіцца над ілбом дробненькімі кольцамі. Рукі і ногі яе заўсёды былі ў больках. Да гэтага ўсе прызвычаіліся, як прызвычаіліся да некаторых яе дзівацтваў, якія раскрыліся ў новым святле. Ліля ўвайшла ў калектыў, яе палюбілі. У сваю чаргу і яна вельмі прывязалася да таварышаў і кожнаму старалася зрабіць што-небудзь добрае. Дні, калі гэтага зрабіць ёй не ўдавалася, яна лічыла марна пражытымі. У сваёй брыгадзе яна была рэдактарам «Баявога лістка». Аднойчы вечарам, выпускаючы чарговы нумар, яна падахвоцілася напісаць пісьмо сваёй маці. Пад рукой чыстай паперы не было. Ліля склала напалам свабодны бланк «Баявога лістка» і прынялася хуценька страчыць алоўкам:

«Даражэнькая мамачка! Не крыўдуй, што рэдка табе пішу, спраў у мяне шмат. Апошняе пісьмо тваё было трывожнае. Ты просіш, каб я пісала табе адну праўду. Родная мая, хіба я калі-небудзь табе маніла?

Можаш уявіць сабе нашы стэпы і світанне ў іх? Аб гэтым я табе пісала раней. І пра стэпавых арлоў таксама. Наш адчапны вагончык сярод гэтых прастораў, як дзіцячая цацка ў нашым пакоі. Але тут людзі, іх нямала. На лесвіцы і ў вокнах—мурзатыя твары трактарыстаў. Вунь махае нам шапкаю Ваня Кныш. У яго толькі язык злы, а сам ён—нічога. Ведаеш, нядаўна ён запрапанаваў сваім арлам эвакуіравацца з вагончыка на дах, а нам, дзяўчатам, уступіць свае месцы. Так і зрабілі. Размясціліся мы цяпер выгодна. У вагончыку, як на параходзе, люлькі падвесныя, замест ложкаў. Скруцішся ў ёй абаранкам і адразу засынаеш.

Мяне цяпер паставілі на камбайн. Вядома, не камбайнерам, да гэтага я яшчэ не дарасла, проста капнільнікам. Націснеш нагой на педаль, і ляцяць у люк копы духмянай саломы. Толькі паспявай рэгуляваць гэты цудоўны прыбой: ляцяць, як тыя хвалі, і ляцяць...

Заўчора мы хадзілі ў суседні аул. Вярталіся вечарам і напалі на калгасны агарод, сарвалі два памідоры і тры морквіны. Памідоры яшчэ зялёныя, але есці можна. У Цеміры ёсць кавуны, да нас іх яшчэ не давезлі. Не надта спяшаюцца. Самае цікавае зараз тое, што мы ездзім на работу на вярблюдах. Першы раз было ехаць цвёрда. Цяпер мы з Людкай добра ездзім. Твая праўда, мама, нам няма чаго з ёю сварыцца. Мы нават тое-сёе пераймаем адна ў другой. Яна ўжо не лічыць мяне слабенькай.

Мама, ты пытаешся, калі я прыеду? Думаю, што 15—20 верасня буду дома. Рыхтуй сустрэчу. Больш мне ўжо не пішы. У мяне ўсё добра і будзе добра. Скора ўбачымся. Выбачай, забылася напісаць бадай пра самае галоўнае. Мамачка, я зарабіла ўжо семнаццаць пудоў пшаніцы. Мы з табой цэлы год можам есці мой пшанічны хлеб. Які ён смачны...»

Ліля паставіла шматкроп'е, каб знайсці трапнае параўнанне.

І тут яе змарыў сон. Яна прытулілася да Людмілы і заснула.

# Падарунак фестывалю

Шматмільённая армія савецкіх юнакоў і дзяўчат зараз звяртае свае думы да сталіцы нашай Радзімы — Масквы, дзе будзе ўзняты сцяг VI Сусветнага фестывалю, дзе на лозунгах будуць напісаны простыя і дарагія сэрцу словы: «Свету — мір!». І хочацца працаваць яшчэ лепш, яшчэ больш старанна, каб не толькі ісці наперадзе, але і заслужыць пахвалу Айчыны, народа.

Вось з такім палкім жаданнем — спаткаць фестываль творчай удачай — падыйшоў Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі да работы над п'есай П. Валодзіна «Фабрычная дзяўчынка».

Цэнтральная роля Жэні Шульжэнка даручана выхаванцы Мінскага тэатральнага інстытута Галіне Маркінай. Смелая ініцыятыва рэжысёра закончылася перамогай выканаўцы і пастаноўшчыка.

— Пачынала я работу над вобразам Жэні, — кажа Галіна Маркіна, — і адчувала хваляванне і вялікую адказнасць. Гэта-ж мая першая сапраўдная работа ў прафесійным тэатры. Хто ўдзельнічаў у гуртку мастацкай самадзейнасці, той ведае і зразумее пачуцці маладой актрысы. Калі выканаўца застаецца адзін-на-адзін з гледачом, дык і рукі не ведаеш куды падзець, і ногі падгінаюцца, і ў горле перасыхае. Але гэта адчуванне праходзіць. Варта толькі зжыцца з характарам вобраза, і тады забываешся на ўсё — і на няёмкасць, і на сарамлівасць. Наступае сапраўдная творчасць, перад якой, вядома, папярэдне была доўгая, упартая работа.

Імкненне камсамолкі Галіны Маркінай паказаць «фабрычную дзяўчынку», крыху ўзбаламучаную, задорную, з гарачым пачуццём дружбы, завяршылася поспехам. У артысткі добры падарунак фестывалю моладзі.

Побач з ёю ў спектаклі з поспехам выступяць іншыя маладыя выканаўцы, напрыклад, Зіна Зіноўева і Надзя Ганчарэнка. Зіна Зіноўева з дзіцячых год прымала ўдзел у драмгуртку маскоўскага Дома піонераў Фрунзенскага раёна, а пасля закончыла вучылішча імя Шчэпкіна пры Малым акадэмічным тэатры. У гэтым спектаклі Зіна выконвае ролю Лелі — кіраўніка маладзёжнай брыгады. З Надзяй Ганчарэнка мы ўжо знаёмы па кінофільму «Цень каля пірса», дзе яна іграе афіцыянтку. Працуючы ў тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі, Надзя зарэкамендавала сябе здольнай драматычнай артысткай.

Людміла Хрол, яшчэ нядаўна выйшла з камсамольскага ўзросту, але ў душы засталася камсамолкай, і гэта адчуваецца ва ўсім — у яе таварыскіх адносінах да сяброўак, у жаданні дапамагчы парадай у цяжкую для акцёра хвіліну.

Здольны творчы калектыў Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі паспяхова ажыццявіў пастаноўку пад кіраўніцтвам рэжысёра І. С. Манухіна.

**Л. ЗАЛАТАРОЎ.**



**Сцэна з другой дзеі спектакля «Фабрычная дзяўчынка».**
Фото С. Чырэшкіна.



**Выканаўца ролі Жэнькі Шульжэнка з п'есы «Фабрычная дзяўчынка» артыстка Г. Маркіна.**



**Выканаўца ролі Надзежды Лапінай артыстка Н. Ганчарэнка.**

# ШЧЫРАЯ ПЕСНЯ

Прыемна ўзяць у рукі гэтую невялічкую кніжку з блакітнай, як вясновае неба, вокладкай. Разгорнеш яе — і ад першых-жа радкоў павее нечым сапраўды вясновым і радасным:

Калі не жадаеце знацца ў жыцці
З назойлівай скрухай — журбою,
Куды ні прыдзецца паехаць, пайсці, —
Песню бярыце з сабою!

Ці клікне вас мора туманная даль,
Нямоўкнучы голас прыбою, —
Пакіньце на беразе смутак і жаль!
Песню бярыце з сабою.

Чытаючы гэты ўзнёслы верш-заклік, якім адкрываецца першая кніга Ніла Гілевіча «Песня ў дарогу», * міжвольна пранікаешся добрым прадчуваннем, што песня маладога паэта будзе цікавай і хвалюючай. Знаёмства з наступнымі вершамі зборніка пераконвае, што гэтыя спадзяванні недарэмныя.

Лірычны герой вершаў Н. Гілевіча — савецкі юнак, вясковы хлопец, студэнт, настаўнік. Біяграфія яго не адзначана ні выключнымі падзеямі, ні гераічнымі подзвігамі. І ў той-жа час мы пазнаем у ім рысы нашага сучасніка, прадстаўніка маладога пакалення, якое працягвае слаўную справу сваіх бацькоў і старэйшых братоў, што сваёй крывёй здабывалі права будаваць шчаслівае жыццё. Хараша і паэтычна расказаў Н. Гілевіч у вершы «З гадоў маленства» пра вясковых хлапчукоў, якія глядзяць фільм аб рэвалюцыйных подзвігах кранштадцаў. Чытаеш гэты верш, і ўяўляеш прагных да ўсяго прыгожага і гераічнага віхрастых хлапчукоў, якія сядзяць у клубе «ўперадзе, ля ног старэйшых, каб аж рукою даставаць экран».

Н. Гілевіч тонка адчувае прыроду і піша аб ёй па-мастацку трапна.

«Качан за лістом апранае ліст —
Яму таўсцець да самых дзён марозных.
І бульба ў рост ідзе, як паглядзіш, —
Ажно зямля варушыцца ў барознах.

Верш «На схіле лета».

Гэтыя радкі гавораць аб тым, што Н. Гілевіч умее бачыць свет вачамі мастака. У сваіх лепшых вершах паэт узнімаецца да шырокіх абагульненняў. Характэрны ў гэтых адносінах верш «Калодзеж». У ім расказваецца аб тым, як бяруць людзі з калодзежа ваду, а яе не ўбывае. І калі ў заключнай страфе аўтар раіць браць натхненне там, дзе яго не вычарпаць, — у народзе, дык гэта ўспрымаецца натуральна, бо вынікае з усяго вобразнага строю верша, які ўяўляе сабой паэтычную карціну з жыцця сельскіх працаўнікоў.

Ніл Гілевіч — лірык. Вызначыліся ўжо некаторыя рысы яго творчай манеры, яго паэтычнага почырку. Малады паэт не імкнецца здзівіць чытача нейкімі неспадзяванымі метафарычнымі фарбамі, рытмічнымі паваротамі. Верш яго ясны, просты і непасрэдны. Мастацкія дэталі ў паэта не штучна прыдуманыя, а ўдала знойдзеныя ў жыцці. І гэта бадай самы моцны бок паэзіі Н. Гілевіча. Возьмем для прыкладу верш «Першы снег». Вось яго пачатак:

Раптам нейк, без залётных сняжын-вестуноў,
Паваліў, нібы хтосьці яго кідаў ахапкі.
Не ўтрымаўся і выпаў з абдымкаў кляноў,
Пераняў на праспекце студэнта без шапкі.

Вартасць гэтых радкоў у тым, што яны пабудаваны на трапных назіраннях паэта. Гэткімі-ж якасцямі падкупляюць і вершы «На схіле лета», «Калодзеж», «Пасылка».

Многія вершы Н. Гілевіча, такія, напрыклад, як «Песня», «Што ты ягада-каліна», «За рэчанькай бруістаю», напеўныя і мілагучныя. У іх адчуваецца ўплыў народнай песеннай творчасці. Хочацца спадзявацца, што гэтыя вершы прыцягнуць увагу кампазітараў, якія, дарэчы, часта скардзяцца на адсутнасць добрых песенных тэкстаў і нярэдка пішуць музыку на пасрэдныя, а то і проста бездапаможныя ў мастацкіх адносінах радкі.

Большасць вершаў зборніка пакідае добрае ўражанне. Аднак ёсць у маладога паэта і тое, ад чаго яму трэба пазбаўляцца. Што, напрыклад, свежага сказаў паэт у вершы «На прывале?» Сабраўшыся ў круг, салдаты спяваюць песню, і толькі адзін з іх маўчыць, сумуе аб дзяўчыне, якая не шле вестак... Вельмі-ж знаёмая сітуацыя! На гэтую тэму паэтамі створана столькі варыяцый, што наўрад ці варта было дабаўляць да іх яшчэ адну.

Некаторыя вершы Н. Гілевіча ўспрымаюцца як цікавыя каларытныя замалёўкі («Воблака», «Аж глушыць птушы грай прылётны»), пазбаўленыя, аднак, значных думак, паэтычных абагульненняў. А здараецца часам і так: намаляваўшы яркі паэтычны вобраз (верш «На шашы»), які ў самым сабе нясе пэўны ідэйны сэнс, паэт як-бы ўсумняецца, ці зразумее гэта чытач, — і дабаўляе гучны каментырый, накшталт:

Сябры! Я знаю наша пакаленне
Як самых мужных чэсных на зямлі.
Кляймiце-ж ганьбай тых, чыё сумленне
Каштуе гэтак танна — тры рублі.

Дарэчы заўважыць, апошні радок так спадабаўся аўтару, што ён не ўтрымаўся, каб не паўтарыць яго, праўда, крышку ў змененым выглядзе, у вершы «Бубновы валет», дзе гаворыцца аб «трохрублёвай праўдзе цыганкі».

Думаецца, што гэтыя недахопы тлумачацца ў асноўным нявопытнасцю, літаратурнай маладосцю аўтара і што ён здолее пазбавіцца ад іх у новай кніжцы.

**М. ПЯТРОЎ.**

* Ніл Гілевіч. Песня ў дарогу. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. 1957.




Сямён БЛАТУН

## Школьнай сяброўцы

Ты памятаеш, не хацеў упарта
Сядзець з табой я за адною партай,
Бо сябрукі смяяліся з мяне:
«З дзяўчынкай сеў, глядзі, адзеўчанеў...»
Тым горш яшчэ, пад кпіны і смяшок,
Мяне дражнілі «нэлін жанішок».
І ты ўсё чула і была той Нэляй...
Тады ўдваіх мы разам чырванелі,
Хацелася пусціцца наўцёкі,
Забыўшыся пра школу і ўрокі.
Дзяцінства наша з лiўнем адшумела,
І ты і я другімі сталі, Нэля,
Але аднекуль, з глыбіні душы,
Каханне першае ўсё просіць «напішы»,
Мо' з-за яго я не хацеў упарта
Сядзець з табою за адною партай.

Мікола ВОРАНАЎ

## Шчасце звеннявой

Сіні лён з сінім небам зліваецца,
Канца-краю палеткам няма.
Ты ідзеш, адзінокая, раніцай,
Песня ўдалеч з грудзей вырываецца,
А чаму? — ты не знаеш сама...
Ці таму, што на родных аселіцах
Вырас лён залацісты такі,
Ці таму, што спяшаеш мо' стрэцца
Гэтай раніцай з тым ля ракі,
Хто на трактары днямі вясновымі
Гэта поле пад лён узнімаў,
Хто праўдзівымі, шчырымі словамі
У палон тваё сэрца забраў.
Хочаш, мусіць, аб нечым параіцца,
Ды аб чым — ты не знаеш сама...
Сіні лён з сінім небам зліваецца,
Канца-краю палеткам няма.

## Сад

Палюбуйся! —
Роўным строем сталі
Дрэвы яблынь, вішань маладых,
Кроны кучаравыя паднялі
Пасярод палеткаў аржаных.
Занясло іх белай павалокай,
Так сады ніколі не цвілі,
Ды чародка белая аблокаў
Нізка апусцілася к зямлі.
Лёгкі ветрык кветкі атрасае,
Пенай пакрываецца зямля,
І з пялёнак вырвацца спяшаюць
Тут плады на волю да святла.
Залатым яны нальюцца сокам
І настане іншая пара:
Хутка знікне чарада аблокаў,
Спелых яблык выблісне зара.

Віктар РАКАЎ

## Роднае

Спяць сябры па інтэрнату,
Мне-ж чамусьці не да сну,—
Успамінаю каля хаты
Жыта спелага сцяну.

А за ім — аўсы, пшаніцы
Ды гуллівы пчолаў рой
Ля бурлівае крыніцы
Па-над грэчкаю густой.

Успамінаю луг духмяны,
Дзе з брыгадай нацяньні
Вёў пракосы я старанна
Ад узлесся да ракі.

Там жывуць яшчэ дагэтуль
Маладосці маёй дні,
Між пахучых траў і кветак
І ў начлезе пры агні.

Там, на ўзлесках і аблогах,
Рэха носіць голас мой...
Мне няма мілей нічога,
Як радніцца з той зямлёй.



# Поплеч

**Мікола ШАМРЫЛА**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага

1

Цёплым ранкам на адной чыгуначнай станцыі Палесся, як толькі прыпыніўся цягнік, выйшла чатыры пасажыры: высокі мужчына ў капелюшы, жанчына ў шэрым летнім паліто і дзве дзяўчынкі, гадоў па чатыры-пяць. Мужчына вынес два цяжкія чамаданы і паставіў на пероне, жанчына трымала за рукі дзяўчынак.

Над лесам падымалася сонца. Яго праменні блішчэлі на вокнах і сценах суцэльнаметалічных вагонаў.

Некалькі чалавек з клуначкамі выйшлі з вагонаў і накіраваліся ў памяшканне станцыі. Калі-ж цягнік адыйшоў, перон зусім апусцеў. Толькі гэтыя чацвёра нібы нікуды не спяшаліся. Праўда, мужчына ўжо некалькі разоў намагаўся падняць чамаданы, але кожны раз спыняўся, бачачы, што жанчына стаіць на месцы, успамінаючы ці пазнаючы наваколле.

А яно было другім, інакшым і, разам з тым, такім родным, дарагім, як у мінулыя гады. Жанчына моўчкі прыглядалася да ўсяго, што ёй было добра знаёма, хоць і падзіцячаму ўяўленню. Яна жыла ўспамінамі, марыла і днём і ноччу аб той часіне, калі зноў пройдзе тымі сцежкамі, па якіх хадзіла роснымі раніцамі, убачыць гэтую станцыю,сваё сяло, сустрэнецца з родзічамі, з блізкімі.

І вось яна, гэтая станцыя.

Тыя-ж будынкі, тыя-ж старыя дрэвы парку. За чыгункай—карпусы завода. Ён быў і раней тут. Яго разбурылі фашысты. Зараз ён стаіць адноўлены: густыя клубы дыму плывуць над яго карпусамі і рассейваюцца ў нябесным блакіце. Далей—новыя пабудовы, новыя вуліцы...

— Пойдзем, мама,—сказала старэйшая дзяўчынка з светлымі касічкамі, што звісалі з-пад ружовай шапачкі.

— Пойдзем, дачушка,— маці пагладзіла яе па галоўцы і памкнулася ісці, але зноў прыпынілася. Дзяўчынкі пазіралі на маці, нічога не разумеючы.

Пуцявы абходчык Васіль Цярэма даўно заўважыў прыезджых. Пастукваючы малаточкам па рэйках, ён падыйшоў да іх. Жанчына захвалявалася, быццам забылася родную мову і не знаходзіла патрэбнага слова.

— Прабачце!..—нарэшце вымавіла яна, звяртаючыся да Васіля.— Як нам бліжэй прайсці на Дрылёва. Усё тут новае—я не разбяруся адразу...

— На Дрылёва?—перапытаў Васіль, і сэрца яго закалацілася: знаёмы голас. «Няўжо?»...—прамільгнула думка і на душы пахаладзела.—«Не, не можа быць... Я памыліўся».—Васіль углядзеўся ў твар жанчыны. Радзімка ля носа, родныя сінія вочы...

— Аня!.. Дачушка мая...—вырвалася з грудзей Васіля, і хто ведае, якая сіла шырока развяла яго рукі.

— Татачка... Родны мой...—кінулася ў абдымкі жанчына.

Дзяўчынкі трымаліся за яе паліто, не зводзячы з незнаёмага дзеда такіх, як у маці, сініх вачэй.

— Знаёмцеся, тата. Гэта мой муж...

2

Тады стаяла суровая зіма. Без перастанку круціла мяцеліца, і нема выў вецер.

Ужо цямнела, а Васіль усё быў на двары. Чакаў дачку. Яшчэ зранку яна пайшла на станцыю, і вось яе няма. Каб чаго не здарылася... Адлегласць невялікая — якіх-небудзь чатыры кіламетры. І дарогу добра ведае: у школу-ж хадзіла.

Думаў і непакоіўся Васіль. Хаця-б не затрымалі яе! Пасланец з атрада вечарам будзе. А тут — ужо колькі разоў прыходзіў староста і пытаў пра Аню. Ці не праведаў чаго? Заўсёды, як дачка бывае на станцыі, ён прыходзіць. Бывала, і не скажа нічога, паглядзіць толькі ды пойдзе. «Вынюхвае, сабака!» — думаў сам сабе Васіль. І ўжо мо' дзесяты раз перакідаў снег з месца на месца — абы работа была.

Ды вось і яна, дачка.

— Чаму запазнілася?

— Цёткі доўга не было.

Не ўвайшлі, а ўбеглі ў хату. Маці шчыльна, чым магла завесіла вокны, каб праз іх не прабівалася на вуліцу святло смаляка, што гарэў на камінку. Аня хуценька разувалася: вельмі-ж ногі змерзлі. Бацька дапамог скінуць лапці, раскруціць анучы.

— Тут, у рубцы,—паказала Аня.

У гэтую хвіліну за акном пачуўся цяжкі тупат. Васіль усхапіўся. Што рабіць? Куды кінуцца? Ён памкнуўся ў сенцы, але на парозе сталі ўзброеныя людзі.

Белыя клубы марознага паветра напоўнілі хату. Замітусілася полымя на камінку.

Двое ўвайшлі ў хату, астатнія засталіся ў сенцах.

Яны прыйшлі па Аню.

Дарэмна Васіль прасіў і маліў фашыстаў не забіраць дачку: яшчэ дзіця і здароўе слабае.

Тыя штосьці адказвалі ці проста так гаварылі—Васіль не разумеў іх мовы.

Маці надрыўным голасам загаласіла:

— А куды-ж цябе забіраюць? А хто-ж цябе пашкадуе? Чаго-ж ты такая няшчасная нарадзілася?

Аня вырывалася, нават ўкусіла аднаго за руку. Ды атрымала такі ўдар па галаве, што аж у вачах пацямнела. Падкасіліся ногі. Яе падхапілі і пацягнулі ў сенцы.

Не вытрымаў Васіль—схапіў ля печы сякеру і наўздагон. Ударыў абухом чужынца па спіне. Той на момант выпусціў Аню. Але глуха трэснуў у цемені стрэл. Васіль, ухапіўшыся за правае плячо, асунуўся на парозе.

Снежная завея заглушыла плач Ані, і голас яе заглух, здаецца, навек.

3

То тут, то там у цемры ночы ўспыхваюць бліскавіцы. Прыглушана стогне зямля. Гудзе неба. На якую хвіліну гэты гул цішэе, аддаляецца на захад, а вуха зноў ловіць нарастанне спачатку нейкага шуму з другога боку, а потым ужо выразна чуваць роўны, часам з невялікімі перарывамі гул матора. І так кожную ноч.

Іншы раз выбух устрасяне паветра зусім блізка. Стары Болесь, прытуліўшыся за вуглом хаты, доўга ўглядаецца ў цемру, некага чакаючы. У яго на сэрцы спакайнее, калі выбухі чуваць далей, і становіцца вельмі трывожна, калі яны набліжаюцца. Яму здаецца, што вось-вось прарэзліва завые бомба над галавою і ад яго гаспадаркі не застанецца нічога—яна ўзнімецца ўверх і зацярушыць сабою заснежаныя берагі Віслы.

Набліжалася раніца, калі ў цемры Болесь заўважыў чалавечую постаць.

«Няўжо Янэк?». Пазнаўшы сына, Болесь ціхенька кашлянуў. Янэк не пачуў умоўнага знаку бацькі. Болесь бачыў, што сын ступаў цяжка, відаць, стаміўся пад цяжарам нейкай ношы. Бацька пайшоў насустрач.

— Тата?..

— Я.

— Хутчэй у хату...—прашаптаў Янэк, намагаючы апошнія сілы.

Болесь нічога не распытваў у сына. Ён пазнаў па голасу, што Янэк надзвычай усхваляваны. Сын трымаў на руках такую ношу, аб якой ніколі не мог здагадацца стары Болесь.

З адчыненых дзвярэй хаты дыхнула цяплом. Асцярожна нахіліўшыся, Янэк паклаў на падлогу тое, што нёс.

— Сыночак, што гэта?..—амаль крыкнуў Болесь. Ён увесь задрыжэў, нібы жах апанаваў ім і, разам з тым, агіда да сына. «Што з ім?—прамільгнула думка. —Навошта яму спатрэбіўся мярцвяк?..»

— Бог з табою, сынок!.. — калаціліся вусны.

— Не хвалюйся, тата. Я знайшоў яе на чыгунцы,—крыху аддыхаўшыся, загаварыў Янэк.—Везлі ў Германію. Яна ўцякала. Мабыць, параненая...

Са спальні выйшла маці Янэка. Убачыўшы распасцёртае дзіця, над якім увіхаліся Болесь і Янэк, і яна схілілася нізка. Пяшчотная, хоць і шурпатая ад мазалёў рука яе дакранулася да твару дзяўчынкі, лёгенька пагладзіла па галоўцы. Прыхіліўшы вуха да грудзей, яна пачула стомленае біццё сэрца.

— Жывая...

Трывога за лёс невядомай дзяўчынкі павольна, але неадступна пачала авалодваць сэрцам жанчыны. Яна адчувала, што яе дапамога тут з'яўляецца абавязковай.

— Расцірайце... расцірайце грудзі... ногі...—шаптала яна, дапамагаючы сыну і старому.

І раптам дзяўчынка паварушылася, расплюшчыла павекі, нязграбна пачала лавіць рукамі паветра, нібы стараючыся штосьці знайсці, ухапіцца за яго, падняцца. Тварык

зморшчыўся, вусны нешта зашапталі, і ў гэтым можна было разабраць:

— Ма... ма...

У вокны глядзела марозная зімовая раніца.

4

Ужо другую вясну сустракала Аня ў Болесевай сям'і. За гэты час яна ачуняла, набралася сіл. Ніхто не мог даць веры, што ёй мінуў толькі шаснаццаты год. Новая сям'я для яе стала роднай сям'ёю.

З першых дзён Ванда, маці Янэка, лічыла яе дачкою. Яна не раз задумвалася над тым, што магло яе так зблізіць з гэтай дзяўчынкаю. Можа тое, што яна на шостым годзе замужжа пахавала сваю адзіную ўцеху — чатырохгадовую дачушку Яню? Яна яшчэ і сёння стаіць у вачах, як жывая. Ці, можа, тое, што гэту дзяўчынку, Аню, выратаваў любімы сын Янэк? А калі так зрабіў Янэк, значыць—гэта зрабіла яе сэрца. Ці проста нейкая невядомая сіла звязала іх сэрцы і сказала, што павінна быць так, а не інакш.

— Дачушка мая, можа табе нездаровіцца што?—звярнулася аднойчы Ванда, заўважыўшы сум у аніных вачах.

— Дзякую, мама. Я здаровая,—адказала Аня і выйшла ў другі пакой.

Так, Ванда для яе з'яўляецца маці. Яна вярнула ёй жыццё, дагледзела, вылечыла. Хіба-ж можна ад яе хаваць свае думкі, свае пачуцці? Не. Яна не мае на гэта ніякага права. Сэрца хоча прызнацца ёй ва ўсім, усё расказаць...

Ванда сама разумела, што сумуе Аня па радзіме. Але што парадзіць ёй, як дапамагчы гэтаму? Пусціць Аню ў такі далёкі шлях яна не можа. Мала што можа здарыцца ў дарозе, калі немцы яшчэ больш шалеюць ад націску рускіх. Калі ўстановіцца які-небудзь парадак, няхай едзе сабе на здароўе да сваёй маці. І тут-жа ўзнікала другая думка: «А чым-жа я не маці? Хіба не даглядала? А колькі бяссонных начэй правяла. Яна—дачка мая. Нічога, што я палячка, а яна беларуска. Не пушчу!»

Так вырашыла сама сабе Ванда. Але аб гэтым нічога не казала Ані. Яна чакала зручнага моманту пагутарыць з ёю і даведацца пра яе думку.

Калі зялёнай ліпкай ліствой адзеліся дрэвы і стракатым аксамітам заслаліся лугі, калі кожны куст мог даць прытулак любому падарожніку, Ванда задумалася. І задумалася не на жарт. Бо хто-ж жадае зла свайму роднаму дзіцяці?

Аня выйшла да Ванды і села насупраць. Блакіт яе вачэй нібы адсвечваўся ў вачах старой Ванды. Болесіха не магла ў гэты момант не любавацца дзяўчынай. Любавалася яе стройнасцю, яснымі вачамі, усёй прыгажосцю. Вялікую ласку і пяшчоту да Ані адчувала яна ў сваім сэрцы, асабліва цяпер, калі надыходзіў, па яе думцы,—чаго яна надзвычай баялася,—час разлукі.

Пачуццё душэўнага жалю агарнула яе. Слёзы пакаціліся.

— Заставайся ў нас, дзіцятка маё,—сказала Ванда, а потым дадала:—Не гнявi старую...

Аня адказала не адразу. Яна разумела: дабрацца дадому яна не зможа, але і тут заставацца цяжка.

— Добра, мама... добра...—кіўком галавы пацвердзіла Аня.—Я застануся.





Ванда прыгарнула яе да сябе і пацалавала.

5

І на пятыя суткі Янэк не вярнуўся дадому. Не было і Ані.

Ванда ведала, што яны ўдвух пайшлі па даручэнню і павінны былі вярнуцца яшчэ пазаўчарашняй ноччу. А тут—пятая ноч насунулася на зямлю, а іх няма і няма. Што з імі? Дзе дзеці?..

Болесь моўчкі хадзіў з вугла ў вугал, час-ад-часу кідаючы позірк на жонку. Тая адчувала і разумела яго хваляванне і нічога не магла сказаць ці параіць яму. Праўда, Болесь яшчэ ўчора рваўся на пошукі, у штаб групы,—ён добра ведаў месца яўкі,—але Ванда не пускала яго. Ды і загадана было яму нікуды не ісці з дому без распараджэння. Яго дом павінен заставацца месцам часовага прытулку для падпольшчыкаў, калі гэта спатрэбіцца. Ён меў найбольш выгаднае месца, знаходзіўся на водшыбе і не асабліва прыцягваў на сябе ўвагу. Быў, як і ўсе дамы тутэйшых месц. Нават крыху нахіліўся на вуліцу—ад даўнасці ніжнія бярвенні падгнілі. Суседзі сюды таксама мала наведваліся. А ў вайну—тым больш.

І Болесь хваляваўся. Стрымаць, або хоць крыху супакоіць трывожныя думкі ён не мог. І ён пайшоў.

Як стары спаткаўся з Аняй і Янэкам, аб гэтым ведае цёмная ноч ды тыя сябры, што дапамаглі прынесці сына дадому. Ванда кінулася да Янэка. Сэрца маці заўсёды не мела спакою. Мінула адно гора, настала другое. Яна гадзінамі не адыходзіла ад сына, не зводзячы позірку з бледнага, падчас непрытомнага твару.

Рана была цяжкай. Разрыўная куля прашыла навылет руку. Ён сышоў крывёю, пакуль падаспела Аня. Сябры вынеслі з-пад палаючага эшалона і далі прытулак у абломках разбуранага будынка. Інакш хто ведае, што магло быць.

— Аня... любая... Ты прыйшла?.. Нахіліся да мяне... Ты... ты будзь са мною. Не адыходзь,—прасіў Янэк.

Янэк паварухнуўся, хацеў працягнуць рукі, але пякучы боль працяў усё цела.

— Я з табою, — сказала Аня.— Не хвалюйся толькі...—і знаёмыя пальцы расчэсвалі ўскудлачаныя валасы Янэка.

6

У Янэка даўно радасныя думкі. Ён цяпер інжынер, нядаўна закончыў вучобу.

Дома яго заўсёды сустракала Аня з малымі дочкамі. Дзве дачкі кідаліся да яго на шыю, абдымалі, калі ён прыходзіў дадому.

І здаецца зусім нядаўна выратаваў Аню, прынёс дадому непрытомную, маленькую, бездапаможную, а потым яна яго ратавала ад смерці.

...А як хацелася Ані на радзіму! Здаецца, яна ўсім задаволена, з ёю муж, дзеці. Што яшчэ патрэбна? Аж не! Нехапае чагосьці. Нехапае таго, з чым звязана дзяцінства,—роднага краю, родных ніў, дуброў, блізкіх, знаёмых... Чаму гэта чалавек крылляў не мае? Падняўся-б, паляцеў-бы на радзіму! Нашы краіны роўныя... Жывем мы—поплеч!

Янэк выпатрабаваў дакументы, і Ані, і сабе. Усёй сям'і сваёй.

І калі ўчора яны выйшлі на перон у Брэсце, Аня сказала:

— Дзень добры, мая радзіма!

— Дзень добры, дарагая Беларусь!—паўтарыў Янэк.







**ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ФЕСТЫВАЛЮ!** На здымку: злева — **муляры Н. Дракa і Н. Маруга заканчваюць упрыгожваць вестыбюль новага аэравакзала ў Мінску**; уверсе — **скульптар А. Заспіцкі працуе над сваёй новай кампазіцыяй для фестывальнай выстаўкі**; унізе **скульптурны партрэт «Трактарыст з цаліны» самадзейнага скульптара В. Макухі (Драгічын Брэсцкай вобласці). Гэта — адзін з экспанатаў рэспубліканскай выстаўкі выяўленчага і прыкладного мастацтва, прысвечанай фестывалю.**

Фото А. Дзітлава.



**Ліст ад далёкага друга.**

Фотаэцюд А. Дзітлава.

**Дарагія сябры!**

Часам бывае так, што жывеш побач з якім-небудзь чалавекам, сустракаешся з ім амаль кожны дзень і не ведаеш, хто ён.

Жыве ў вёсцы Пярэдзелцы на Лоеўшчыне Фёдар Еўдакімавіч Саманчук. Жыве ён тут увесь час, разам з усімі працуе, ходзіць на вяселлі. І ніхто з аднавяскоўцаў нават не здагадваўся, які гэта цікавы чалавек. Ён быў удзельнікам Маозундскай бітвы, у час якой праявіў сябе сапраўдным героем.

# ВЕДАЙ СВОЙ КРАЙ

З таго часу ў музеях, дзе экспанаваліся дакументы аб гэтай бітве, расказвалася аб бясстрашным мараку, які, рызыкуючы жыццём, не дазволіў ворагу зганьбаваць чэсць рускага флоту. Самога героя лічылі загінуўшым і толькі выпадкова высветлілася, што гэты адважны чалавек, імя якога ўвайшло ў ваенна-марскую гісторыю нашай краіны, жыве і па сённяшні дзень. Ім аказаўся Фёдар Саманчук.

А героі Брэсцкай крэпасці... Ад гэтых падзей нас не аддзяляюць дзесяціголддзі, але толькі ў апошні час нам сталі вядомы імёны, якія па праву павінны быць занесены ў гераічны летапіс Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер многія ведаюць пасля цікавых нарысаў пісьменніка Сяргея Смірнова імя былога камандзіра 44-га стралковага палка Пятра Міхайлавіча Гаўрылава. З групай байцоў ён змагаўся з ворагамі, пакуль яго, паранenага, не пакінулі сілы. Маёр Гаўрылаў, як і яго таварышы, праявіў у смяротнай схватцы такую бяспрыкладную сілу духу, што нават ворагі былі здзіўлены.

Цяпер мы ведаем усё больш і больш падрабязнасцей пра абарону Брэсцкай крэпасці і пра яе ўдзельнікаў, якія першымі прынялі на сябе ўдар фашысцкіх полчышчаў, да канца выканаўшы свой воінскі абавязак. Іх подзвіг, як і подзвіг панфілаўцаў, краснадонцаў, назаўсёды застанецца жыць у вяках. Матэрыялы аб такіх гістарычных падзеях, як абарона крэпасці над Бугам, трэба і надалей збіраць.

Ці многа ведалі мы, напрыклад, пра выдатнага сына беларускага народа Аляксандра Канстанцінавіча Гараўца? А ён пакрыў сябе бессмяротнай славай у час бітвы з фашыстамі на Курскай дузе летам 1943 года, знішчыўшы за адзін паветраны бой 9 варожых самалётаў. Нядаўна жыхары хутара Зорынскія Дворыкі адкапалі самалёт героя, знайшлі яго дакументы і рэчы, пахавалі астанкі бясстрашнага лётчыка на могілках. Бацька героя Канстанцін Іванавіч пенсіянер. Ён жыве ў Віцебску.

Мы яшчэ не ведаем соцень і тысяч герояў барацьбы за ўладу Саветаў, за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы ў гады Айчыннай вайны. Сярод іх, безумоўна, нямала нашых землякоў.

Піянеры адной са школ Віцебскай вобласці, як паведамлялася ў газеце «Пионерская правда», зацікавіліся дзейнасцю свайго земляка, легендарнага героя грамадзянскай вайны Уладзіміра Мартынавіча Азіна. Яны адшукалі яго маці і сястру, наведалі дом, у якім ён нарадзіўся. Шмат чаго новага даведаліся яны пра гэтага чалавека.

Ведаць сваіх герояў, шанаваць іх памяць— наш высокародны абавязак.

Гісторыю творыць народ. А народ — гэта мільёны людзей. Вось чаму так часта героі аказваюцца сярод нас.

Настаўніца тав. Разнюк, якая працуе ў Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці, разам з вучнямі пачала збіраць матэрыял аб тым, якія падзеі ў гады вайны адбываліся ў раёне і хто іх удзельнікі. Зрабілі паход па партызанскіх сцежках. Сустракаліся з жыхарамі, ад якіх даведаліся аб гераічнай барацьбе партызан на тэрыторыі Лельчыцкага раёна. Наведалі хату былога камандзіра мясцовага партызанскага атрада Сцяпана Лук'янавіча Ліна. Шмат чаго цікавага расказаў ён дзецям.

Вывучаючы гісторыю партызанскага руху на тэрыторыі свайго раёна, вучні асабліва зацікавіліся дзейнасцю атрада чэхаславакаў, якім камандаваў капітан Рэпкін. Выявілася, што капітанам Рэпкіным быў слаўны сын чэшскага народа Ян Налепка, які загінуў смерцю храбрых у барацьбе з фашысцкімі катамі. У мінулым годзе ў Лельчыцы прыязджалі з брацкай Чэхаславакіі яго маці і пісьменнік Мілош Крно. Цёплай была сустрэча вучняў з чэхаславацкімі сябрамі.

А вось яшчэ адзін прыклад. У вёсцы Мохаў Лоеўскага раёна жыве дзед Іван Анікеенка. Ніхто з аднавяскоўцаў не лічыць яго героем, а тым больш не думае так ён сам. Але ўсе жыхары вёскі добра ведаюць адзін выпадак, які здарыўся з ім у час Айчыннай вайны.

Непадалёку ад Мохава партызаны разбілі нямецкую аўтамашыну. Двое ўзброеных салдат, ратуючыся ад народных мсціўцаў, пабеглі да возера, на якім стары Анікеенка лавіў рыбу. Гітлераўцы загадалі рыбаку перавезці іх на супроцьлеглы бераг. Ён завёз іх на самае глыбокае месца, абярнуў човен, а сам ўзабраўся на яго. Адзін салдат адразу патануў, а другі ўтрымаўся на паверхні. Дзед ударам вясла забіў яго.

Як вы думаеце, ці варта жыхарам Мохава лічыць Анікеенку сваім героем?

Вялікая краязнаўчая работа вядзецца ў Лоеўскай сярэдняй школе. Тут створан школьны краязнаўчы музей, сабраны матэрыялы па гісторыі раёна ад старажытных часоў і да нашых дзён. Юныя лоеўчане шануюць памяць аб палкоўніку Міхаілу Крэчэўскім і Сцяпану Падбайла — відных саратніках Багдана Хмяльніцкага. Яны кіравалі паўстанцамі ў бітве пад Лоевым, якая адбылася ў 1649 годзе.

Але больш за ўсё цікавяць школьнікаў падзеі часоў барацьбы за ўладу Саветаў і гадоў Вялікай Айчыннай вайны. Вучні пазнаёміліся з некалькімі ўдзельнікамі «Лоеўскага прарыву», які з'яўляецца надзвычай цікавым эпізодам грамадзянскай вайны.

Калі ў 1920 годзе белапалякі акупіравалі Беларусь, Дняпроўская рэвалюцыйная флатылія зрабіла гераічнае намаганне, каб вырвацца з акружэння. Пад дуламі варожых гармат рэвалюцыйныя маракі правялі свае кацеры і прарваліся на поўдзень з нязначнымі стратамі.

Карысную справу робяць лоеўскія вучні. І колькі новага, цікавага, захапляючага знаходзяць яны!

Наша Савецкая краіна ўступіла ў саракавы год свайго існавання. Яна прайшла праз тры рэвалюцыі. Зразумелы той інтарэс, які праяўляецца нашай моладдзю да гэтых падзей. Неяк трапіў у рукі вучняў Чачэрскага раёна дакумент, складзены ў 1905 годзе Чачэрскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй. У ім былі выстаўлены патрабаванні рабочых маёнтка графа Чэрнышова-Круглікава аб скарачэнні рабочага дня з 15 да 12 гадзін, аб павышэнні зарплаты. Рабочыя патрабавалі выпусціць на волю арыштаваных рэвалюцыянераў.

«А ці няма ў нашым раёне людзей, якія былі ўдзельнікамі гэтых падзей?» — падумалі вучні. Аказваецца, такія людзі ёсць. Жыве ў Чачэрску Ганжын Фёдар Нікіфаравіч. Гэта былы рэвалюцыянер-падпольшчык. За рэвалюцыйную дзейнасць ён і яго таварышы Атрашкоў, Дуброўскі і іншыя былі сасланы царскім урадам на катаргу ў далёкі Нарымскі край. Там яны сустракаліся з віднымі дзеячамі Комуністычнай партыі. За актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 3.10.1956 г. Ганжын Ф. Н. узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ён расказаў вучням аб рэвалюцыйных падзеях, якія адбыліся ў Чачэрскім раёне. Вучні даведаліся аб маёўках, забастоўках, аб узброеных выступленнях супроць царызма.

Сустрэчы з удзельнікамі рэвалюцыйнага руху дапамагаюць моладзі больш глыбока разабрацца ў гістарычных падзеях, пра якія яна ведала толькі з кніг.

Моладзі наогул карысна сустракацца са старымі людзьмі, якія многа пабачылі на сваім вяку. На пасёлку каля вёскі Несімкавічы Чачэрскага раёна жыве дзядуля па прозвішчу Гулевіч. Яму споўнілася сто год. Вядома, шмат чаго бачыў ён за сваё доўгае жыццё. І Гулевіч расказвае... казкі. Не смейцеся, самыя звычайныя казкі. Ён ведае столькі народных казак і так таленавіта іх складае сам, што адзін прафесар з Масквы назваў яго «беларускім Джамбулам». Да Гулевіча прыязджаюць выкладчыкі і студэнты Гомельскага педагагічнага інстытута, каб паслухаць і запісаць яго казкі.

А хіба не цікава сустрэцца з рабочым, які зрабіў вынаходніцтва на сваім прадпрыемстве, альбо паслухаць расказ знатнай даяркі, якая дабілася высокіх надояў малака, свінаркі, якая вырасціла добрых парасят, і г. д.? Гэта таксама героі, героі нашых дзён. Іх трэба ведаць, ганарыцца імі, браць з іх прыклад. А ёсць яны на кожным заводзе, у кожным калгасе, на кожнай вуліцы.

Неабходна больш наладжваць сустрэч моладзі з героямі баёў за Савецкую Радзіму, з нашымі знатнымі людзьмі, практыкаваць іх выступленні ў школах, клубах, дамах культуры, на вечарах. Добра-б было ў школах часцей праводзіць піянерскія зборы на тэмы: «Героі нашага горада», «Знатныя людзі нашай вёскі», «Яны вучыліся ў нашай школе» і інш.

Краязнаўчую работу ў нашай рэспубліцы трэба падняць, ажывіць. Знаёмячыся з жыццём знатных людзей, сустракаючыся з імі, збіраючы дакументы і іншыя матэрыялы аб героях і выдатных падзеях, наша моладзь вучыцца жыць і працаваць, любіць і шанаваць сваю Радзіму.

**Г. В. ШТЫХАЎ,**
**дырэктар Палескай сярэдняй школы Гомельскай вобласці.**
**М. Б. КАДЗІН,**
**А. В. ЛАШКЕВІЧ,**
**настаўнікі Чачэрскай рускай сярэдняй школы.**

# ПЕРАД ДАРОГАЙ

В. ПАЛТАРАН



Хлопцы рады: яны прайшлі медыцынскую камісію і ўжо бачаць сябе курсантамі ваеннай школы. Злева направа: Уладзімір Маслаў, Віктар Сільвановіч, Валеры Бядрыцкі, Іван Наркевіч і Нікалай Саўчык.

Вось і закончылася бесклапотнае дзяцінства. Яно засталося за парогам роднай школы паціху адплываць у далеч гадоў.

Але яно не раз яшчэ пакліча цябе да гэтага роднага парога. Ты адзавешся на яго кліч і прыдзеш госцем у знаёмыя класы. Тут будуць ужо другія гаспадары. Занятыя сваімі справамі, яны, магчыма, паглядзяць на цябе, як на чужога. І тады ты адчуеш горыч першай у жыцці страты. Потым іх будзе многа, большых, гарчэйшых, але гэтая, першая, час-ад-часу будзе трывожыць душу нейкім светлым смуткам.

Гэта будзе.

А сёння ў цябе за плячамі — дзесяць год вучобы, за плячамі — твае вучнёўскія клопаты і радасці, твой дзіцячы непаўторны свет. За плячамі — і тая простая сцяжынка, якая кожны дзень вяла цябе ў школу. А перад табою — бясконца шырокі свет з мноствам сцяжынак і дарог, і ты, заклапочаны, стаіш на скрыжаванні гэтых дарог, углядаешся ў іх далечыню. Па якой з іх пайсці, якая прасцей давядзе да выпеставанай у душы мэты?

З табою такім, заклапочаным і ўсхваляваным, выбраўшым сваю дарогу, ці нясмела выбіраючым яе, мы і павядзем гутарку на гэтых старонках. Раскажам пра такіх-жа, як кожны з вас, семнаццацігадовых юнаках і дзяўчатах, трывогі, клопаты і роздум якіх блізкія кожнаму сёлетняму дзесяцікласніку.

Яны — выпускнікі дзесятых класаў першай Вілейскай сярэдняй школы. Пры першым знаёмстве нічога асаблівага пра іх не скажаш. Адзін клас — 10-А — трохі мацнейшы, другі — 10-Б — слабейшы. Гэта па паспяховасці. А так каб прыйшлося памерацца сіламі, цяжка сказаць, хто ўзяў-бы верх: і ў адным, і ў другім класе хлопцы рослыя, дужыя, як маладыя дубкі. Напіша, напрыклад, Дзіма Грышкевіч на дошцы сказ, і Ларыса Міхайлаўна — выкладчыца мовы і літаратуры — ледзь дацягнецца да яго рукою. Або як выстраіцца ля дошкі гвардыя — Віктар Васюта, Міша Маркевіч і Віктар Сільвановіч з 10-Б, дык алгебра, хоць з цяжкасцю, але паддаецца іх упартаму намаганню.

Гэтак-жа, як, напэўна, бывае і ў вас, гэтыя ўжо амаль дарослыя людзі часам бываюць дзецьмі. Правярае Дора Лявонцьеўна хатняе заданне па алгебры, а ў Міры Ількевіч дождж размыў сшытак. Ды так, што і следу ад яго не засталося. Дора Лявонцьеўна толькі дакорліваківае галавою на гэтае дзіцячае тлумачэнне. А потым расказвае нам:

— У панядзелак хоць ты і не выклікай некаторых нашых вучняў... І ўсё танцы вінаваты.

І мы разумеем, што ў гэтым узросце гукі гармоніка прымушаюць забываць на часіну ўсе на свеце сінусы і тангенсы, а магнітнае поле ўяўляецца табе ў выглядзе танцавальнай пляцоўкі або прасторнага клубнага памосту.

Але гэта толькі на часіну. Рука, якая нядаўна ляжала на плячы сябра ці сяброўкі па танцу, зноў заклапочана гартае падручнік, шукаючы слабей засвоеныя раздзелы. Уперадзе — экзамены на атэстат сталасці.

Сталасць... Рознымі шляхамі і ў розную пару прыходзіць яна да чалавека. Адны адчуваюць сябе сталымі, толькі ўзяўшы ў рукі атэстат сталасці; другія яшчэ доўга пасля атрымання атэстата не становяцца сталымі людзьмі. Да трэціх сталасць прыходзіць, не чакаючы атэстата. Да Георгія Альфера яна прыйшла тады, калі ён, паглядзеўшы аднойчы на парэпаныя, вузлаватыя матчыны рукі, адчуў у сваёй душы пякучы жаль і нейкую яшчэ не ўсвядомленую віну. Бацькі ў Жоры няма, і ён, старэйшы ў сям'і, рашыў дапамагаць маці чым толькі можна. Пасля заняткаў, а то і позна ўвечары, ён ідзе на станцыю разгружаць ці грузіць вагоны. Праца гэтая — добра аплачваецца, а маладых сіл — не пазычаць. І ў матчын баланс сын уносіць даволі адчувальны ўклад.

А ў кіно схадзіць захочацца — Жора насячэ ці наколе каму-небудзь дроў. Тыя, хто атрымоўвае траячкі на кіно ад маці або бацькі, не ведаюць, наколькі даражэй каштуе білет, куплены на сваю, кроўную капейку.

Ведаюць цану запрацаванай адзежыне, запрацаванаму кавалку хлеба і Жора Цэндзевіцкі з Віктарам Васютай. Жора Цэндзевіцкі — часты напарнік свайго цёзкі — Жоры Альфера. Яны разам ходзяць разгружаць вагоны, пілаваць і калоць дровы. А Віктар Васюта, вяртаючыся са школы, не адзін доўгі кіламетр нясе за плячыма цяжкую паштальёнскую сумку — пісьмы, газеты і часопісы для свайго калгаса. За гэта яго маці налічваюцца працадні.

Вядома, што чалавеку, які, перш чым сесці за ўрокі або пайсці на занняткі, добра напрацуецца, не так лёгка будуць запамінацца складаныя алгебраічныя формулы. І ён не так гладка, без запінкі, адкажа на пытанне настаўніка, а спярша трохі падумае, як прывык думаць над усім у жыцці. Але важна тое, што такі чалавек ужо адказаў сабе на не менш складанае пытанне, наважыўшы пайсці ў жыццё знаёмаю яму з дзяцінства дарогаю працы. Веды, атрыманыя ў школе, будуць самым каштоўным, самым неабходным набыткам у гэтай дарозе.

Чым бліжэй знаёмішся з пераважнай большасцю выпускнікоў першай Вілейскай сярэдняй школы, тым больш пранікаешся павагаю да сталасці, цвёрдасці іх жыццёвых пазіцый. Тут няма таго песімістычнага настрою, які яшчэ пануе сярод некаторых дзесяцікласнікаў: маўляў, не паступіш у інстытут — і жыццё тваё марна загублена. Сярод выпускнікоў мінулага года няма «няшчасненькіх», якія, седзячы на бацькавай або матчынай шыі, скардзяцца на свой лёс. Моладзь смела становіцца на свае ногі. Андрэй Саўчыц, маючы атэстат сталасці, не палічыў за ганьбу паласці побач з ім і шаферскія правы. З цягам часу з хлопца выйдзе добры механік, а захоча — з практыкаю і ў інстытут лягчэй паступіць.

Або возьмем Альфрэда Залеўскага. Здаўна ў яго жыла мара стаць горным інжынерам. І ён паехаў трымаць экзамены ў Днепрапятроўскі горны інстытут. Але адкуль-жа было вілейскаму хлопцу ведаць горную справу? І Альфрэд зразумеў, што, перш чым стаць горным інжынерам, трэба папрацаваць простым гарняком. Зараз Альфрэд Залеўскі працуе на шахце, і кожны дзень, як верная спадарожніца, разам з ім у забой спускаецца і яго мара. Хлопец не расстанецца з ёю.

Гледзячы на сваіх працавітых папярэднікаў, выбіраюць сабе жыццёвую дарогу і сённяшнія выпускнікі:

«Я вельмі люблю сельскую гаспадарку, — піша ў сваім укладанні па рускай літаратуры на вольную тэму вучаніца 10-Б класа Марыя Дубовік. — Закончыўшы школу, я абавязкова застануся працаваць у родным калгасе».

Дзяўчына марыць стаць звенявой, вырошчваць высокія ўраджаі. Што-ж, справа гэта пачэсная, ганаровая. І Марыя — дзяўчына сур'ёзная, настойлівая, працавітая. З цягам часу ў калгасе «Шлях Ільіча» будзе добрая звенявая.

Любіць поле, расліны і Аня Шарафановіч. Гэтая любоў нарадзілася ў яе яшчэ ў пятым класе, калі выкладчыца батанікі ўпершыню адкрыла перад дзяўчынкаю багаты свет прыроды. Пазней, калі Аня разам са сваімі сяброўкамі ў час летніх канікулаў працавала на калгасным полі, яе цікавасць да жыцця раслін узрастала з кожным днём. І дзяўчына цвёрда рашыла пасля заканчэння школы працаваць у сваім калгасе, набываць практычныя веды, каб з цягам часу стаць аграномам. Даведаўшыся пра яе імкненне, Ларыса Міхайлаўна сказала:

— Хоць слова «агроном» ты мне напісала з памылкаю, але я веру, што аграномам ты будзеш беспамылковым.

Думку Марыі Дубовік і Ані Шарафановіч падзяляе пераважная большасць выпускнікоў 10-Б класа. Застацца працаваць у сваім родным калгасе, «умацоўваць яго, падаваць прыклад адстаючым», як піша Марыя Дубовік, вырасці на жывой, практычнай рабоце ў кваліфікаваных спецыялістаў сельскай гаспадаркі — так спланавалі яны сваю будучыню.

І ўявіце сабе, таварышы, як зменіцца воблік нашай вёскі, калі ў ёй стала «асядзе» выпускаў пяцьшэсць адукаваных, дзёрзкіх у сваіх імкненнях, працавітых маладых людзей! Яны-ж не захочуць, каб веды, атрыманыя ў школе, ляжалі ў іх памяці мёртвым грузам, а будуць шукаць прымянення гэтым ведам. І тады рацыяналізатарская



Выдатніца вучобы Лена Груздь.

Кем я хочу быть.
Не так далеко то время, когда я окончу десять классов и получу аттестат зрелости. Окончив школу, я обязательно останусь работать в своём родном колхозе, укреплять его, давать пример отстающим.
Мария Дубовик.

прапанова ў калгаснай вытворчасці будзе такой-жа частай з'явай, як сёння на заводзе.

Выхаванцаў Вілейскай школы сустрэнеш не толькі за рулём аўтамашыны, за станком, на калгасным полі, але і ў аўдыторыях інстытутаў. У мінулым годзе не адзін з іх вытрымаў конкурсныя экзамены і паспяхова займаецца ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі.

Многа прыемных хвілін даставяць экзамінатарам — і сваім, школьным, і пазней інстытуцкім — адказы сёлетніх выпускнікоў школы: Лены Грузд, Лізы Дуровіч, Тамары Усціновіч, Лёні Гулецкага. Слухаеш іх — і на душы цяплее ад іхняй сталай развагі. І калі гэтым таварышам выпадзе стаць студэнтамі, то і ў інстытуце яны не захочуць развітацца з ганаровым званнем выдатнікаў.

Жыццёвая дарога Лены Гулецкай пралягла ў другім кірунку, чым у Лены Грузд або Лізы Дуровіч.

— Я хачу быць добрай краўчыхай,— гаворыць Лена.



«Кім быць?» — моцна задумалася Таня Нікіціна.

Фото А. Гарэльчыка.

Што-ж, справа таксама вартая. У нас яшчэ мала майстроў з добрай кравецкай фантазіяй і густам.

Але калі такое-ж жаданне выказваюць і Вера Капцюх, і Тамара Корсак, то міжволі задумаешся: адкуль яно, хто абудзіў у дзяўчат цікавасць да гэтай прафесіі?

Гэтае простае пытанне раскрывае перад намі вельмі істотны бок работы школы. Цяпер яна не толькі дае сваім выхаванцам усебаковыя веды, але і рыхтуе іх да жыцця, знаёміць з многімі прафесіямі. І калі ў вілейскіх дзесяцікласнікаў такія цвёрдыя жыццёвыя пазіцыі, такія пэўныя жаданні, то ў гэтым —вялікая заслуга школы. Лена Гулецкая ўпадабала прафесію краўчыхі ў школьным гуртку кройкі і шыцця. Міхаіл Маркевіч і Нікалай Іванавіч Саўчыц (у 10-А — два Нікалаі Саўчыцы, і каб адрозніць аднаго ад другога, хлопцаў завуць паважна—па імю і па бацьку) у аўтамабільным гуртку навучыліся ездзіць, як запраўскія шафёры. Можа гэта і не спатрэбіцца ім зараз, — хлопцы наважылі пайсці ў ваеннае вучылішча, — але ўменне за плячамі не насіць.

Школа вучыць любіць працу. Гордасцю яе з'яўляюцца добрыя майстэрні, пабудаваныя сіламі вучняў і іх бацькоў. У абсталяванне майстэрняў усю душу ўклалі дырэктар школы Уладзімір Пятровіч Шчуцкі і выкладчык працоўнага выхавання Уладзімір Львовіч Бялецкі.

Усюды, куды ні заглянеш, убачыш працу вучнёўскіх рук. На двары—распілаваныя і акуратна, пагаспадарску складзеныя дровы, у шафе Нікалая Змітравіча Рэзнічэнкі захоўваюцца прыгожыя шкатулкі, зробленыя школьнымі ўмельцамі, у рабочых століках Уладзіміра Львовіча — прыгожа вытачаныя з дрэва ручкі для інструментаў, кіянкі, паяльнікі, саўкі для смецця і іншыя патрэбныя рэчы. Нават школьны двор абгароджаны самімі вучнямі.

— Цяпер, — жартуе загадчык навучальнай часткі Уладзімір Пятровіч Кляшняк,— самы заўзяты аматар паспрабаваць мацунак кожнай штакеціны і не дакранецца да агарожы. Моцна беражэцца праца сваіх рук!

Было-б няпраўдаю сказаць, што ўсе без выключэння выпускнікі 10-х класаў Вілейскай школы ўжо цвёрда вызначылі свой шлях. Некаторыя з іх яшчэ добра не ведаюць, якою дарогаю ў жыцці яны пойдуць, да якой справы прыкладуць свае рукі, дзе прынясуць больш карысці Радзіме. Няўдача пры паступленні ў інстытут уяўляецца ім вялікай трагедыяй. Але агульнавядома, што не ўсім аднолькава даецца навука. І добры звеннявы, брыгадзір, кваліфікаваны слесар, токар, мантажнік — чалавек куды больш карысны для радзімы, чым дрэнны або пасрэдны вучоны.

А кім быць — токарам, звеннявым ці мантажнікам — няхай вам, таварышы, падкажа сэрца. Толькі яму гэта вядома.

## Газеты Парыжскай комуны

Нягледзячы на тое, што ад падзей французскай рэвалюцыі 1871 года нас аддзяляе параўнаўча невялікі адрэзак часу, да нашых дзён дайшло вельмі мала экземпляраў газет Комуны. Гэта тлумачыцца той акалічнасцю, што контррэвалюцыйны ўрад Т'ера ў дні крывавага «майскага тыдня» адначасова з масавымі забойствамі комунараў у турмах Саторы, Ла-Рокет і на могілках Пер-Ляшэз, Монпарнаса і Монмартра знішчаў друкаваныя выданні Комуны — газеты і часопісы.

Выратаванымі для гісторыі аказаліся тыя нямногія газеты, асобныя экземпляры якіх яшчэ ў дні Комуны тым ці іншым шляхам былі вывезены за межы Францыі. Сучасныя гісторыкі Парыжскай комуны многім абавязаны калекцыянерам-сучаснікам Комуны, якія, нярэдка рызыкуючы жыццём, здабывалі і хавалі рэвалюцыйныя выданні.

Дэмакратычна настроеныя аматары рэдкіх выданняў і антыкварных старажытнасцей плацілі немалыя грошы за права валодання некалькімі экземплярамі найбольш рэвалюцыйных газет Комуны — «Афіцыйнай газеты Французскай Рэспублікі» «Бацька Дзюшэн», альбо «Комуны». Прадпрымальныя ўладальнікі друкарняў прыступілі да выдання паўторных тыражоў найбольш рэвалюцыйных газет Комуны. Пры гэтым нярэдка дапускаліся грубыя скажэнні і фальсіфікацыя. Вядома, што газета «Бацька Дзюшэн» у дні Комуны выйшла ў 67 нумарах паўторнае-ж выданне гэтай газеты «ўзбагаціла» яе фальшывым 68-м нумарам.

Сапраўдныя выданні Комуны маюцца толькі ў нямногіх, найбольш вядомых бібліятэках свету. Каля 2 500 экземпляраў газет больш 80 назваў, якія выйшлі ў Парыжы за перыяд з 1 сакавіка па 30 чэрвеня 1871 года, захоўваецца ў Мінску, у Дзяржаўнай бібліятэцы імя В. І. Леніна. Гэта — адна з найбольш поўных вядомых калекцый газет Комуны ў нашай краіне.

Эд. ЕЗЕРСКІ.

# МАШЫНЫ БУДУЧАГА

І. АДАБАШАЎ

З вакзала ў горадзе Н. я надумаў пазваніць свайму сябру. Зайшоў у тэлефонную кабіну. Тут тэлефонны апарат незвычайны. Большую палову бліскучага чырвонага корпуса займае матавы квадрат тэлевізійнага экрана. Унізе, на нікеляваным рычагу, ляжыць лёгкая і тонкая тэлефонная трубка. Ніякіх дыскаў, літар... Я зняў трубку і пачуў меладычны жаночы голас: «АТС. Ваш нумар?»

Толькі я назваў патрэбны нумар, а з тэлевізійнага экрана на мяне ўжо глядзіць вясёлы твар майго сябра.

Да сустрэчы з сябрам заставалася поўгадзіны. Вырашыў агледзець вакзал. На платформах і ў залах чакання маю ўвагу прыцягнулі living рознастайныя бліскучыя аўтаматы. Іх шмат. Адны прадаюць халодныя закускі, бутэрброды, сокі, кофе, чай, кандытарскія вырабы, другія — блакноты, алоўкі, мыла, зубны парашок, газіраваную ваду.

Якраз падаспеў мой сябра, і мы ў камфартабельным аўтамабілі з рухавіком, размешчаным ззаду, і вельмі добрай кругавой бачымасцю накіраваліся за горад, па шырокаму блішчастаму шасэ. Міма вокан мільгаюць хваёвыя ўзгоркі, асінавыя і ліпавыя гаі, блакітныя азёры, чырвоныя чарапічныя дахі будынкаў. І ўсюды над імі — праvады, высокія мачты высокавольтных электраперадач.

Праязджаючы міма палёў, мой сябра спыніў аўтамабіль.

— Звярні ўвагу на гэтыя трактары і мачту ў канцы поля, — сказаў ён, выходзячы на дарогу.— Трактарамі кіруюць па радыё.

І сапраўды, чатыры трактары працавалі ў полі без людзей. Толькі ўдалечыні была бачна бліскучая металічная вежа — дыспетчарскі пункт брыгадзіра трактарнай брыгады. Але ён не толькі брыгадзір, але і адзіны трактарыст, які кіруе гэтымі машынамі.

Трактары самі запускаюць навесныя прылады, самі робяць патрэбныя павароты, а скончыўшы работу, пераходзяць на суседняе поле ці на сядзібу МТС.

Праз некаторы час наша машына спынілася ля карпусоў з велізарнымі вокнамі і лёгкім шкляным дахам.

— Гэта металургічны камбінат, — растлумачыў мне сябра.— Усё мы адразу не агледзім. Пастараюся паказаць самае цікавае.

Мы апынуліся ў велізарным, вельмі светлым будынку.

Было халаднавата. Лёгкі вільготны ветрык даносіў пах хваёвага бору — працаваў апарат «штучнага клімату». Першым у лініі ўстановак быў велізарны барабан, які павольна рухаўся. На ім, амаль пад самым дахам, віднелася шырокая варонка. Гэта — бункер загрузкі, сюды з вялікага трубаправода паступае здробненая руда.

Мы падыйшлі да рухомай печы. Яна злучана таксама з трубаправодам, па якому падаваўся прыродны гаручы газ. Пыл руды, які пападаў у вогненны струмень гаручага газу, аддаваў свой кісларод, — і адбывалася аднаўленне металу. Адыходы спальвання газу адсмоктваліся па спецыяльным трубаправодзе. А часцінкі жалеза з барабаннай печы пападалі ў электрамагнітны сепаратар. У ім руда і шлак аддзяляліся ад металу. З электрамагнітнага сепаратара чысты метал падаваўся па аўтаматычных транспарцёрах у сталеплавільныя электрапечы...

Так, сапраўды тут не шмат убачыш. Усё закрыта, усё робіцца аўтаматычна.

Мы прыйшлі ў кабінет дыспетчара. Ля пульта сядзеў яшчэ зусім малады чалавек у старанна адпрасаваным светлашэрым касцюме. Кіруючы шматлікімі прыборамі, экранамі, схемамі, каляровымі лямпачкамі, ён ... чытаў нейкую кнігу. Мы папрасілі яго расказаць пра сакрэты «сталеплавільнай кухні».

— Парадак. Ніякага здарэння не было за ўсю змену, — адказаў дыспетчар і, адарваўшыся ад кнігі, спытаў у нас: — З чаго-ж пачнем?

Дыспетчар павёў нас у прасторны пакой, застаўлены пісьмовымі сталамі і нейкімі невялікімі машынамі. За сталамі працавала некалькі чалавек.

— Гэта група навуковых работнікаў і высокакваліфікаваных інжынераў-металургаў. Яны з дапамогай лічыльных машын распрацоўваюць тэхналагічны працэс новых гатункаў сталі...

Тут, як і ўсюды на камбінаце, усё робяць самі машыны. У гэтай зале знаходзіцца электрычны «мозг» камбіната — вялікая і складаная электронная вылічальная машына. Яна мае «памяць» — спецыяльнае запамінальнае прыстасаванне з некалькіх магнітных барабанаў, магнітнай ленты, накшталт той, што на магнітафонах, і некалькіх дзесяткаў электронна-праменевых трубак, накшталт тых, што прымяняюцца ў тэлевізарах.

Электронная кіруючая машына ўсё ведае: калі, чаго і колькі патрэбна ўзважыць на аўтаматычных вагах, колькі чаго дадаць у электраплавільную печ. Яна ведае нават, калі званіць на абедзенны перапынак.

Кіруючая электронная машына, нібы адчувальнымі нервамі, злучана з кантрольнымі і вымяральнымі прыборамі тысячамі правадоў. Яна атрымлівае няспынныя сігналы-імпульсы ад шматлікіх аўтаматаў-хімікаў і цэлай арміі аўтаматычных кантралёраў, якія сочаць за выпускаемай прадукцыяй.

Электронная машына, выкарыстоўваючы сваю «памяць», з маланкавай хуткасцю, «аднаўляе» розныя варыянты паправак і, выбраўшы з іх найлепшы, аддае адпаведныя ўказанні машыне выканаўцу.

Аднак роля чалавека нават тут, дзе ўсё поўнасцю аўтаматызавана, велізарная. Яно і зразумела: машына, нават самая дасканалая, ёсць і застаецца толькі машынай.

... Развітаўшыся з гасцінным дыспетчарам, які зноў разгарнуў сваю кнігу, мы накіраваліся на адзін з металаапрацоўчых цэхаў турбіннага завода, размешчанага непадалёку ад гэтага камбіната.

Знешне цэх звычайны: роўныя рады разнастайных станкоў, машыны, зверху — ажурнае спляценне маставых кранаў, якія марудна поўзаюць пад шкляным дахам...

Але вось мы падыйшлі да першага станка і адразу заўважылі: гэта не звычайны цэх і працуюць тут не звычайныя станкі!

Такарная машына-агрэгат працуе без токара, сумяшчаючы ў сабе машыну-рухавік, рабочую і кіруючую машыны. На гэтым станку вырабляецца дэталь з мноствам складаных крывых пераходаў ад адной таўшчыні да другой. Але-ж гэта не страшна для станка — у яго «вышэйшая адукацыя». Яго лічыльна-вырашальнае прыстасаванне рашае ўраўненні другой ступені, уключаючы акружнасці, парабалы і гіпербалы...

Электронная кіруючая апаратура аўтаматычна захоўвае патрэбныя скорасці рэзання металу. Як толькі разец наблізіцца да цэнтра дэталі, гэта зараз-жа заўважае машына і імгненна, зрабіўшы разлікі, павышае лік абаротаў шпіндэля на патрэбную колькасць разоў.

На гэтых станках робяцца самыя разнастайныя і складаныя работы.

Мы звярнулі ўвагу на маленькую чорную машынку. На яе нахіленай панелі — чатыры белыя шкалы з тонкімі, рухомымі стрэлкамі і тры рады паваротных дыскаў, якія напамінаюць дыскі звычайных тэлефонных апаратаў. Гэта вылічальная машына для вызначэння рэжымаў металу.

Вылічальная машына з'яўляецца як-бы электрычным даведнікам. І трэба сказаць, яна працуе лепш, чым любое даведачнае бюро. Усе адказы машына дае за адну мінуту.

Гэта не фантазія. Гэта заўтрашні дзень нашай тэхнікі.

Да прыкладу, тэлефонны апарат з тэлевізійным экранам ужо распрацавала фірма «Амерыкен тэлефон энд тэлеграф».

У 1956 годзе нашы прадпрыемствы гандлёвага машынабудавання выпусцілі сотні аўтаматаў для продажу халодных закусак, газіраванай вады і іншых «механічных прадаўцоў».

За гады шостай пяцігодкі будзе выпушчана каля 200 тысяч разнастайных аўтаматаў для гандлю і грамадскага харчавання. Толькі ў Маскве замена кіёскераў аўтаматамі для продажу газіраванай вады сэканоміць за адзін сезон 30 мільёнаў рублёў.

Такі каплепадобны хуткасны вельмі зручны аўтамабіль, на якім мы падарожнічалі са сваім сябрам, зроблен у Маскоўскім навуковым аўтамабільным інстытуце. Яго марка — «НАМІ-013».

Трактары, якія кіруюцца па радыё, паспяхова працуюць на палях доследных станцый розных краін.

Не з'яўляецца фантазіяй і тэхналагічны працэс непасрэднага аднаўлення жалеза з руды. Гэта рэальна, як і тое, што аўтаматыка поўнапраўным гаспадаром прыйшла на совецкія металургічныя камбінаты. Зараз звыш 90 працэнтаў усяго чыгуну ў нас выплаўляецца ў механізаваных і аўтаматызаваных домнах.

У шостай пяцігодцы ў чорнай металургіі шырока прымяняецца комплекснае аўтаматычнае кіраванне, з дапамогай электронных матэматычных машын. З дапамогай электронных вылічальных машын праводзяцца разнастайныя навуковыя і інжынерныя разлікі, прадказваецца надвор'е, робяцца расклады паяздоў і геадэзічныя карты.

Ёсць механічныя перакладчыкі, машыны-бібліёграфы і машыны, якія робяць навігацыйныя разлікі для караблёў і самалётаў. Машыны гуляюць у шахматы і ў мудрэйшую кітайскую гульню «цзяньшыцзі», нават могуць заўважыць і прадказаць некаторыя сардэчныя захворванні.

Сотні самых разнастайных станкоў з электронным аўтаматычным кіраваннем ужо зроблены і паспяхова працуюць на нашых айчынных заводах.

Як бачыце, няма ніякай фантастыкі. Звычайна, уважліва ўглядаючыся ў акаляючае нас жыццё, мы ўсё больш яскрава і выразна адчуваем цудоўныя рысы нашай будучыні.




В. СМАЛЬ

Якія карціны здымаюцца сёння на студыі «Беларусьфільм»?

Гэта пытанне, відавочна, цікавіць многіх нашых чытачоў. Каб адказаць на яго, давайце разам зробім невялікую экскурсію па студыі.

... Мы ў павільёне, дзе адбываюцца здымкі. Гэта бадай самае цікавае месца на кіностудыі. За апошні час павільён прымаў самы разнастайны выгляд. То ёнператвараўся ў дыспетчарскую чыгуначнага вузла, то ў леснічоўку, то ў пляцоўку бронецягніка. Яшчэ зусім нядаўна багаты пан даваў тут раскошны баль сваім гасцям, а сёння ў гэтым вялікім памяшканні размясцілася... ашчадная каса. Так! Так. Самая сапраўдная ашчадная каса! За сталамі сядзяць работнікі, што вытвараюць пэўныя грашовыя аперацыі, каля акенцаў стоўпіліся кліенты, з якіх адны атрымліваюць выйгрышы, другія — робяць уклады.

Гэта ідзе падрыхтоўка да здымкаў аднаго з эпізодаў новай лірычнай камедыі «Нашы суседзі». Пастаноўшчык карціны рэжысёр С. Сплашноў, здымае яе аператар А. Булінскі. Музыку да фільма піша кампазітар Б. Макраусаў. Разам з гэтымі вопытнымі кінематаграфістамі ў пастановачным калектыве працуе і моладзь. Вось асістэнт аператара комсамолец Мікалай Балашэвіч. Перад пачаткам здымкаў ён яшчэ і яшчэ раз правярае апаратуру. Гукааператар комсамолец Мікалай Ведзянееў падсоўвае да здымачнага апарата «журавель» — маленькі пад'ёмны кран, на канцы якога падвешаны мікрафон, што ўзмацняе галасы акцёраў. Тут-жа на здымачнай пляцоўцы правяраюць падрыхтаванасць акцёраў да пачатку здымкаў нядаўняшнія выпускнікі інстытута кінематаграфіі асістэнты рэжысёра Барыс Сцяпанаў і Ніна Сава. Гэта карціна для іх з'яўляецца першай вялікай самастойнай работай. Іншыя ўдзельнікі здымачнай групы ўжо маюць за плячыма некаторы «кінематаграфічны стаж».

«Нашы суседзі» — чацвёртая па ліку карціна з тых, якія афармляў мастак Е. Ганкін. Для маладой артысткі Нэлы Карнеевай, якая выконвае ў фільме роль Святланы, гэта толькі першая работа. У ролі Сяргея — другога галоўнага героя камедыі — будзе здымацца... Зрэшты, на гэту ролю акцёр яшчэ не зацверджан. Ужо знялі восем акцёрскіх проб, і вось цяпер мастацкаму совету студыі належыць з васьмі «Сяргееў» выбраць аднаго, самага лепшага, самага вартага на гэту ролю.

У карціне будуць таксама здымацца артысты: Г. Глебаў, К. Саранкін, О. Вікланд, Г. Краўчанка, Л. Ржэцкая і іншыя.

Пакуль у павільёне ідзе рэпетыцыя, ідзе падгонка дэкарацый, устаноўка асвятлення, мы прадоўжым агляд студыі.

... Ні на адным прадпрыемстве немагчыма ўбачыць такія незвычайныя цэхі і аддзелы, як на кіностудыі. Вось «рэквізітарскі цэх»: вялікае памяшканне, застаўленае радамі паліц, на якіх стаяць дзесяткі статуэтак, пісьмовых прыладкаў, люстэрак, курыльных люлек, вазаў, карцін і іншых рэчаў, якія могуць спатрэбіцца пры здымках. Тут і лядашчая газоўка з вясковай хаткі даўніх часоў, і цудоўны бронзавы падсвечнік мінулага стагоддзя, і сучасная лямпа дзённага святла.

Побач размясціўся аддзел дэкаратыўна-тэхнічных збудаванняў, які нагадвае цэх мэблевай фабрыкі. Тут робяць дэкарацыі і рознае абсталяванне для здымак. Вось хударлявы юнак, здаецца, выключнай фізічнай сілы, узняў адной рукой вялізную незгараемую шафу. Аднак, калі ён ставіць яе на месца, чуецца глухі драўляны стук. Так, памыліліся мы не выпадкова. Шафа настолькі па-майстэрску апрацавана і пафарбавана, што ніхто з кінагледачоў не стане сумнявацца ў яе паходжанні з металу. Тут-жа паблізу знаходзіцца касцюмерная. Яна нагадвае велізарны камісійны магазін. Чаго тут толькі няма! Вайсковы мундзір і багаты гарнітур, бальныя плацці і розных фасонаў абутак, шапкі і панамы, цыліндры і кацялкі.

Мы ідзем далей па калідоры студыі і заўважаем на дзвярах таблічкі з назвамі будучых фільмаў. Тут працуюць здымачныя групы. Адчыняем дзверы, на якіх напісана: «Кінокамедыя «Нашы суседзі». У пакоі сядзяць некалькі чалавек з даволі змрочным выглядам. Ну, вядома, гэта распрацоўваецца адзін з камедыйных эпізодаў карціны. Але не будзем перашкаджаць. Ім, відаць, зараз не да смеху. Камедыю рабіць нялёгка...

У пакоі, адведзеным здымачнай групе «Нявестка»,— цесна і шумліва. За сталом, заваленым нейкімі кнігамі і рукапісамі, сабраліся аўтар сцэнарыя А. Макаёнак, рэжысёр-пастаноўшчык А. Шульман, аператар Г. Удавенкаў, мастак Ю. Булычоў, дырэктар карціны С. Рабінаў. Гэта творчы штаб стваральнікаў будучага фільма. Сцэнарый ужо ўхвалены мастацкім саветам студыі і зацверджаны калегіяй Міністэрства культуры БССР. Ужо напісаны рэжысёрскі сцэнарый. Цяпер трэба падабраць акцёраў, падрыхтаваць рэквізіт, касцюмы, падшукаць месца для на-

Аўтары сцэнарыя «Чырвонае лісце» Аркадзь Куляшоў і Алесь Кучар гутараць з рэжысёрам-пастаноўшчыкам В. Корш-Сабліным.



# Ідуць здымкі!



Людміла Паўлаўна — артыстка О. Вікланд; яе дачка Святлана — Нэла Карнеева.

турных здымкаў. Уся група заклапочана тым, каб стварыць праўдзівы і цікавы фільм аб працаўніках калгаснай вёскі, аб іх працы, дружбе і каханні.

Не меншае ажыўленне пануе і ў групе мастацка-дакументальнага фільма «Совецкая Беларусь». На стале ляжыць вялікая карта рэспублікі. Карціна павінна быць выпушчана на экраны да 40-годдзя Вялікага Кастрычніка. Часу ўжо засталося мала. Трэба спяшацца. Таму рэжысёр В. Стральцоў, аператары М. Бэраў, С. Фрыд, В. Акуліч абмяркоўваюць маршруты сваіх паездак у розныя раёны рэспублікі, з тым, каб у найбольш кароткія тэрміны паспець зняць усё найбольш важнае і цікавае.

На наступных дзвярах ніякай таблічкі яшчэ няма, але і тут ужо фармуецца група, якая ў хуткім часе пад кіраўніцтвам рэжысёра В. Корш-Сабліна пачне здымаць фільм «Чырвонае лісце», прысвечаны рэвалюцыйнай барацьбе працоўных былой Заходняй Беларусі.

А над чым яшчэ будзе працаваць студыя?

Аб гэтым можна даведацца ў сцэнарным аддзеле, дзе бярэ разбег або ломіць сабе шыю кожны фільм і сцэнарый. Для рэжысёра Л. Голуба, які нядаўна закончыў карціну «Міколка-паравоз», падрыхтоўваецца сцэнарый аб школе-комуне, арганізаванай у Беларусі ў першыя гады Совецкай улады па заданню В. І. Леніна. Рыхтуюцца і іншыя сцэнарыі. Сярод іх: «На ростанях» па матывах трылогіі Якуба Коласа, «Квадрат Б-52» — аб барацьбе совецкай разведкі з дыверсантамі, «Трэцяе пакаленне» па аднайменнаму раману Кузьмы Чорнага, «Строгая жанчына» — пра лёс жанчыны старшыні сельсовета і іншыя.

Але вернемся ў павільён. Тут пачынаюцца здымкі. Ля ўвахода загарэлася электрычная лямпачка з надпісам: «Увага! Ідуць здымкі!» Гэта значыць, што ў павільёне і ў суседніх з ім памяшканнях павінна захоўвацца поўная цішыня.

— Падрыхтаваліся! Увага! — камандуе рэжысёр С. Сплашноў. — Пачалі!

... Да ваменца ашчадкасы падбягае Людміла Паўлаўна (артыстка О. Вікланд). Яна кліча свайго мужа — загадчыка ашчаднай касы Івана Кандратавіча (артыст Г. Глебаў) і паведамляе яму «жахлівую» вестку. Гэта-ж падумаць! Малады чалавек, за якога яна хацела выдаць сваю дачку, не вучоны, не вынаходца, не інжынер, а ўсяго толькі... просты рабочы. «Аднаго толькі я не разумею, — кажа Людміла Паўлаўна, — адкуль у яго на кніжцы ўзяліся пяцьдзесят тысяч?» «Якія пяцьдзесят тысяч?» — здзіўлена запытаўся Іван Кандратавіч, як быццам не разумеючы, аб чым пытаецца ў яго жонка.

— Стоп! — чуецца голас Сплашнова. — Някепска, але здымаем яшчэ адзін дубль. Толькі я вас папрашу, Глеб Паўлавіч, — кажа ён, звяртаючыся да артыста Глебава, — падыходзьце да ваменца крышку хутчэй. Увага!..

І зноў запальваюцца навокал магутныя лямпы і пражэктары. На гэтых здымках гарыць звыш трыццаці асвятляльных прыбораў магутнасцю ад аднаго да семнаццаці кілават кожны. Гэтай электраэнергіі хапіла-б асвяціць невялікі горад.

Здымкі ідуць не толькі тут у павільёне студыі, але і па ўсёй рэспубліцы. Адначасова з работнікамі, якія ствараюць мастацкія фільмы, у студыі працуюць хранікёры, вялікі калектыў хронікі. Кожныя дзесяць дзён яны выпускаюць кіночасопіс «Совецкая Беларусь», у якім даецца дакументальны рэпартаж аб жыцці краіны. Акрамя таго, адзін раз у два месяцы выходзіць часопіс «Піонер Беларусі», які асвятляе жыццё, вучобу і працу юных піянераў і школьнікаў.

Кіноздымкі — гэта, вядома, галоўны рашаючы этап у стварэнні фільма. Але не менш важнай з'яўляецца тая работа, якая пачынаецца ўслед за здымкамі.

Мы сыходзім па лесвіцы і ідзем па калідоры ў суседняе памяшканне. Тут знаходзіцца вытворчая база студыі, дзе праца не спыняецца ні на хвіліну. Штодзённа сюды паступаюць дзесяткі акуратна зачыненых каробак са знятай плёнкай. Складаны шлях па розных машынах, установках, па руках людзей розных спецыяльнасцей праходзіць плёнка, перш чым ператворыцца ў часопіс ці мастацкі фільм. На студыі выраслі выдатныя майстры па апрацоўцы плёнкі. Сярод іх комсамольцы Уладзімір Селех, Аня Дзініскевіч, Ада Бурак і іншыя, якія паспяхова авалодалі гэтай цікавай і складанай прафесіяй. Кожны месяц на студыі апрацоўваецца сотні тысяч метраў плёнкі.

... Нядаўна група «Нашы суседзі» атрымала свой матэрыял, зняты некалькі дзён назад. Пойдзем і мы на другі паверх, дзе знаходзіцца зала для рабочых праглядаў. Рэжысёр і аператар матэрыялам засталіся задаволены. Заўваг якбыццам ніякіх няма.

У залі зноў пагасла святло. Гэта пачынаецца прыём гатовых сюжэтаў для кіночасопіса. А на чарзе ўсе работнікі АТК, якія будуць праглядаць матэрыялы, апрацаваныя для мінскай тэлестудыі. Выбраныя для часопіса сюжэты нясуць у мантажную.

У мантажнай прытарна пахне плёнкай і нітралакам. Матава свецяцца лямпы. Моцна трашчыць мавіола — прыбор для прагляду мантіруючых кадраў.

Чарговы кіночасопіс робіць рэжысёр Л. Матусевіч. Ён праглядае плёнку, выбірае найбольш удалыя кадры і склейвае іх у пэўнай паслядоўнасці. Але гэта яшчэ самы першы, чарнавы мантаж. Кожны сюжэт яшчэ шмат разоў будзе праглядацца, да яго будзе складацца тэкст, падбірацца адпаведная музыка, патрэбныя шумы і гук.

Рабочы дзень на студыі канчаецца, а мы яшчэ не наведалі гукацэх, дзе адбываюцца ўсе работы, звязаныя з агучаннем фільмаў, у цэху камбінаваных здымкаў, у грымёрнай і іншых цэхах і аддзелах студыі.

Сёмая гадзіна вечара. Цямнеюць вокны кабінетаў кіностудыі. Пакідаюць студыю тыя, хто не заняты непасрэдна на здымках. Але вось праходзіць гадзіна, другая — і зноў запальваецца святло ў павільёне, пачынаюцца вячэрнія і начныя здымкі.



Мікрафоншчыца Тамара Варушэнка.
Фото В. Комава.

Мурашка — артыст К. Сарокін; яго жонка Палаша — артыстка Г. Краўчанка.



Бабка Сушкова — артыстка Л. Ржэцкая; яе пляменнік Віцька — артыст В. Пятроў.



# Пентагон шалее

Мір! Гэтае слова дарагое ўсім народам, усім сумленным людзям зямнога шара. Колькі самых светлых дум і надзей звязваюць з ім простыя людзі. Гэта клопаты маці аб шчаслівай будучыні свайго дзіцяці, гэта мары закаханых, гэта смелыя імкненні моладзі...

Усе народы імкнуцца да міру, але не ўсе ўрады жадаюць яго. Два гады назад была дасягнута буйная перамога міралюбівага лагера на чале з Савецкім Саюзам. На Жэнеўскай нарадзе ўпершыню за 10 пасляваенных год былі створаны неабходныя ўмовы для значнага палепшання адносін паміж краінамі. Народы ўздыхнулі з палёгкай. Простая жанчына Ірэн Бэйкер з Амерыкі пісала ў газету «Правда»:

«Дарагія сябры ў Савецкім Саюзе! Вітаю вас і віншую з поспехамі ў рабоце на карысць міру. Амерыканскія маткі, таксама, як і я, горача жадаюць аднавіць дружбу паміж нашымі краінамі, якую мы мелі, калі нашы сыны ціснулі адзін другому рукі ў дні перамогі над фашыстамі дзесяць год назад. Нашы сэрцы напаўняюцца гневам, калі мы чуем галасы людзей, якія заклікаюць да атамнай вайны».

Сёння гэтыя злавесныя галасы зноў гучаць на поўную сілу. У эфір і на старонкі прадажнай капіталістычнай прэсы зноў хлынула мутная хваля злоснай і паклёпніцкай антысавецкай прапаганды. Зноў шалеюць «гандляры смерцю», заклікаючы да «крыжовага паходу» супроць Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі. Трасучы атамнай і вадароднай бомбай, яны пагражаюць народам свету велізарнымі разбурэннямі і пакутамі.

Амерыканскі Пентагон (ваеннае Міністэрства) узмоцнена ўзбройвае заходне-германскую армію. На кіруючыя пасады там прызначаны відныя гітлераўскія генералы. У рукі былых гітлераўцаў амерыканская ваеншчына збіраецца перадаць атамную зброю. Гітлераўскі генерал Шпейдэль, ваенны злачынца, які расстрэльваў савецкіх і французскіх грамадзян, прызначаны камандуючым наземнымі сіламі НАТО.

Аб сваіх захопніцкіх планах сёння адкрыта і нахабна заяўляюць афіцыйныя дзеячы Заходняй Германіі. Бонскі статс-сакратар Міністэрства замежных спраў Хальштэйн у час свайго апошняга візіту ў ЗША заявіў, што канчатковай мэтай заходнегерманскіх рэваншыстаў з'яўляецца «стварэнне свабоднай і аб'еднанай Еўропы, якая будзе цягнуцца да Урала». Яму патурае былы старшыня бонскага парламента Элерс, які сцвярджае, што «заваяванне Усходу і Поўднёвага Усходу павінна застацца мэтай усіх немцаў». Гэтыя ваяўнічыя планы і заявы горача падтрымліваюцца амерыканскімі імперыялістамі.

Як відаць, змякчэнне міжнароднай абстаноўкі і спыненне «халоднай вайны» не задавальнялі правячыя колы Заходніх краін, у першую чаргу — ЗША. Усяго праз год пасля Жэнеўскай нарады, на якой главы ўрадаў ЗША, Англіі і Францыі ўрачыста заявілі аб сваім імкненні да міру, англа-франка-ізраільскія агрэсары напалі на свабодалюбівы народ Егіпта, выбухнуў фашысцкі контррэвалюцыйны мяцеж у Венгрыі, які накіроўваўся разведкай, разгарнулася ідэалагічнае наступленне імперыялістаў на сацыялістычны лагер.

Імперыялісты атрымалі сакрушальны адпор свабодалюбівых народаў, непасрэдная пагроза новай сусветнай вайны была ліквідавана. Але яны не супакойваюцца. Яны не навучыліся, нічога не зразумелі.

Ваякі з Пентагона, якія ў дні Жэнеўскай нарады засумавалі, зноў падбадзёрыліся: прэзідэнт Эйзенхауэр прапанаваў кангрэсу праект бюджэта на 1957—1958 фінансавы год, 77 працэнтаў якога вызначана на падрыхтоўку новай вайны. Горача абмяркоўваецца «дактрына Эйзенхауэра — Далеса» — план бессаромнага ўмяшання ЗША ва ўнутраныя справы краін Бліжняга і Сярэдняга Усходу. У Пентагоне радуюцца. Многа новых ваенных баз на чужых тэрыторыях будзе пабудавана ў дадатак да 500 існуючых, якія апаразалі варожым кальцом зямны шар.

Зноў распальваецца ў ЗША ваенная істэрыя і прапаганда агрэсій, атамнай і вадароднай зброі. У гэтай прапагандзе прымаюць удзел не толькі простыя наёмныя пісакі, але буйныя афіцыйныя палітычныя і ваенныя дзеячы імперыялістычных дзяржаў. Далес і Спаак, фельдмаршал Мантгамеры і Рэдфорд, генерал Грунтэр і многія іншыя ўжо выпрабавалі свае сілы на гэтай арэне і заслужылі пахвалу сваіх гаспадароў — манаполій.

Дзяржаўны сакратар ЗША Далес усё больш адкрыта раскрывае планы агрэсіўных намераў ЗША, іх імкненне да сусветнага панавання. Ён заявіў нядаўна, што «не можа быць рэальнага міру для Злучаных Штатаў да таго часу, пакуль існуе ў шэрагу краін сацыялістычны лад».

У той-жа час многія дзяржаўныя дзеячы ЗША любяць пагаварыць пра мір, іх псеўдаміралюбівыя малітвы не менш крывадушныя, чым размовы і запэўніванні вядомага Іудушкі Галаўлёва.

Чаму-ж так шалеюць палітычныя і ваенныя дзеячы ЗША, імкнучыся перашкодзіць спыненню «халоднай вайны»? Раздзімаючы ваенную істэрыю, праводзячы ўзмоцненую гонку ўзбраення, яны выконваюць волю «тысячы сямей» Амерыкі, якія валодаюць палавінай нацыянальных багаццяў краіны. Морганам, ракфелерам, дзюпонам, фордам войны прыносяць незлічоныя барышы. Ужо ў час першай сусветнай вайны яны нажылі мільярды долараў. «На кожным долары, — пісаў Ленін, — сляды крыві — з таго мора крыві, якую пралілі дзесяць мільёнаў забітых і дваццаць мільёнаў пакалечаных». Яшчэ большыя барышы атрымалі імперыялістычныя колы ў час другой сусветнай вайны.

Імперыялісты вельмі добра разумеюць, што без падтрымкі народаў іх ваяўнічыя планы праваляцца. У іх няма ніякіх станоўчых ідэалаў, якія-б адпавядалі інтарэсам працоўных. Таму яны выкарыстоўваюць самую нахабную хлусню, палітычны шантаж, злосную дэзінфармацыю. Гэта галоўныя метады імперыялістычнай прапаганды, якая імкнецца задурманіць народныя масы,ператварыць іх у «гарматнае мяса».

Рэлігія, разбэшчанае буржуазнае мастацтва, ілжэнавука, друк, кіно, радыё, тэлебачанне — усё накіравана імперыялістамі на падман народа. Працоўным увесь час гавораць, што вайна непазбежна, іх запалохваюць міфам аб неіснуючай «савецкай пагрозе».

Яшчэ горш калечацца душы моладзі. У коміксах, кіно, па радыё і тэлебачанню смакуюцца забойствы, жорсткія расправы, ухваляецца культ сілы.

Народы з гневам і агідай адхіляюць людаедскія заклікі імперыялістаў ЗША да новай вайны. Паслядоўная, міралюбівая палітыка Савецкага Саюза выклікае гарачую падтрымку многамільённых мас працоўных ва ўсім свеце. У аснове яе ляжаць ленінскія прынцыпы мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам.

Усе патугі імперыялістаў ЗША павярнуць кола гісторыі назад шляхам ваенных авантур непазбежна пацерпяць крах. Народы свету, абапіраючыся на велізарную эканамічную, палітычную і ваенную магутнасць краін сацыялістычнага лагера, узначальваемага Савецкім Саюзам, сарвуць цемрашальскія планы агрэсараў. Справа міру і дружбы паміж народамі пераможа, як-бы ні шалелі падпальшчыкі новай вайны.

**В. ГОРБАЧ.**




**Тарас ЖЫГАЛКА**

Мал. Ул. Лося.

**Яшка Драніца кахаў Нонку. І яна, здаецца, яго кахала. Калі, бывала, Яшка прыходзіў у госці, дык Нонка вярцелася ля яго, млява заплюшчыўшы вочы, спявала пад гітару рамансы. Кожны раманс для Яшкі быў, як нясмелае і далікатнае прызнанне дзяўчыны ў яе пачуццях.**

**Ішоў дваццаць пяты дзень іх знаёмства. Яшка адчуваў, што Нонка чакае ад яго рашаючага слова, але ён цягнуў. У Яшкі ўсё яшчэ не было свайго пакоя, а Нонка аднаго разу намякнула яму, што наймаць кватэру яна і не думае. І ён маўчаў, як вады ў рот набраўшы.**

**У апошнія дні Нонка трымала сябе неяк дзіўна: яна або з напускной шчырасцю прытулялася да яго, або падала тварам уніз на тахту і яе плечы ўздрыгвалі ці то ад плачу, ці то ад прыдушанага смеху. Яшка разгубіўся.**

**На дваццаць шосты дзень ён, як і заўсёды, прытупаў да Нонкі пасля рэпетыцыі. Нонка была не адна. На тахце, падкурчыўшы ногі, сядзела касенькая яе сяброўка Эльвіра.**

**Абедзве так былі заняты вывучэннем фасону новых купальных гарнітураў, што амаль не заўважалі Яшку. Потым Элька ўзяла балалайку, а Нонка гітару і дуэтам пачалі спяваць прыпеўкі:**

**Мілы ходзіць за акном**
**Кепачка у клетку.**
**Я зімою не працую —**
**Выхадная ўлетку.**

**Яшка разумеў, што і прыпеўкі, як раней бывала рамансы, прысвячаюцца яму. Але ён ніяк не мог уцяміць, куды хіліць Нонка. Элька перадыхнула, няміла зірнула на Яшку і зноў завяла:**

**Залаты пярсцёначак**
**Падарыў міленачак.**

**Нонка адразу падхапіла:**

**Я сказала:—«Мілы Клім,**
**Купі «Пабеду» або «Зім».**

**Гэта ўжо быў каменьчык у яго агарод. Ён яшчэ ніякага падарунка не зрабіў і таму Нонка злуецца. Прыдзецца дзе-небудзь пазычыць грошай і купіць падарунак. Тым часам Нонка выказалася не двухсэнсоўна. Выказалася, вядома, прыпеўкай:**

**Выйду, выйду у садочак,**
**Там пад вішняй лаўка.**
**На прыкмеце ёсць жаніх—**
**Ухажору адстаўка.**

**Ідучы дамоў з параненым сэрцам, Яшка**

Драніца прыпамінаў усе абставіны свайго жыцця.

Ад'язджаў ён у горад у самы прыпар. Ніхто яго не праводзіў. Бацька ўскінуў на калёсы фанерны куфэрак і, пакуль Яшка ўладжваўся, даваў сыну наказ.

Яшка слухаў неахвотна. Навошта яму тыя парады і пажаданні: даў-бы лепш лішніх рублёў сто на дарогу. Але стары пра грошы не заікаўся, ды іх у яго і не было.

Усю дарогу Яшка складаў тады самыя смелыя, пераможныя планы. Ён бачыў сябе ўжо славутым, у шырокім канарэечнага колеру пінжаку і вузенькіх штанах у клетку. У такім гарнітуры да іх у калгас прыязджаў аднойчы «сусветнавядомы», як пісала афіша, ілюзіяніст Бен-Бахар.

Яшка сёе-тое дасягнуў. У яго быў бенбахараўскі гарнітур. Навучыўся ён граць на баяне, выступаць за невялікую плату на сцэне, але пераможцам не стаў, нават не пакарыў дзяўчыны, якую так упадабаў.

Яшка быў расчараваны. У галаве мроіліся бязладныя думкі. Пра нявечнасць пачуццяў, пра нетрываласць усяго ў жыцці. Чорныя думкі не знаходзілі выйсця. Прышоўшы дадому, Яшка сеў за стол. Спачатку ён хацеў напісаць ліст да Нонкі, выказаць ёй сваё абурэнне і ўсё, што зараз думае пра яе. Але хутка гэты намер знік, бо Яшка ведаў, што Нонка да слоў глухая.

Тады ён пачаў чыркаць пяром па паперы, і неўзабаве атрымаліся чатыры рыфмаваныя радкі, нібыта таксама прыпеўкі. Яшка нават здзівіўся. Дасюль ён не прыкмячаў за сабой такога таленту. Можа, паэзія яго прызванне? Ну, тады ён яшчэ дакажа Нонцы. Будзе яна яшчэ каяцца, што неабдумана адштурхнула славутасць. І Яшка шпарыў радок за радком, выкладаў на паперы свае думкі наконт нешчаслівага кахання. Іншага ў яго на душы не было.

Верш Яшку спадабаўся, хоць крыху насцярожвала агульнае адмаўленне ўсяго на свеце. Так, казалі, пісаць не можна. Ды Яшка адчуваў, што ён усё яшчэ кахае дзяўчыну, а ў вершы ён пісаў, што ніякага кахання няма, што ўсё на свеце глупства.

Верш ён паслаў у рэдакцыю і Нонцы. Неўзабаве яго сустрэла касенькая Элька. Яна, усміхаючыся, глядзела на яго адным вокам (другое было скіравана некуды ўбок і ўніз), і ў яе позірку было невыказнае захапленне.

— Яшка, ты — талент. Самародак, можа нават сам Ільл Набатаў. Ці паслаў ты верш у рэдакцыю?

Яшка, апусціўшы вочы, адказаў:

— Там іншай думкі. Кажуць, што я нігіліст...

Элька зжахнулася:

— Якое яны маюць права цябе кампраметаваць. У цябе такая перспектыва. Яшка, я сама ні ў што не веру. Няма на свеце кахання. Дружба — іншая справа.

Паэт-самародак усміхнуўся, падумаў: «з тваім звычайным аблічам толькі адмаўляць каханне». Але ўголас адказаў, каб здзівіць Эльку:

— Што такое дружба? Эксплуатацыя чалавека чалавекам.

Элька пляснула рукамі:

— Ой, як праўдзіва, проста геніяльна. Хопіць залежаць адзін ад другога. Вось сям'я...

Яшка не даў ёй скончыць, важна кінуў:

— Сямейнае жыццё — хамут.

Элька аж сумелася. Наконт сям'і ў яе былі свае планы, але выказаць іх яму цяпер значыла адштурхнуць хлопца ад сябе. Элька даўно збіралася адбіць Яшку ад Нонкі. Таму яна насуперак сабе прамовіла:

— О так, сям'я — гэта нудна, — і тут-жа запрасіла няшчаснага да сябе, каб уцешыць яго.

У Элькі збіралася выкшталцоная кампанія. Былі тут дзве пары стыляг. Адзін хлопец у шырокіх штанах і доўгім вузкім пінжаку, другі наадварот — у вузенькіх штанах і шырокім пінжаку. Адна дзяўчына была адзета ў звыш меры дэкальтаванае плацце і прычасана ззаду наперад. Другая — закрывалася каўнерыкам па самыя вушы, але затое спадніца была разрэзана ледзь не да самага пояса. І прычоска ў дзяўчыны была асаблівая: «дзікая Бара» — паска валасоў звешвалася на твар, закрываючы вока і шчаку.

Дэкальтаваная дзяўчына часта-часта лыпала вачыма і ні з таго ні з сяго раптам кідала якое-небудзь недарэчнае пытанне. Новаму чалавеку можна было падумаць, што ў дзяўчыны «не ўсе дома», але ў гэтай кампаніі, відаць, ніколі не здзіўляліся.

Верш маладога таленту быў сустрэты вельмі прыхільна. Ахвотніцы да ўсяго моднага адразу-ж узялі яго на сваё ўзбраенне. Яны пачалі таксама ўсё адмаўляць. Тут-жа, пакуль выпілі некалькі бутэлек маскоўскай і з'елі добрую палавіну тамбоўскай шынкі, нованароджаныя нігілісты раскрытыкавалі ўсё, што траплялася на язык.

Выходзіла так, што ў нас нічога няма, і нічога мы не ўмеем рабіць. І калі нейкі асцярожны юнак нясмела паспрабаваў запярэчыць: у нас, маўляў, ёсць Брацкая ГЭС, дык п'яны стыляга ў вузенькіх штоніках істэрычна закрычаў:

— А з чым яе ядуць, гэтую ГЭС? К чорту ўсё,—і ці то ад лішку пачуццяў, ці ад гарэлкі, клюкнуў носам у стол, а потым паволі з'ехаў на падлогу.

«Дзікая Бара» пляснула рукамі і, нібы пераняўшы ад сябра-стылягі эстафету, аўтарытэтна заявіла:

— Я хачу жыць у сваю асалоду. Навошта мне тая ГЭС. І чаму ў нас няма такіх сімпатычных пражак да панчох, як, напрыклад, у Францыі. О, калі-б я змагла паехаць вакол Еўропы! Я купіла-б сабе такія пражкі..

Свежаспечаны паэт Яшка Драніца ў душы ўсміхаўся: языком можна лепятаць.

Адмаўленне ўсяго, якое пасеяў Яшка, увайшло ў моду з таго вечара. Яшка зрабіўся героем. Новая роля яму надта падабалася. Вядома, ён Нонкі не пакарыў, але ў яго знайшлося нямала другіх прыхільнікаў. Яшка сваіх прыхільнікаў не любіў, называў іх дурнямі і крэцінамі, але жыць без іх не мог. Увага, якую аказвалі яму, цешыла, хоць зыходзіла яна ад недалёкіх і нават ненадзейных асоб. Яшка выбраў сабе адпаведную позу, паходку і млява-абыякавы выраз твару. Прышоўшы на які-небудзь вечар, ён садзіўся і, прыжмурыўшы вочы, прыдаўшы твару пагардлівы выгляд, маўчаў, а потым абрываў якога-небудзь прамоўцу словамі: «глупства», «дурань», «дзівак»...

Яшка знаходзіўся ў зеніце сваёй славы. Яго ўчынкі пераймалі, ім захапляліся, а яго афарызмы бясконца паўтараліся.

Спачатку Яшка крыху насцярожваўся, думаў, а раптам яму скажуць:

— Такі-сякі, ты ўсё адмаўляеш, а што ты сам зрабіў такое. Сала бацькава ясі, хлебам закусваеш, а на ўсіх глядзіш з пагардай.

Але камсамольскія работнікі маўчалі, бо, відаць, былі заняты нечым іншым, як яны думалі, больш важным. І Яшка адчуў сябе яшчэ смялей. Ён хадзіў надзьмуты. І цяпер быў упэўнены, што ён пераможца.

Між тым лёс рыхтаваў яму жарт. Касенькая Эльвіра не дарэмна захаплялася яго вершамі. Пакрысе яна пляла сетку, у якую спадзявалася злавіць Яшку. Так і здарылася. Аднойчы пасля добрай выпіўкі «талент» прачнуўся не дома, а ў элькіным пакоі. «Што гэта?» — з жахам падумаў ён і хацеў адзецца ды ўцекчы. Але элькіна маці падняла такі гоман, што Яшка абмяк.

Усе вельмі здзівіліся, што Яшка Драніца жэніцца. Асабліва была здзіўлена «Дзікая Бара», якая і сама ўжо думала над тым, як-бы прыбраць да рук славутага нігіліста.

Пасля вяселля кампанія нігілістаў распалася. Яшка па прывычцы спрабаваў даказаць цёшчы, што нічога святога на свеце няма, усё глупства і ён пагарджае каханнем, абавязкам і сямейным шчасцем. Але цёшча, узяўшыся ў бакі, пагрозліва паглядзела на Яшку і сказала:

— Жэрці смачна любіш? Бач ты, нігіліст іржавы,— і ўсунула яму ў рукі вялізны вузел з радысам, які збіралася несці прадаваць на базар. — Я з цябе хутка выб'ю гэтую дурасць...

Малады муж з надзеяй глянуў на Эльку: няўжо яна так хутка забылася пра свае нігілістычныя погляды. Элька касавурыла некуды ўбок і маўчала.

І Яшка змірыўся са сваім лёсам. Яму было толькі крыўдна, што адзін з усёй кампаніі так бясслаўна адрокся сваіх поглядаў. Але хутка і гэтая крыўда прайшла. «Дзікая Бара» выйшла замуж за стылягу ў вузенькіх штоніках, а тая дзяўчынка, што прычэсвалася ззаду наперад, за стылягу ў шырокіх штанішчах. Яшка адразу павесялеў, асабліва, калі пачуў ад Элькі, што «Дзікая Бара»—гразнуха і недацёпа, не можа мужу як след есці зварыць і ўсе стравы прыпраўляе валасамі.

Можа Элька і схлусіла, але Яшку такая навіна была прыемна. Яго Элька не благая гаспадыня, толькі скупаватая крыху, але дарма.

А дзе-ж Нонка? Нонка, якая неабдумана адштурхнула Яшку, так і не выйшла замуж. Калі яна дачулася, што яе сяброўкі знайшлі сабе мужоў, яна «ўзялася за розум» і таксама пачала прапаведваць нігілістычныя ідэі — авось які дурань клюне.



# ШАХМАТЫ

**пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА**

## В. Смыслоў — чэмпіён свету па шахматах

В. В. Смыслоў.

Каля двух месяцаў працягвалася ўпартая барацьба паміж двума гросмайстрамі — М. Батвіннікам і В. Смысловым. Людзі ўсяго свету напружана чакалі вынікаў гэтага самага цікавага паядынку двух мацнейшых шахматыстаў свету.

Другі раз сустрэліся гэтыя два выдатныя гросмайстры ў матчы. У 1954 годзе іх сустрэча закончылася нічыёй з вынікам 12 : 12, што дало па ўмовах розыгрышу матчымасць Батвінніку захаваць сваё высокае званне.

У найцяжэйшай барацьбе Смыслоў зноў заваяваў права іграць матч на першынство свету, каб змагацца за выйгрыш. Але і Батвіннік не мог не імкнуцца захаваць за сабой званне чэмпіёна свету, падоўжыць чэмпіёнства мінімум яшчэ на 3 гады.

Першая партыя матча, што адбылася нядаўна, паказала, што барацьба будзе напружанай: Смыслоў атрымаў перамогу! Потым паміж некалькіх нічых дзве перамогі атрымаў Батвіннік, які захапіў ініцыятыву ў матчы. У шостай партыі Смыслову ўдалося зноў перамагчы і зраўняць лік. Але, пачынаючы з восьмай партыі, Смыслоў моцна захапіў ініцыятыву, хоць розніца ў ачках увесь час вагалася паміж +1, +2.

Пераломнай трэба лічыць пятнаццатую партыю. Лік к гэтаму часу быў $7^1/_2:6^1/_2$ у карысць Смыслова. У пятнаццатай партыі Батвіннік, які іграў з вялікім уздымам, дасягнуў да перапынку значнай перавагі і, здавалася, меў усе шансы зраўняць лік. Нечаканасці пачаліся пры дайгрыванні. Адну за другой рабіў Батвіннік памылкі, і ўсё больш нічыйных магчымасцей з'явілася ў Смыслова. У выніку гэтая партыя закончылася мірным зыходам. Можна сказаць, што гэты выпадак надламаў жалезную волю Батвінніка; ён страціў упэўненасць у перамозе над Смысловым. Семнаццатая партыя вырашыла ўжо зыход барацьбы. Батвіннік пасіўна разыграў дэбют і доўгі час вёў вельмі складаную абарону. Калі дайгрыванне партыі было адкладзена на наступны дзень, здавалася, што Батвінніку ўдалося пазбегнуць горшага і зраўняць ігру. Аб яго перакананасці ў добрым зыходзе партыі сведчыць хоць-бы працяг нічыёй у дзень дайгрывання. Смыслоў адхіліў «мірныя перагаворы» і бліскуча даказаў правату сваёй пазіцыі.

Вось як праходзіла барацьба ў дзень дайгрывання.

Белыя — Батвіннік. Чорныя — Смыслоў.



Далей было: 41. ...Крh6, 42. Кс2 Се7, 43. Крg3 Крh5, 44. Крf3 Кр : h4, 45. Ке1 g5, 46. fg Кр : g5, 47. Кс2 Сd6, 48. Ке1? (Лепш было 48.а3 і далей b4. Але белым здаецца, што пазіцыя іх непрыступная.) 48. ...Крh4! 49. Кс2 Крh3, 50. Ка1 Крh2, 51. Крf2 Сg3+, 52. Крf3 Сh4!, 53. Кс2 Крg1, 54. Кре2 Крg2. (Высвятляецца, што белыя ў «цугуванзе» і безабаронныя супраць абыходнага манеўра чорнага караля.) 55. Ка1 Се7. 56. Кс2 Крg3, 57. Ке1 Сd8, 58. Кс2 Сf6, 59. а3 Се7, 60. b4 а4, 61. Ке1 Сg5, 62. Кс2 Сf6, 63. Крd3 Крf2, 64. Ка1 Сd8, 65. Кс2 Сg5, 66. b5 Сd8, 67. Кb4 Сb6, 68. Кс2 Са5, 69. Кb4 Кре1, і Батвіннік спыніў шахматны гадзіннік і павіншаваў партнёра з перамогай. Канец партыі, праведзены Смысловым, выключны па прыгажосці і разліку!

Далей Батвіннік ужо амаль не змагаўся. Толькі ў двух партыях іграў ён на абвастрэнне (пры гэтым адну з іх прайграў), а астатнія хутка імкнуўся звесці да нічыёй. У выніку пасля 22-й партыі Смыслоў набраў «запаветныя» $12^1/_2$ ачка і заслужана заваяваў званне чэмпіёна свету.

Новаму чэмпіёну ў сакавіку гэтага года споўнілася 36 год. Сямі год пачаў ён іграць у шахматы. Першым настаўнікам у гэтай галіне быў яго бацька — Васілій Осіпавіч Смыслоў, які сам іграў на ўзроўні першага разраду. Ад бацькі В. Смыслоў атрымаў і любоў да музыкі, спеваў (бацька быў нядрэнным аматарам-спеваком). Цяпер В. Смыслоў вучыцца вакальнаму майстэрству ў лепшых маскоўскіх настаўнікаў. Голас Смыслова нярэдка чуем мы па радыё. Нядаўна ён атрымаў запрашэнне паступіць на работу ў тэатр імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчэнка ў Маскве.

Але заняткі музыкай В. Смыслоў спалучае з сур'ёзнай работай над шахматамі. А шлях яго як шахматыста выключна бліскучы. У 17 год атрымаў ён званне майстра, а праз два гады ўжо заваяваў пачэснае званне гросмайстра. Было гэта ў сакавіку 1941 года. З гэтага моманту пачалася яго ўпартая барацьба за званне чэмпіёна свету. Доўгі час ён уступаў Батвінніку і нярэдка праігрываў прынцыповыя сустрэчы. Але гэта не прапала дарэмна. Метадычна ўзмацняў ён сваю ігру. Асабліва адзначалася ігра Смыслова ў эндшпілі. Можна з упэўненасцю сказаць, што роўных яму няма пакуль што ў гэтай заключнай стадыі партыі. Наогул, усе чэмпіёны свету адзначаліся заўсёды асаблівым майстэрствам ігры ў гэтай стадыі партыі. Так філігранай тэхнікай валодалі Ласкер, Капабланка, Алёхін. Вельмі высока майстэрства ў эндшпілі ў Батвінніка. Але Смыслоў, здаецца, пераўзышоў Батвінніка, таму і выйграў. Асабліва ярка прадэманстраваў ён гэта ў матчы, які закончыўся. Поспехі Смыслова надзвычай вялікія. Адзін зарубежны шахматыст яшчэ да матча статыстычна даказаў, што Смыслоў — лепшы шахматыст свету. Матч, які адбыўся,— лепшы доказ гэтаму падліку.

Можна пажадаць В. Смыслову, які знаходзіцца ў росквіце творчых сіл, далейшых поспехаў. Савецкі ўрад высока ацаніў творчую працу В. Смыслова і М. Батвінніка — у дзень матча яны былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна.

# РЫБА — ЛЮДАЕД

Калі-б драпежнікі марскіх і рачных глыбінь падзяляліся на больш і менш пражэрлівых, дык у спісе самых лютых на адным з першых месц, бясспрэчна, была-б невялікая прэснаводная рыбка Паўднёвай Амерыкі — пірайя. Характарызуючы хцівасць пірайі, іхтыёлагі ніяк не могуць знайсці для яе параўнанне: нават параўнанне з гіенай, акулай, кракадзілам не дае поўнага ўяўлення аб яе драпежніцтве. Мясцовыя жыхары басейна Амазонкі і іншых рэк трапічнай часткі Паўднёвай Амерыкі называюць яе вельмі лаканічна — рыба-людаед. Пірайю можна лічыць дробнай рыбай—даўжыня яе не болей 30 см. Яна сплюснутая ў баках, накшталт сямейства карпавых. Выгнуты корпус дазваляе ёй вельмі хутка, амаль маланкава, рухацца ў вадзе. Тупое рыла гэтага рачнога драпежніка канчаецца шырокай пашчаю з двума радамі буйных трохвугольных зубоў. Па форме зубоў яе далучаюць да сямейства пілазубаў. Пакрытая дробнай луской, скура яе на спіне мае блакітнае адценне і жаўтаватае бруха з чорнымі кропкамі.

Жывіцца яна мясам абсалютна ўсіх рыб і жывёл, што аказаліся ў зоне яе дасягальнасці. Памеры ахвяры пірайю не бянтэжаць. Няма такой рыбы або жывёлы, якая-б не пазбягала сустрэчы з гэтай маленькай рыбкай. Яна кідаецца на рыб, рачных птушак, тапіраў, быкоў і іншых жывёл, што прыходзяць на вадапой. Да сваёй ахвяры яна кідаецца імгненна і люта, адхватваючы ад яе сваімі вострымі, як брытва, зубамі кавалкі акрываўленага мяса. Пакусаная пірайямі жывёла нярэдка з-за страты крыві бывае не ў стане дабрацца да берага. Нават у жывёл, якія маюць ахоўныя пакровы, напрыклад , у такіх, як рознавіднасць амерыканскіх кракадзілаў—алігатараў і кайманаў, пірайі часам адгрызаюць лапы і хвасты. Ад пірайяў яны ратуюцца, пераварочваючыся на спіну і падстаўляючы сваі пірайяў сваё панцырныя прыкрыцці. Каб напіцца вады, сабакі і коні ідуць на хітрыкі: хутка замуціўшы ваду ў адным месцы і тым прыцягнуўшы ўвагу пірайяў, яны стрымгалоў бягуць у іншае месца і п'юць ужо там. З-за пірайяў рыбная лоўля часам бывае зусім дарэмнай справай. Трапіўшы ў сеці, пірайя з'ядае іншую рыбу, а сама ўходзіць, парваўшы снасці. Нападае яна і на чалавека.

Пірайі любяць ціхія глыбокаводныя месцы са скалістым берагам. Звычайна трымаючыся на рачным дне, яна хутка ўсплывае на паверхню, як толькі заўважыць здабычу. А нюх у пірайі адмысловы. Варта праліць у ваду кропельку крыві ці кінуць акрываўлены кавалачак мяса, як да гэтага месца праз 1—2 мінуты невядома адкуль збіраецца мноства гэтых рыб. Таксама, як акулы, яны любяць плысці за рачнымі суднамі ў надзеі пажывіцца адкідамі.

Нерасціцца пірайя некалькі раз у год, таму што ўмовы жыцця ў раёне р. Амазонкі і іншых трапічных рэках Амерыкі ўвесь год аднолькава спрыяючыя. Самкі мечуць клейкую ікру на надводныя часткі каменняў і раслін. Аблўшы не малаком, самец затым шматразова апырсквае яе вадою. Малькі вылупліваюцца з ікры на працягу сутак, таму што тэмпература вады, якая дасягае 27—28°, спрыяе хуткаму працэсу развіцця зародка.

Пірайя, як падобныя да яе ў генетычных адносінах ласасёвыя, сялядцовыя, вугрыстыя і іншыя высокародныя рыбы нашых рэк, ядомая. Лоўля яе лёгкая—яна ідзе на любую прыманку. Нават кінутая ў ваду чырвоная тканіна прыцягвае гэтых пражэрлівых драпежнікаў.

**Х. САЛАМОНІК.**

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак часопіса «У дапамогу політэхнічнаму навучанню».**


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ (намеснік рэдактара), Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 03484. Фармат паперы $70\times108^1/_8$. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20 000 экз. Здадзена ў набор 13.V.57 г. Цана 2 руб. Заказ 318. Падпісана да друку 31/V-57 г.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# *Прамінула лета*

Сл. А. РУСАКА | Муз. Г. ВАГНЕРА.

Мерна

Пра_мі_ну_ла ле_та, сон_цам а_ба_грэ_та, адз_ві_не_лі птушак га_ла_сы, ад_шу_ме_ла жні_ва за_ла_ці_стай ні_вы, ад_спя_ва_лі ў по_лі ка_ла_сы. Ілю



Прамінула лета,
Сонцам абагрэта,
Адзвінелі птушак галасы,
Адшумела жніва
Залацістай нівы,
Адспявалі ў полі каласы.

Толькі не сціхае
Песня веснавая,
Песня майго сэрца пра палі,
Пра лугі, аблогі,
Ды гаі, разлогі,
Што красой асенняй расцвілі.

Пра дзяўчынку тую,
Сэрцу дарагую,
Мчыцца мая песня, нібы птах,
Што са мной хадзіла,
Радасць мне дарыла,
Што са мной хадзіла па палях.

Прамінула лета,
Сонцам абагрэта,
Ападае лісце на зямлю.
Поле ды узмежкі,
Родныя мне сцежкі,
Яшчэ болей сэрцам вас люблю.

